УДК 811.161.3(075.3)
ББК 81.2Беи-9
Б43

Рэкамендавана да друку цыклавой камісіяй мовы і літаратуры (пратакол № 4 ад 25.11.2011 г.) і Навукова-метадычным саветам Установы адукацыі «Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж» (пратакол № 5 ад 22.12.2012 г.)

Складальнік
**Н. М. Акуліч**, выкладчык беларускай мовы і літаратуры МДВРК

Рэцэнзент
**І. Р. Ракей**, выкладчык беларускай мовы і літаратуры МДВРК

Б43 **Беларуская** мова : практыкум для навучэнцаў усіх спецыяльнасцей / скл. Н. М. Акуліч. – Мінск : МДВРК, 2012. – 92 с.
ISBN 978-985-526-135-4

У практычны матэрыял па беларускай мове ўвайшлі практыкаванні па наступным раздзелам сучаснай беларускай мовы: фанетыка, арфаэпія, арфаграфія, лексікалогія, марфалогія і стылістыка.
Прызначаны для навучэнцаў і выкладчыкаў каледжа.

**УДК 811.161.3(075.3)**
**ББК 81.2Беи-9**

**ISBN 978-985-526-135-4**





## Прадмова

Практычны дапаможнік прызначаецца для навучэнцаў і студэнтаў дзённага аддзялення, аддзялення безадрыўнай формы навучання і для вакладчыкаў прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

Складзены практычны матэрыял у адпаведнасці з праграмамі па вывучаемым дысцыплінам. У ім змешчаны разнастайны дыдактычны матэрыял для практычных заняткаў па сучаснай беларускай мове, які ахоплівае практыкаванні па фанетыцы, арфаэпіі, арфаграфіі, лексікалогіі, марфалогіі, стылістыцы. Фактычны матэрыял падаецца ў выглядзе асобных слоў, словазлучэнняў, сказаў і звязных тэкстаў, узятых з твораў вядомых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, з навуковай і публіцыстычнай літаратуры.

Практыкаванні маюць на мэце паглыбіць і замацаваць тэарэтычныя веды навучэнцаў і студэнтаў па беларускай мове, павысіць іх пісьменнасць і культуру мовы, паспрыяць фарміраванню навыкаў у галіне дзелавых зносін, развіць здольнасць самастойна даследаваць моўныя з'явы, граматна выказваць свае думкі, узбагаціць лексічны запас у вобласці беларускай тэрміналогіі, паглыбіць веды ў галіне прафесійнай лексікі.

Прыведзены практыкаванні рознага характару і рознай ступені цяжкасці. Гэта дае магчымасць выкарыстоўваць матэрыял пры індывідуальным і групавым навучанні ў аўдыторыі і пры выкананні дамашніх заданняў. У залежнасці ад мэты і характару работы, а таксама ад узроўню тэарэтычнай падрыхтоўкі навучэнцаў, выкладчык можа спрасціць некаторыя заданні або ўскладніць іх, выкарыстаць матэрыял цалкам, часткова або выбарачна.

Вывучэнне сучаснай беларускай арфаграфіі і марфалогіі завяршаецца тэставымі заданнямі, што дапаможа навучэнцам праверыць сваю пісьменнасць на базе атрыманых ведаў, а таксама сфарміраваць навыкі прымянення вывучаных арфаграфічных, фанетычных правілаў. Пры выкананні заданняў навучэнцам прыйдзецца каардынаваць свае веды па лексікалогіі, фразеалогіі, марфалогіі і сінтаксісе, што дазволіць ім павысіць сваю агульную моўную кампетэнцыю.

Выкананне практыкаванняў патрабуе ад навучэнцаў добрага ведання праграмнага матэрыялу.

# ФАНЕТЫКА

***Практыкаванне 1.*** *Падкрэсліце словы, у якіх колькасць літар і гукаў не супадае.*

Выкананне, раздзяліць, кантрасны, папялішча, небяспека, індустрыяльны, выяўленчы, перавозчык, сейбіт, заіскрыцца, беспрацоўе, пераключальнік, адзвініш, барацьба, дзераза, дождж, дзянькі, заціхаць, капаюць, люблю, мерыдыян, павільён.

***Практыкаванне 2.*** *Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць глухія гукі.*

Адталы, дзвесце, малацьба, перавозчык, мазь, узвышша, звернешся, рассекчы, слаўгарадскі, дзьмуць, рэдзька, мядзведзь, мазь, дождж, рыбінка, арбітраж, рафінад, уздыхнуць, адцадзіць.

***Практыкаванне 3.*** *Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць мяккія гукі.*

Вераб'і, знесці, дзверы, раскіснуць, нясвіжскі, цвёрды, счарнець, свеціць, пэндзаль, падзарабіць, з'есці, світанне, уздзеянне, схавалі, з'яўленне, сведкі, сябры, цьмяны, блішчыць, аддзіраў, гены, змесці, дзьмуць, сейбіт, сем, голуб, двух'ярусны, бельэтаж, дзе-небудзь, старшыня, здолець, збіўся.

***Практыкаванне 4.*** *Падкрэсліце ў словах галосныя, якія абазначаюць два гукі.*

Сям'я, мерыдыян, бяроза, дзянёк, іскра, павільён, люблю, салаўі, Ядвіся.

***Практыкаванне 5.*** *Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць звонкія.*

Пераплётчык, касьба, падсыпаць, абхазскі, парыжскі, заказчык, носьбіт, дзядзька, разбіць, дабівацца.

***Практыкаванне 6.*** *Затранскрыбіруйце словы згодна з літаратурнымі нормамі.*

Усмешка, сцежка, бярозка, пясчаны, перавозчык, дашчаны, сыраежка, парог, добрушскі, карэліцкі, настаўніцтва, раздатчык, Турэччына, сваяцкі, праязны, знайсці, свята.

Грузчык, бесчалавечны, пясчынка, з шафёрам, нясвіжскі, смяешся, з часопіса, расшыфроўка, адгрузчык, з жыта, ракетчык, прыходчык, брацкі, гарадскі, на рэчцы, адцадзіць, латышскі, праездджы, салдатчына.



***Практыкаванне 7.*** *Падкрэсліце ў словах зацвярдзелыя зычныя.*

Чысты, крычаць, астуджаны, цэп, будзіць, буджу, грады, заўвага, вадзіць, шоўк.

***Практыкаванне 8.*** *Падкрэсліце словы, у якіх ёсць асіміляцыя зычных.*

Дзейнасць, дзейнічаць, развіццё, грамадства, заняпад, ткацтва, ад'язджаць, дождж, маразы, шчасце, гарох, прызба, скарб.

***Практыкаванне 9.*** *Пакажыце ў транскрыпцыі, якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары.*

**З жалю**, раскінуць, **без** радасці, **без жалю**, **без** шкадавання, **ад п**лота, абсыпаць, **не мо**жа, невылечны, **не** прыйшоў, **не** зелянеюць, **з** шкадаваннем, рассыпаць, збіраць, **з** чароту, **з** серады, **з** пятніцы.

***Практыкаванне 10.*** *Запішыце словы ў транскрыпцыі.*

Аб'ём, бар'ер, батальён, бур'ян, Дар'я, з'езд, Касьян, носьбіт, радасць, сядзьце, песня, змена, просьба, сустрэць, выкладчык.

***Практыкаванне 11.*** *Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць шыпячыя зычныя.*

Узмежжа, медзь, жыллё, перабежчык, павуціна, ноччу, дождж, аблічча, аржаны, аджыць, заўважыць, лепш, шаптаць, цудоўны, прыбяжыць.

***Практыкаванне 12.*** *Падкрэсліце ў словах прыстаўныя зычныя.*

Водбліск, вобразны, навокал, вузел, адгэтуль, вока, вароты, вастрэй, ваколіца, вострые, гадзіна, валасы, водгалас, воблака, водны, вольны, ганчар, завастрыць, дагэтуль, завод, Ганна, вусень, водкуп, гонар, гарачы, васямнаццаць, вечар, гэтакі.

***Практыкаванне 13.*** *Затранскрыбіруйце словы.*

Зжаць, з жыта, сшытак, з шапкі, пясчаны, чыгункі, рэчцы, бочцы, стараешся, нясвіжскі, шведскі, ручнік, смачны, людцы, лётчык, пілотцы, наводчык, узнёслы, адчапіся.

Сцерагчыся, незадаволенасць, цяслярыць, уз'язджаць, незабяспечанасць, свядомасць, змесці, скінуць, дзьме, счарнець, адцадзіць, лётчык, цікавішся, сямнаццацігадовы, адтуль, вёскамі, павільёнамі.

Абкладчык, адплата, будка, горад, дужка, лодка, ёд, просьба, сцяг, матчына, на бярозцы, возчык, дарожны, белавежскі, цюрых-

скі, студзеньскі, лепельскі, дзівішся, аб'ехаць, мыешся, бераг, верф, лёгкі, голуб, рэзкі, сем, б'е.

***Практыкаванне 14.*** *Укажыце, якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары ў словах.*

Сце**ж**ка, выкла**д**чык, зага**д**ка, мала**ц**ьба, з**ж**аць, на форта**чцы,** а**д**чыніць, гарадскі, бя**сш**умны, збера**г**чы, а**б**кла**д**чык, дзя**дз**ька, ле**г**кі.

***Практыкаванне 15.*** *Падкрэсліце ў словах зычныя, што аглушыліся.*

Спецгрупа, футбол, загадкавы, сцежкамі, адкінуў, блізка, дарожны, слуп, лёгкі, мяккі, бярозавы, сродкі, мноства, сядзь.

***Практыкаванне 16.*** *Вызначце ў словах фанетычную з'яву – аглушэнне.*

Сцежкамі, малацьбой, носьбітамі, дарожка, снег, спецгрупа, пад палкай, хто-небудзь, адсутнасць, перабежчык, адстаяць, цяжкавата.

***Практыкаванне 17.*** *Пастаўце націск у словах.*

Дакумент, працэнт, старэнькі, вярба, прынесла, нянавісць, накрыўка, атлас, квартал, каменны, калоссе, замак, сфатаграфаваць, гушчар, буйны, веснавы, прысады, ласкавы.

***Практыкаванне 18.*** *Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць мяккія зычныя.*

Схавалі, з'яўленне, сведкі, сябры, цьмяны, блішчыць, аддзіраў, світанне, гены, змесці, дзьмуць, дзверы, сейбіт, сем, голуб, двух'ярусны, бельэтаж, дзе-небудзь, старшыня, здолець, збіўся.

***Практыкаванне 19.*** *Адзначце словы, вымаўленне якіх не адпавядае напісанню.*

Спазніцца, раскінуць, не ведалі, палёгка, на варце, скіраваць, з вёскі, Задзвінне, джала, паказчык, пазнішчаць, раскідзісты, гладчэйшы, рэкардсмен, паддобрыцца, звечара, скептык, разжаліцца, аскрэбці, аджыць, згінуць, магчымасць, знічка, дрозд, расшчодрыцца, зласлівы, расхістаць, ручнік, лагчына, не просіць, небасхіл, разліў, расшыфраваць, з хаты, раскідаць, падцягнуць, нясвіжскі, раздажджыцца, разлік, у лодцы, расхіліць, вадзіца, заезджы, пісьмовы, не ўзяў, схіліць, здзівіцца, спартсмен, згаджацца, смяешся, не мог, з людзьмі, палескі, прароцтва, скеміць, быльнёг, цвёрды, з лесу, снядалак, не бачыць, згінаць, праз жыта, футбол, прыязджаць, схема, у спрэчцы, скібіна, з ліпеня, ураджай, сядзьце, скінуць, без памылак, зжаты, ткацкі, дождж, пяшчота, на вяровачцы, звычка, не вынесла, з верасу, адвячорак, параходства, брацкі, сяржант, дзяўчына, збярэшся, не толькі, камандзір, лісце, вакзал, скінуць, разжыцца, бераг, адламаць, магчымасць, стагнаць, доктар, грэбці, парта, лічба, маска, медзь, легкі, добры, носьбіт, карта, мяккі.



## АРФАГРАФІЯ, АРФАЭПІЯ, ПРАВАПІС

### Некаторыя выпадкі ўжывання вялікай літары

***Практыкаванне 1.*** *Прачытайце. Растлумачце, чаму адны словы пішуцца з вялікай літары, а іншыя – з малой.*

Адам Міцкевіч, Іван Дамінікавіч Луцэвіч, Усяслаў Чарадзей, Мурка, горад Кобрын, вёска Мярзовічы, Віцебская вобласць, возера Нарач, Лагойскі раён, зорка Венера, Казярог, Малая Мядзведзіца, паэма «Тарас на Парнасе», часопіс «Першацвет», балет «Карсар», спартыўнае таварыства «Дынама», выдавецтва «Навука і тэхніка», ЮНІСЕФ, Ефрасіння Полацкая, Рычард Львінае Сэрца, Кузьма Чорны, Міхаіл Раманавіч, Пярун, «Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна», горад Мінск, мінчане, рака Пціч, Полацкае княства, Зеўс, Брэсцкая вобласць, Шарык, Марс, Млечны Шлях, газета «Літаратура і мастацтва», БДУ, завод «Ударнік», камедыя «Ідылія, або Сялянка», Кармянскі раён, Сварог, Пётр Першы, Заходне-Сібірская нізіна, Блізкі Усход, Мінскае ўзвышша, Азія, поўдзень, вёска Вязынка, мемарыял «Прарыў», Канарскія астравы, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, пустыня Сахара, Каўказ, прыморскі край, Палессе.

***Практыкаванне 2.*** *Растлумачце ўжыванне вялікай або малой літары.*

Дабіцца незалежнасці, плошча Незалежнасці, Дзень незалежнасці, Закаўказзе, Валдайскае ўзвышша, Белавежская пушча, Магілёўшчына, Федэратыўная Рэспубліка Германія, Грунвальдская бітва, Вялікая Айчынная вайна, стыль рэнесанс, гады Рэнесансу, Васіль Цяпінскі, эпоха Адраджэння, адраджэнне гаспадаркі, эпоха Пятра Першага, дапятроўская эпоха, лясун, Дзень артылерыі, Лядовы палац, Вялікае княства Літоўскае, Міністэрства замежных спраў, балгарын, Беларускі акадэмічны драматычны тэатр імя Янкі Ку-

палы, полацкае княства, палачане, лавелас, мядзведзь, Палац моладзі, Антонава паліто, Зеўсаў гнеў, дамоклаў меч, нарачанскія краявіды, Коласава трылогія, Быкаўскія аповесці, Мішавы малюнкі, туманнасць Андрамеды, усход сонца, народы Усходу, Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Васеў касцюм, краіны Захаду, радзімічы, поўнач, Дзявятае мая, Дзмітрый Данской, Лютаўская рэвалюцыя, буржуазная рэвалюцыя, Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія, Дом ветэранаў, Барысаўшчына, Стаўбцоўскі раён, сувораўскае вучылішча, Мінскі трактарны завод, брагінец, Гродзеншчына, сізіфава праца, танталавы пакуты, Заходняя Еўропа, Францыя, Каралеўства Швецыя.

***Практыкаванне 3.*** *Спішыце словазлучэнні, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс вялікай або малой літары.*

Вершы (К, к)оласавы, (В, в)асілёва дачка, (М, м)інскія вуліцы, (М, м)агіляўчане, (М, м)інскі (Дз, дз)яржаўны (П, п)едагагічны ўніверсітэт, (Дз, дз)яржаўны (Т, т)эатр (М, м)узычнай (К, к)амедыі РБ, (Л, л)ітаратурны (М, м)узей імя Янкі Купалы, (В, в)осьмае сакавіка, (П, п)алац (М, м)астацтваў, (Б, б)еларускае (А, а)драджэнне, (Э, э)поха (А, а)драджэння, (К, к)олеў сшытак, (Г, г)рамадзянская вайна, (Дз, дз)ень (Н, н)астаўніка, (Н, н)овы год, (Н, н)авагодні падарунак, (Э, э)поха асветніцтва, (М, м)іністэрства (А, а)дукацыі, (Б, б)еларускі (Дз, дз)яржаўны (У, у)ніверсітэт, (Б, б)еларускія краявіды (А, а)шмяншчыны, (Ч, ч)ырвоная (А, а)рмія, (Ч, ч)ырвонаармейскі, (М, м)інскі завод халадзільнікаў, (Д, д)ом ветэранаў, (П, п)алац (С, с)порту, (М, м)іцкевічавы балады, (К, к)упалаўскія героі, (Б, б)аркалабаўскі (Л, л)етапіс, (М, м)едыцынскі інстытут, (Г, г)омельская вобласць, (Г, г)омельшчына, (Н, н)ародны паэт, (М, м)іжнародны (Ж, ж)аночы (Дз, дз)ень, (З, з)аходняя (Дз, дз)віна, (З, з)аходняя частка горада, (В, в)ялікае княства (Л, л)ітоўскае, (В, в)ерсальскі мір, звычайная (М, м)аскоўская вуліца, жыць на вуліцы (М, м)аскоўскай, (Р, р)ыгораў брат, (М, м)урчыны кацяняты, (Б, б)ыкаўскі стыль, (К, к)оласаўскія ўрачыстасці.

## Правапіс О, Э – А (Ы)

***Практыкаванне 4.*** *Устаўце прапушчаныя літары, растлумачце іх напісанне.*

Т...лецэнтр, ...вакуацыя, характ...рыстыка, р...дкаслойны, д...фект, ...гаізм, лат...рэя, с...рдэчны, ч...кавы, ж...ст...куляцыя, р...корд, р...монт, ц...р...моніцца, орд...н, тр...вога, ц...нтральны, акад...мічны, ч...рнаваты, на ст...ле, інт...лігенцыя, ч...снок, Баранц...ва мора, т...атр, ц...на, т...мпература, хр...стаматыя, гор...ч, с...крэт, ар...штаваць, г...ласы, ...рэнбург, ...рша, піянін..., ч...злы, м...танакіраваны, перааc...нсоўваць, ч...ромха, р...дактар, бяр...знік, зар...ччаля р...кі, адажы..., поч...рк, рэш...та, аквар...ль, к...ляровы, р...дкавалосы, пар...дзець, ж...леза, ч...рніла, рады..., Ш...ўчэнка, п...ўночны, бясспр...чна, спр...чацца, выс...кавата, ш...рсц...апрацоўчы, р...гіён, ч...рада, ч...рцёж, ш...вялюра, ж...ўток, р...зьба, пар...заць, ч...цвер.

## Правапіс Е, Ё – Я

***Практыкаванне 5.*** *Спішыце словы, устаўляючы патрэбныя літары.*

Сел...нін, с...л...не, П...трусь, П...трусёва, ц...гнікі, св...тлаваты, з...ляніна, з...л...нь, з...л...ны, з...л...наваты, вец...р, вец...рок, удал...чыні, дал...чынь, п...счаны, ал...горыя, л...снічоўка, св...ткаванне, дз...вяты, дроб...зь, л...генда, нам...ло, с...мнаццаты, б...зыменны, б...скрыўдны, б...з стомы, верас...нь, м...тал, сл...ды, высв...тліць, ц...пер, сн...гавыя, сн...гапад, сн...гі, зам...ць, б...скрайні, пал...жаць, выгл...д, з...мляны, з...мляніка, з...млеапрацоўчы, сп...ктакль, вас...мнаццаць, пам...ць, н...навісць, н...навідзець, сів...р, л...цець, л...туценне, заб...спячэнне, в...с...лосць, м...ханік, н...легка, н... мог, н...вялікі, б...спамылкавы, б...спраўны, б...з слоў, ув...рцюра, кац...лок, з...зюля, м...дальён, в...снавы, в...сенні, м...цежнік, пас...велы, прып...чак, нап...рэдадні, аб...ліск, п...лёстак, пасл...заўтра, зв...льгатнелы, ...ўрапейскі, л...чыць, жн...ярка, п...йзаж, абм...ркаванне. абм...ркоўваць, п...раезд, ба...злівец, с...ржант, прал...скатаць, м...лагучны, г...рой, нал...цець, г...рбарый, б...з адраса, гал...рэя, тыс...ча, зн...вага, зн...важаць, ц...жкавата, б...ссмерце, хв...ліна.

## Некаторыя чаргаванні галосных

***Практыкаванне 6.*** *Спішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх правапіс.*

1. Водбл...скі зары адб...валіся на м...рской паверхні і тр...пяталі, расц...каючыся жывым агнём. 2. Па д...розе ц...гнуліся фурманкі з др...вамі, з ябл...камі ў драбінах. 3. Адв...чорак поўніўся ш...расцю фарбаў і ўсеабдымнай тр...вогай. 4. Тр...мцела-перал...валася ледзь прыкметнае мар...ва. 5. У навальнічнай цемрадзі бл...ск маланак быў б...лаватасіні. 6. Усё зам...рала ад страху. 7. Лёгкая др...готка прабегла па целе. 8. Помню тое кр...вава-чырвонае за-

р...ва. 9. Першыя гр...моты асв...цілі вёску. 10. Над узгоркам бл...шчала возера. 11. Аўтобус едзе па новым др...ўляным мосце праз р...ку. 12. Анежка стаяла ля ст...ла да і кр...шыла капусту. 13. Як чалавек ветлівы, я пав...таўся з ім. 14. Адусюль веяла др...мотным спакоем. 15. Дз...ўчына ўсм...хаецца прыветна. 16. А як цв...це бэз! 17. Перад св...таннем нал...цела навальніца. 18. З балота ад р...кі прыл..таюць в...лізныя з...лёныя стракозы. 19. Жанчына гл...тнула некалькі разоў гарачага чаю. 20. Пралескі пачалі кв...тнець, і зел...нець паляны. 21. Іна бл...снула на мач...ху злоснымі в...чыма. 22. У др...вотні бацька калоў дровы.

## Правапіс галосных пасля зацвярдзелых зычных Д – Т

***Практыкаванне 7.*** *Запішыце словы па-беларуску. Падкрэсліце зацвярдзелыя зычныя, растлумачце напісанне галосных пасля зацвярдзелых* ***д, т****. Чаму пасля гэтых зычных нельга пісаць літары* ***е, ё, ю, я, і, ь****?*

Узор: шептать – шаптаць.

Желтый, лук, чистый, директор, режим, жемчуг, резать, шелк, черный, гореть, ночью, чеснок, желудь, цена, черствый, тюрьма, черепаха, календарь, пушистый, ребро, ружье, жизнь, море, чижи, живой, пшеничный, тревога, этажерка, человек, женщина, интеллигент, перевести, заговорил, передний, студент, свежий, берег, щедрый, кричать, дверь, чисто, речной, вечерело.

## Правапіс іншамоўных спалучэнняў галосных

***Практыкаванне 8.*** *Перакладзіце словы на беларускую мову, запішыце іх парамі. Параўнайце спалучэнні галосных, растлумачце іх правапіс.*

Узор: аукц**ио**н – аўкцыён, рад**ио** – радыё.

Мемориал, коэффициент, фиалка, биотоки, палеолит, океан, гладиолус, Багратион, медиана, диалект, рационализм, реальный, олимпиада, стереотип, биатлон, физиономия, плагиат, диапроектор, Иордания, энтузиазм, вариант, империализм, феодализм, Эфиопия, пианино, радиотехника, коллекционер, аудитория, миниатюрный, виолончель, патриотический, стадион, индустриальный, диапазон, чемпионат, иероглиф, районный, радиоантенна, хореография, шампиньон, майор, йодистый, комедиограф, майонез, биография, поэт, реакция.



## Правапіс І – Й, У – Ў

***Практыкаванне 9.*** *Спішыце словы, выпраўце памылкі. Растлумачце напісанне вялікіх літар.*

Воук, соус, ва Узбекістан, пауза, акварыум, ля універмага, пауднёва-усходні, рака Уса, трыумф, па-ударнаму, шлагбаум, лаурэат, педагагічны універсітэт, пры князю Усяславе, працаваць у рэдакцыі, рэпертуар, на узлессі, аутамат, стаялі у пяці кроках, няудача, гуляу у садзе, расці у лесе, дыназаур, бавоуна, індывідуум, ауторак, есаул, заучасна, доуга, манеур, страус, двоеуладдзе, апоудзень, шэдэур, вакуум, гладыёлус, каунер, рытуал, аутар, агрэсіуны, баул, няуважлівы, блакгауз, лауры, накаут, ва універсітэ-це, радаснае «ура», абмерау пешшу упоперак і удоуж, зноу успомніуся, Галіна Уладзіслаувна, з'ява унікальная, пауночна-усходняя ускраіна, Маскоуская шаша, у «Выбраныя творы» увайшлі, накіроуваліся у Чырвонае Урочышча, Далёкі Усход.

## Правапіс прыстаўных галосных і зычных

***Практыкаванне 10.*** *Спішыце. Дзе трэба, на месцы кропак устаўце прыстаўныя* ***і (а)*** *або* ***в, г****. Пры неабходнасці замяняйце вялікія літары малымі.*

За ...льнозаводам, за...мглёны, пачаў ...мжыць, ля старой ...льнамялкі, пад ...льдом, на ...льдзіне, скасіць ...ржышча, ран...шняя ...мгла, хутка ...ржавець, да ведаў ...мкнуцца, пры...мчацца ...мгненна, адно ...мгненне, вялікія ...льготы, без вялікіх ...льгот, араць ...ржышча, заворанае ...ржышча, прывычка ...лгаць, майстар ...лжы, маленькае ...львяня, валасы ...льняныя, алей ...льняны.

...унук, ...учань, ...уліца, ...учоба. ...ольхі, ...альховы, ...опера, ...абласць, ...абласны, ...угаль, ...оклік, ...угаманіцца, ...унія, ...окны, ...аконны, На...ум, ...одсвет, ...участак, на...учанне, ...узор, ...удзіць, ні...одзін, ...учора, на...одшыбе, на...ука, за...улак, ...ужытак, ...урна, ...удава, за...острыць, ...Орша, ...Ольга Ля...онаўна, ...облака, ...аблачынка, ...Осіпаў, ...остраў, ...ордэн, па...ук, ...убавіць, трох...угольнік, ...улей, ...Узбекістан, ...обземлю, ...огнены, ...агеньчык, ...узгорак, ...обмацкам, ...оптыка, ...одгулле, ...оддаль, ...ока, ...мгненна, ...осень, ...асенні, ...ураджай, ...угольчык, ...узел, ...утаймаванне, ...ускраіна, ...убранства, ...улачка, ...убор, ...апранацца, ...опратка, ...Омск, ...офіс, ...урочышча, шапка-...ушанка, ...усны, ...опыт, ...узкі, ...Оксфорд, ...олава, ...алавяны, ...універсальны, ...оптам, ...історык, ...эты, да...этуль, ...Анна, ...уласны, на...огул, па...уцінне.

## Правапіс Д – ДЗ, Т – Ц

***Практыкаванне 11.*** *Запішыце словы пад дыктоўку. Праверце сябе. Растлумачце напісанне* ***д – дз, т – ц****.*

Мундзір, студэнт, біліцёр, бацвінне, адвесці, цюлевы, мелодыя, лацінскі, латынь, адвязаць, у плоце, эпізодзік, адведзены, у садзе, адвеку, выцякаць, Дзвіна, Цімур, іду, ідзеш, Сцяпан Літвінка, чарсцвець, дзяржава, цецярук, цешыцца, завод, на заводзе, дзёран, дзеяслоў, цемрадзь, роўнядзь, дзве, у два разы, паціху, людзі, цёмны, студыя, індзеец, вецер, бландзінка, манцёр, Віцебск, Дантэ, Жодзіна, гвардыя, гвардзеец, інстытут, тэарэма, уверцюра, цэлафан, партызан, дэлегат, камандзіроўка, мелодыя, дырыжор, мяцеж, карціна, канцэрт, брыгадзір, цяпліца, сцяна, ледзь, медыцына, блакноцік, артыст, каменціраваць, касцёл, дывізія.

## Правапіс падоўжаных зычных гукаў

***Практыкаванне 12.*** *Спішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.*

Смец...е, калон...ы, асярод...е, дыс...ертацыя, веліч...у, Натал...я, узлес...е, багац...е, раздол...е, світан...е, Палес...е, паўгод...е, збож...а, груп...а, супраціўлен...е, прамен...е, прамян...і, ап...арат, пеш...у, стагод...е, тэлеграм...а, сён...я, вільгац...ю, суквец...е, мелкавод...е, камян...і, камен...е, свежасц...ю, збавен...е, праграм...а, бярвен...е, фыркан...е, сес...ія, ак...упацыя, разлад...е, чул...івасць, капэл...а, прывол...е, руж...о, пяцігод...е, лісц...е, інтэл...ігентны.

## Правапіс мяккага знака і апострафа

***Практыкаванне 13.*** *Растлумачце напісанне мяккага знака або яго адсутнасць.*

Эмульсія, рэдзька, фальш, разьба, перабольшванне, яблынька, шэсцьдзесят, семдзесят, хрэсьбіны, хадзьба, ледзьве, счарсцвець, з'яднаць, фільтр, іншы, чыйсьці, дзевяцьсот, восемсот, просьба, пісьменнасць, дзядзька, вельмі, бацькі, носьбіт, калісьці, творчасці, дзьмухаць, дзьме, запаведзь, роўнядзь, разняць, меншы, большы, смерць, толькі, надзьмуты, здольнасць, цвярдыня, прайсці, якісьці, стэп.

***Практыкаванне 14.*** *Спішыце словы, устаўце, дзе трэба, мяккі знак.*

Ціхен...кі, снежан...скі, разан...скі, чамус...ці, соцен...ка, дз...веры, ледз...ве, с...мешны, сядз...це, лёген...ка, дз...ме, ліпен...скі, аген...-чык, голуб..., чац...вёрты, фантан...чык, дзевяц...сот, восем...сот, мален...кі, прамен...чык, восен...скі, хатын...скі, стан...це, дзец...мі, кудыс...ці, свежас...ці, будз...це, дз...ве, студзен...скі, здарэн...не, восем..., здол...насць, камус...ці, стэп..., пес...ня, сляз...мі, добран...-кі, жыц...цё, мякен...кі, ц...мяны, чац...вёрты, даражэн...кі, ваз...мі, людз...мі, струмен...чык, чамадан...чык, кагос...ці, радас...ці, студзен...-скі, кубан...скі, расцвіс...ці, пяц...сот, гул...ня, гул...лівы, ц...мянас...ць, злаз...це, якіс...ці, с...вята, чац...вер, піс...меннік, грудз...мі, маладзен...-кі, с...мяецца, сып..., ваз...міце, няс...мела, тол...кі, амярц...велы, заходз...це, нас...цеж, не забудз...цеся, ліс...це, рэж..., маладос...ці, мядзведз..., дастан...це, надз...муты, сан...мі, нос...біт, кволен...кі, у барац...бе, шчас...лівы, тайван...скі, ліпен...скі, зелен...ню, ваз...міцеся, асмел...ваўся, збруц...велы, с...мелы, сінен...кі, снежан...скі, смаргон...скі, ля дзвюх, Любан...скі раён, Гомел...ская вобласць.

## Правапіс некаторых прыставак

***Практыкаванне 15.*** *Спішыце словазлучэнні, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс прыставак.*

А...абегчы вакол дома, ра...сечаная шчака, бя...збройны чалавек, акуратны (паў) кажушок, на (палову) засохлае дрэва, а...казаць на пытанне, бя...колерная вадкасць, ...чэпленыя ў ланцуг вагоны, ра...шпіліць гузікі, (паў) векавы юбілей, а...чуванне бяды, (паў) днёвае (паў) шар'е, асенняе (паў) паліто, на (паў) дрымотны стан, а...кідваць убок, бя..зубае дзіця, бя...спрэчны факт, бе...дакорная праца, ра...часаць грыву, ра...шчапіць палена, (паў) дзікія плямёны, ра...весіць сушыць бялізну, ...пісаць з дошкі, на (палову) афіцыйная размова, невялікі ...крутак, на (паў) мёртвая вуліца, гучна ра...смяяцца, чакаць а...казу, ра...сяліцца па кватэрах, ...прошчаны падыход, бя...ветраны дзянёк, запыленыя (паў) бацінкі, на (паў) асветленыя вуліцы, у...помніць маладосць, ...хапіць чамадан, на (палову) пустая аўдыторыя, на (паў) цёмны калідор, ...чэпшчык вагонаў, ...хіліцца над сталом, ра...глядаць фотаальбом, гаварыць на (паў) голаса, ...прабуе ў...помніць на (палову) забыты вобраз, у садзе ра...кашаваліся, на (паў) дзікія яблыні, адразу ра...лупіліся, ра...пушчаныя валасы, а...шчапіла галіну, ра...шчапіў сасну, бя...хмарны блакіт неба, ужо ў на (паў) сне ра...пранулца.

## Правапіс Ы, І, Й пасля прыставак

***Практыкаванне 16.*** *Спішыце словы, дзе трэба, устаўце прапушчаныя літары, растлумачце іх правапіс.*

С...грацъ, спад...лба, вы...сці, вы...грацъ, ня...начай, пад...дзеш, пры...дзе, с...сціся, раз...грацъ, контр...гра, ад...сці, без...менны, пера...начаны, за...скрыцца, без...ніцыятыўны, звыш...мклівы, за...сці, пад...ду, пера...мацъ, па...менна, пра...граваць, пры...шоў, за...кнуцца, аб...ду, дэз...нфекцыя, аб...лгаць, раз...грацца, вы...шаў, пры...дуць, пра...гравальнік, ад...сці, пера...мацъ, пра...нфармаваць, с...дзе, за...нтрыгаваць, за...мецъ, про...грыш, раз...ходжанне, аб...мшэць.

## Спосабы ўтварэння слоў

***Практыкаванне 17.*** *Вызначце, ад якіх асноў і якімі спосабамі ўтвораны словы.*

Жалезны, камандуючы, сталічны, сход, вадалаз, шыр, прыход, заморскі, пераплётчык, выказнік, дзеяслоўны, перашэптвацца, праверка, падзяка, рыбіць, прастой, універсітэцкі, паляўнічы, восеньскі, лістапад, падлетак, вучаніца, вытоптваць, рашыць, жыццярадасны, падказаць, бестурботна, беларускі, беспамылковы, пераступаць, санінструктар, БНТУ.

## Правапіс галосных у складаных словах

***Практыкаванне 18.*** *Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх напісанне.*

П...ліклініка, п...літэхнічны, св...есаблівы, шт...лета, п...ўдзень, п...ўрубля, п...ўнапраўны, ст...гадовы, ст...годдзе, св...ечасовы, шт...-раніцы, п...ўнач, выс...кародны, п...ўгода, ваг...нарамонтны, выс...каідэйны, пр...стадушны, м...латабоец, асн...васкладанне, Н...вапалацк, в...дамерны, мног...станочнік, гр...маадвод, сн...павязалка, ж...ўталісце, в...далячэнне, шыр...катвары, земл...мер, хвал...падобны, стал...вар, вугл...здабыча, зерн...драбілка, вугл...воз, вогн...тушыцель, кра...від, брон...цягнік, ален...вод, сярэдн...вяковы, Сярэдн...-вечча, кон...гадоўля, кул...мёт, шэрсц...апрацоўчы, р...знакаляровы, р...знагалосы, р...знавіднасць, д...браякасны, ч...рнабровы, ч...рнабароды, шыр...каплечы, чырв...наармейскі, н...вагодні, земл...апрацоўчы, сін...вокі, д...ўгавечны, д...ўгачаканы, др...бналессе, р...ўнапраўны, ст...галосы, пал...водчы, выс...капробны, газ...праводны, кніг...люб, п...ўстагоддзя, ус...народны, ф...таздымак, м...тагонкі, м...тацыкл, пр...цікавы, мар...заўстойлівы, кін...карціна, рады...перадача, ст...дзённы, дзевян...ст...рублёвы, кін...фестываль, аэраф...-тапрыбор, ф...таграфаваць, гр...смайстар, шт...сутачна, пр...цівага, ст...тысячны, дал...гляд, вільгац...ўстойлівы, жыцц...радасны, мн...гаструнны, руж...вашчокі, земл...роб.



## Правапіс некаторых спалучэнняў зычных гукаў

***Практыкаванне 19.*** *Прачытайце словы, растлумачце напісанне выдзеленых спалучэнняў зычных.*

Сэ**рц**а, бязліта**сн**а, ці**сн**уць, зайздро**сн**ы, ула**сн**ы, няшча**сн**ы, у бо**чц**ы, за**сл**аны, наме**сн**ік, пом**сл**івы, на рэ**чц**ы, кары**сн**ы, зара**сн**ік, кантра**сн**ы, мнагаме**сн**ы, неміласэ**рн**а, на вокла**дц**ы, лан**дш**афтны, ма**шт**аб, Рэмбра**нт**, драбнашэр**сн**ы.

***Практыкаванне 20.*** *Запішыце словы па-беларуску, растлумачце напісанне спалучэнняў зычных.*

Радостный, расстилаться, почетный, капустный, солнце, счастливый, устный, несчастный, поздно, областной, безвыездно, скоростной, свистнул, шестнадцать, жалостный, контрастный.

***Практыкаванне 21.*** *Ад наступных назоўнікаў пры дапамозе суфікса* ***-ск-*** *утварыце прыметнікі і запішыце іх. Растлумачце правапіс спалучэнняў зычных на стыку кораня і суфікса.*

Узор: асістэнт [т + с] к + і – асістэнцкі.

Студэнт, казах, беларус, калмык, горад, салдат, настаўнік, інстытут, універсітэт, рыбак, паляшук, сірата, Нясвіж, Ліда, Гомель, латыш, Вільнюс, таварыш, Карэлічы, князь, француз, сусед, Навагрудак, Слуцк, адвакат, Прага, узбек.

***Практыкаванне 22.*** *Прачытайце словы, растлумачце напісанне выдзеленых літар. Складзіце са словамі словазлучэнні, запішыце іх.*

Ра**сс**адзіць, ра**с**ада, а**ддз**яленне, **зз**янне, ако**нн**ы, па**дд**увае, а**дд**аваць, **зз**аду, ра**сс**таваць, а**ддз**якаваць, бе**зз**ямелле, лімо**нн**ы, а**дд**адзены, бе**сс**аромна, ра**с**ольнік, ра**сс**мяяцца, а**дд**алены, ра**зз**лавацца, бе**сс**ардэчнасць, абя**зз**броіць, ра**сс**трэл, ра**с**ол, а**бб**егчы, ра**сс**ячы, ро**сс**ып, а**ддз**ел, вогне**нн**ы.

***Практыкаванне 23.*** *Выпішыце антанімічныя пары слоў. Вызначце, па якіх прыметах (часавых, прасторавых і г. д.) яны адрозніваюцца, да якіх часцін мовы належаць і якую структуру маюць (аднакаранёвыя, рознакаранёвыя). Аднакаранёвыя антонімы падкрэсліце.*

1. Над адным канцом гэтай вуліцы звычайна, як і ўсюды, чаргуецца дзень і ноч, раніца і вечар, а над другім – не заходзячы шчыруе сонца. *(Я. С.)* 2. Зярнятку трэба загінуць у чорнай раллі, каб выжыць. *(Н. М.)* 3. У вялікіх і малых гарадах, у вёсках, ва ўсіх куточках зямлі, па якой некалі пракацілася вайна, стаяць помнікі салдацкай і партызанскай мужнасці, помнікі гераізму савецкіх людзей. Яны розныя: малыя і вялікія, сціплыя і велічныя. *(ЛіМ)* 4. Калі, напрыклад, узяць ды паставіць леташнюю вясну і цяперашнюю, дык гэта – неба і зямля. *(Кул.)* 5. І ў белы дзень, і ў чорну ноч я ўсцяж раблю агледзіны. *(Куп.)* 6. Спакон вякоў было такое: смяюцца людзі, людзі плачуць. *(Н. М.)* 7. Пачалася чарназёмная і ўрадлівая ў любы год – мокры ці засушлівы, халодны ці цёплы – Брагіншчына. *(Сам.)* 8. Найвышэйшая прыгажосць тая, што пазнаецца з дзяцінства, бо яна глыбей западае ў душу. Таму такія любыя родныя мясціны і на яве, і ва ўспамінах. (*І. Н.*) 9. І кінуты ключ залаты ў ваду, у горкую продань марскую. І зманьвай не зманьвай цяпер – не прыйду, гукай не гукай – не пачую… *(Н. М.)* 10. Дае прырода зноў урокі нам: не верце цішыні, салодкім снам, бяда і радасць ходзяць побач вечна, людзей ратуе толькі чалавечнасць. *(Панч.)* 11. Тайга. Яна ляніва спаўзае з аднаго хрыбта, няспешна, спатыкаючыся (вунь нават яшчэ не падняліся тыя дрэвы, што спатыкнуліся), узбіраецца на другі, павольна пераваливаецца цераз яго вяршыню. *(Я. С.)* 12. Гэта была яшчэ адна, апошняя перамога прафесара Клумава. Перамога ў паядынку паміж дабром і злом, паміж святлом і цемрай, паміж любоўю і нянавісцю, паміж гуманізмам савецкага чалавека і звярынай сутнасцю фашызму. *(Уладз.)* 13. Цэлыя дні і ночы без сну і адпачынку даводзілася ісці, паўзці, бегчы, ехаць, стаяць, ляжаць са зброяй напагатове. *(Кул.)*

***Практыкаванне 24 .*** *Спішыце тэкст, падкрэсліце антонімы, падбярыце да іх сінонімы, запішыце сінанімічныя рады.*

Не наглядзецца на воблакі ў бязветраны дзень. Яны могуць расці, могуць знікаць, як дым. У ветраны дзень часцей бываюць нізкія воблакі. Яны імчацца па небе на адной вышыні, як ганцы. Шпарка, без аглядкі, гуртам. Сонца між іх то выгляне, то схаваецца. А зірнеш угору, вышэй верхавіння дрэў, туды, дзе бягуць шпаркія воблакі, бягуць здалёк ці зблізку, і падумаеш: «Гэта жыццё імкліва бяжыць. Якое яно імклівае!..» Воблакі бываюць высокія і нізкія, рэдкія і суцэльныя. Адны прыносяць яснасць, пагоду, другія – непагадзь і навальніцу. *(І. Грамовіч)*

***Практыкаванне 25.*** *Спачатку выпішыце сказы з лексічнымі дыялектызмамі, затым з семантычнымі, фанетычнымі, граматычнымі, словаўтваральнымі. Адкажыце, на якой падставе адносім той ці іншы дыялектызм да пэўнай групы.*

1. Куе кукуля ўсё радзей, радзей, і дрэвы пахнуць першым сном і мірам. *(Л.)* 2. Корч ездзіў у мясцечко па дохтара. *(І. М.)* 3. Ад бацькоў засталася яму хатка, сякая-такая будоўля, надоба, худоба і паўчвэрці зямлі. *(К-с)* 4. «Мне страшно…» – «Чаго ето?» *(І. М.)* 5. Прайшлі яшчэ адну лаву хат і звярнулі ў глухаваты завулак, на якім сутыкаюцца агароды дзвюх вуліц. *(І. Н.)* 6. На голым, незасланым стале ляжалі кускі хлеба, а пасярэдзіне стала стаяла бурае, старое глінянае цёрла з мёдам. *(К-с)* 7. Жытка то жытка, ды і самі вінаватыя *(І. М.)* 8. Васіль марыў: «Кеб з таго кавалка, што каля цагельні, дасталося. То б надзел буў!..» *(І. М.).* 9. Ето ты будзеш бегці, штоб не апазніцца. *(І. М.)* 10. У канцы лета Лявон, здаецца, пабыў троху ў дварэ. *(Гар.)* 11. Такім чынам, дзень і так ужо быў поўны адметнымі падзеямі, быццам укоптарак. *(Чыгр.)* 12. Клапаціўся толькі пра маці і мяне, што цяжка нам будзе жыць без яго. *(Гар.)* 13. Пакуль жанчыны спяшаліся моўчкі абмінуць Курганне, на макушах далёкіх і блізкіх дрэў затрымцела, быццам нагрэтае паветра, ранішняя чырвань, пачала пераліваецца ясвамі навокал. *(Чыгр.)*

***Практыкаванне 26.*** *Прачытайце тэксты. Выпішыце спецыяльную лексіку, вызначце, да якой галіны навукі яна адносіцца.*

1. Хоць марфалогія належыць да найбольш устойлівых кампанентаў мовы, можна назваць нямала асаблівасцей, якімі адрозніваюцца марфалогія агульнаўсходнеславянскай мовы-асновы і марфалогія сучаснай беларускай мовы. Пададзім некалькі прыкладаў.

У старажытнасці, у агульнаўсходнеславянскай мове, ужываліся

іменныя (паводле паходжання) нязменныя формы дзеяслова – інфінітыў (иму ловити рыбу) і супін (вду ловить рыбъ); у беларускай мове замацавалася адна з дзвюх форм – фанетычна зменены інфінітыў (ловити – лавіць, беречи – берагчы), які выцесніў другую форму – супін (ловить) і г. д.

Назоўнікі, прыметнікі і займеннікі скланяліся, а дзеясловы спрагаліся не толькі ў адзіночным і множным ліках, а і ў так званым парным, у сучаснай мове – толькі ў адзіночным і множным ліках; страцілася катэгорыя парнага ліку (дакладней – парны лік выцесніўся множным), запанавалі формы множнага ліку. *(Ф. Янкоўскі)*

2. Старажытная Кіеўская дзяржава, у якую ў IX–X стст. увайшлі заходнія землі Русі, уяўляла сабой раннефеадальнае палітычнае аб'яднанне ўсходнеславянскіх зямель (княстваў) і некаторых суседніх неславянскіх тэрыторый.

Пачатковая стадыя ў развіцці феадальнага грамадства вызначыла спецыфічныя рысы дзяржаўнасці – слабасць цэнтралізаванага кіравання, асаблівасці ленных адносін. Палітычнае панаванне Кіева за межамі зямлі палян першапачаткова заключалася толькі ў тым, што кіеўскія феадалы на чале з князем збіралі даніну з насельніцтва падпарадкаваных зямель і прыцягвалі яго да ўдзелу ў ваенных паходах за межы Русі.

Значная частка сялянства ў той час яшчэ не знаходзілася ў асабістай залежнасці ад феадалаў, а жыла і працавала на абшчынных землях. Вось чаму дружыннікі першапачаткова атрымлівалі ад князёў не землі з насельніцтвам, якое на іх жыло, а толькі права збіраць з іх даніну. *(Гісторыя Беларускай ССР)*

3. Калійныя солі – асадкавыя горныя пароды, складзеныя з лёгкараствaральных солей калію, звычайна разам з натрыем, магніем і інш. Асноўныя мінералы – сільвін, карналіт, радзей, каініт, лангбейніт, шэніт, палігаліт. Калійныя солі – асноўная сыравіна, з якой атрымліваюць калійныя ўгнаенні, металічны калій і яго злучэнні.

Утварэнне калійных солей адбываецца пры выпарэнні ці ахаладжванні расолаў, насычаных каліем, у ізаляваных басейнах, дзе выпарэнне пераважае над наступленнем вады. Паклады калійнай солі звычайна прымеркаваны да верхніх частак разрэзаў галагенных фармацый… *(БелСЭ).*



***Практыкаванне 27.*** *Прачытайце тэксты. З часткі 1 выпішыце лесасплаўную лексіку, а з часткі 2 – пчалярскую. Вызначце, да якой падгрупы – тэрміналагічнай ці прафесійнай – адносіцца гэтая лексіка.*

1. Вясной, калі рака ўваходзіла ў берагі і вада трохі цяплела, сплаўшчыкі браліся вязаць плыты. Адзін канец доўгай, ажно на дваццаць метраў, бомы замацоўваўся на беразе, другі – на сярэдзіне ракі, упоперак цячэння. Затым мужыкі пачыналі расцягваць бусакамі бярвенне са шліхтаў. Каб лягчэй было качаць з берага да вады, падніз падкладвалі лягеры – тры-чатыры простыя жэрдкі. Цяпер звычайна вяжуць бярвенне ў лаўкі дротам. Але як помніць Зазыба, то яны з бацькам вязалі свае плыты гужбой – лазовымі вяроўкамі, якія іншы хто называў кардзялямі. Да канца такой лазовай вяроўкі мацаваўся кнэпель, альбо, працсей, драўляны клін, што працягваўся пад кожны з двух тублёў, перакінутых упоперак лаўкі ззаду і спераду. Такі плыт звычайна складаўся з дваццаці і больш лавак, накрыж звязаных між сабой шварай, зробленай з той жа гужбы. Калі плот нарэшце быў звязаны, ззаду на яго прыбівалі скрынку з валкам, на якім мацавалася доўгая шырага – завостранае знізу палена, каб можна было пры неабходнасці тармазіць альбо зусім спыняць плот. *(І. Чыгрынаў)*

2. Звон пчаліны стаіць.
Сёння дзень ладзьбавання.
Над калгаснаю пасекай з самага рання
Распагодзіўся неба простор сіняваты.
Каля домікаў і лежакоў, храпаватых
Затрымаліся мы.
З куралёў дымок сіні
Уецца, сцелецца, рой суцішае пчаліны.
Асцярожна, падважыўшы, доўж адкрываем.
А ў глыбі - соты поўныя золатам ззяюць…
*(М. Танк)*

***Практыкаванне 28.*** *Выпішыце з тэксту тэхнічныя тэрміны. Растлумачце іх значэнне.*

Гудзе друкарскі цэх. Суцэльным гулам ракочуць вялізныя ратацыённыя машыны – камбайны друкарскай справы. Ляскаюць малыя руплівыя «амерыканкі». Да суму аднастайнымі раскатамі гудуць машыны, што называюцца плоскімі. Іх шум нагадвае марскі прыбой. Не толькі шум! Гледзячы ўздоўж лініі дзясятка гэтых ма-

шын на тое, як з-пад вальцаў узад ды наперад з мерным грукатам раскачваюцца талеры, зрокам памяці бачыш, як кішыць на пяску пена, як неспакойна варушыцца галька, як пырскаюць угару ўсплёскі хваль, у бяссільнай злосці штурмуючы валуны…

Думы і вобразы заключаны ў металёвыя радкі набора. Палосы – старонкі будучай кнігі і – таксама строга і стройна заключаны ў форму. Па спускавой дошцы на барабан спаўзаюць белыя аркушы. Чорныя вальцы разпораз убіраюць пад сябе нагружаны наборам талер. З барабана на доўгія лучыны «пальцаў» сплываюць аддрукаваныя аркушы. Побач з машынай няспынна расце стапа паперы.

Падлетак Міхась Лазунок першую ноч стаіць каля плоскай друкарскай машыны. Ён увесь напоўнены радасцю працы над кнігай.

Праўда, найбольш складаная і адказная частка работы зроблена без Міхася. Майстар сам спусціў і прыправіў форму, сам адрэгуляваў накладку, сам зрабіў заліўку і змазку машыны. Міхасю засталося толькі стаяць ды глядзець – наглядаць за спраўнасцю друкавання. Аднак, нягледзячы на гэта, хлопец адчувае сябе бадай што зусім паўнаякасным майстрам. *(Я. Брыль)*

***Практыкаванне 29.*** *Вызначце часткі слова і іх значэнне ў прыведзеных іншамоўных тэрмінах.*

Дэцыбел, дэцыметр, дэцылітр, дэцэнтралізацыя, дэшыфратар, дэкан, дыяметр, дыяпазітыў, дыяпрынт, дыяпраектар, дыяптрыя, дыяграма, дыяспара, біяграма, біягенез, біяграфія, біядоза, біядынаміка, аўтабаза, аўтавакзал, аўтавакцына, аўтагенез.

Для даведак: дэцы- (лац. decem – дзесяць), метр (грэч. metreo – вымяраю), літр (грэч. litra – фунт), дэ- (лац. de – з, на), цэнтраліз (лац. centralis – які знахозіцца ў сярэдзіне), дыя- (грэч. dia – праз, прэфікс, які абазначае «раздзяленне, узаемасувязь, узмацаненне»), бія- (грэч. bois – жыццё), -грама (грэч. gramma – запіс), -генез (грэч. genesis – паходжанне), -графія (грэч. grapho – пішу), доза (грэч. dosis – порцыя, прыём), дынаміка (грэч. dinamicos – моцны), аўта- (грэч. autos – сам), -база (грэч. basis – аснова, фундамент).

***Практыкаванне 30.*** *Вызначце спосаб утварэння наступных тэрмінаў розных галін навукі.*

Машынабудаўнічыя – арміраванне, арміроўка, выклепка, выкручванне, дапайка, закоўванне.



Фізічныя – дальнадзеянне, дыслакацыя, гукавы ціск, зялёны прамень, задыякальнае сузор'е, кельвін, прамень, мікраметр, законы Ньютана, фазатрон, электрычны разрад, электрадынаміка.

Эканамічныя – дэпазітар, дэцэнтралізаныя, еўравалюта, каціроўка, ліквіднасць, пазыкадавец, рэкламавацъ, рэнтабельнасць, спагнанне, уладальнік, цэнаўтварэнне, эксплуатацыйны.

***Практыкаванне 31.*** *Прачытайце тэксты. Выдзеліце тэрміны, дайце ім характарыстыку: а) па будове; б) па паходжанні; в) па спосабу ўтварэння.*

1. Час кіравання Аўгуста называюць «залатым векам» рымскай літаратуры. Хаатычнае светаадчуванне папярэдняга перыяду (прыклад – творчасць Гая Валерыя Катула) саступіла месца светапогляднай глыбіні, ідэйнасці, вяртанню да класічнага стылю і гарманічнай формы. Аўгуст быў зацікаўлены ў творцах, якія б падтрымлівалі яго палітыку. Сябра і міністр Аўгуста Мецэнат збіраў вакол сябе паэтаў, таленавітых людзей і скіроўваў іх інтарэсы ў патрэбнае рэчышча. Ён падтрымліваў творцаў і матэрыяльна (з таго часу мецэнатамі называюць багатых апекуноў навукі і мастацтва).

Мецэнат дасягнуў значных поспехаў, хоць і не ўсе жаданні Аўгуста былі рэалізаваны. Ва ўсякім разе, надзвычай узрасла цікавасць да літаратуры, да таго яе не цанілі належным чынам, а на паэтаў глядзелі нават пагардліва. Цяпер жа ў людзей быў вольны час, які з'явіўся таму, што яны не займаліся палітыкай (адсюль высnова: у палітызаваным грамадстве цікавасці да прыгожага пісьменства можна не чакаць – перамагае журналістыка, прычым не самага лепшага гатунку). Літаратура ў часы Аўгуста пачала разглядацца як найвышэйшы з відаў мастацтва, галоўны носьбіт і захавальнік культуры. Паэтаў было як ніколі шмат: можна налічыць не менш за 50 выключна таленавітых, але самымі вялікімі лічацца Верлій, Гарацый, Авідзій. Менавіта яны прызнаныя класікамі рымскай літаратуры. *(Г. Шамякіна)*

2. Беларусы як народнасць сфарміраваліся на той тэрыторыі, дзе яны жывуць і сёння. Шматвяковы працэс складання беларускай народнасці праходзіў ва ўмовах самых цесных кантактаў з іншымі плямёнамі, асабліва балцкага паходжання, якія таксама жылі на гэтай тэрыторыі. Не спыніліся міжэтнічныя кантакты нашых продкаў з іншымі народамі і пасля таго, як была сфарміравана беларуская на-

роднасць. Вядомы выпадкі перасялення на яе землі людзей з суседніх Рускай дзяржавы, Украіны, Польшчы, сучаснай тэрыторыі Літвы і Латвіі, добраахвотнага запрашэння на вайсковую службу ці захопу ў палон татараў. І трэба сказаць, што ўсе гэтыя дэмаграфічныя працэсы, якія мелі месца ў далёкім мінулым, добра адбіліся ў беларускай тапаніміі.

По зразумелых прычынах сярод назваў – этнонімаў – аднымі з самых распаўсюджаных у нас павінны быць тыя, якія ўтвораны з асновы «Літва». Пералічым такія: Літва, Ліцвінка, Літвіца, Ліцвяны, Літоўка, Літоўск, Літоўшчына, Літоўцы. Справа ў тым, што і ў многіх кутках самога нашага краю людзі доўгі час называлі сваю радзіму Літвой, а саміх сябе літвінамі, як этнанімічны напамінак, што яны некалі жылі ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Асабліва часта карысталіся гэтай назвай інтэлігентныя людзі, якія добра ведалі сваю гісторыю. *(Л. Лыч)*

3. Асновай узброеных сілаў Вялікага княства Літоўскага ў познім сярэднявеччы заставалася паспалітае рушанне, ці абарона земская. Так называлі службу ваеннаабавязанай часткі насельніцтва. Кожны абывацель Княства, які валодаў зямлёю, мусіў адбываць вайсковую павіннасць – гэтак званую земскую службу. Яе памеры вызначаліся велічынёй зямельнага надзелу і колькасцю сялянскіх гаспадарак, што належалі землеўладальніку. Колькасць ратнікаў была прапарцыянальнай колькасці ўласных сялянскіх службаў (служба-адзінка абкладання павіннасцямі, якая ўключала два ці тры сялянскія дымы (здаралася, што колькасць дымоў у службе магла дасягаць сямі і васьмі), або гаспадаркі). Ад кожных васьмі, а потым дзесяці службаў (у 1502 г. наваградскі сойм упершыню вызначыў норму – дзесяць службаў, у 1528 віленскі сойм зменшыў яе да васьмі, соймы 1551 і 1554 гг. пастанавілі браць каня з дзевяці, аднак пасля была зноў вернута старая норма земскай павіннасці) патрабавалася выстаўляць па аднаму добра ўзброенаму і экіпаванаму конніку («каню»). Той землеўладальнік, які не меў нават васьмі службаў, мусіў ехаць у войска адзін, узброены паводле сваіх магчымасцей. Ад асабістай службы вызваляліся толькі хворыя, непаўналетнія ці занятыя на дзяржаўных пасадах. Абавязак «вайну служыці» пашыраўся нават на ўладанні духавенства. Вольнымі ад удзелу ў паспалітым рушанні былі ваяводы, старасты і дзяржаўцы памежных раёнаў, у якіх знаходзіліся замкі. *(Г. Сагановіч)*



# МАРФАЛОГІЯ І ПРАВАПІС

## Назоўнік

***Практыкаванне 1.*** *Выпішыце з тэксту ўласныя назоўнікі: імёны і прозвішчы, геаграфічныя і адміністрацыйныя назвы, назвы газет, часопісаў, кніг.*

Выкладчыкі Віленскай гімназіі спалучалі працу з навуковай і грамадскай дзейнасцю. Сярод іх было нямала даравітых людзей, якія пісалі падручнікі, складалі праграмы і хрэстаматыі для беларускіх школ, выступалі ў друку з публіцыстычнымі артыкуламі, вялі палітычную і культурна-асветную працу. Назавём для прыкладу Браніслава Тарашкевіча, вядомага лінгвіста, аўтара беларускай граматыкі, пасла сейма, старшыню Цэнтральнай управы Беларускай сялянска-рабочай грамады; Ігната Дварчаніна – складальніка хрэстаматый па беларускай літаратуры, публіцыста і палітычнага дзеяча ў пасольскім клубе «Змаганне»; Сяргея Паўловіча – аўтара беларускіх буквароў «Першыя зярняткі», «Засеўкі», рэдактара дзіцячага часопіса «Снапок», публіцыста, які выступаў з ідэяй утварэння працоўнай беларускай школы; Рыгора Шырму – мужнага літаратурнага публіцыста, збіральніка беларускага музычнага фальклору, сакратара Галоўнай управы Таварыства беларускай школы, выдаўца твораў прагрэсіўных пісьменнікаў. *(У. Калеснік)*

***Практыкаванне 2.*** *Выпішыце са сказаў абстрактныя назоўнікі. Растлумачце, што яны абазначаюць (разумовыя паняцці, псіхічныя працэсы, апрадмечаныя якасці, дзеянні, стан).*

1. Да зорак позіркі і тэлескопы з сівых вякоў цярэбяць горды шлях, ды толькі па зямлі спрадвечны клопат, як сэрца, б'ецца ў грудзях. *(Р. Б.)* 2. Якая асалода – жыць, знаць вартасць кожнае гадзіны, тым, што адкрыта, даражыць і адкрываць за дзівам дзіва. *(Віт.)* 3. Не выхваляйся дабрынёю, рабі дабро ты моўчкі лепш. *(Бр.)* 4. Усё, што радасць жыцця нараджае, красой аздабляе вялікі сусвет. *(М. К.)* 5. Была самая гарачыня, сухі, бязветраны жнівеньскі поўдзень, але ў засені хвой і елак, пад навіссю густога зялёнага голля, спякота не так адчувалася, дыхалася легка. *(Сач.)* 6. Ёсць хуткасць думкі. Дзіва гэта хіба не шчасце для людзей? *(Бр.)* 7. Мабыць, у чаканнях ёсць нейкая частка чалавечага шчасця. А хто ўжо нічога не чакае, таму сумна жывецца на свеце. *(Грах.)* 8. Слухаючы «Ой, не кукуй, зязюленька» ў цудоўным выкананні Шырмавай капэлы, мне

шчасліва хацелася заплюшчыць вочы, працягнуць рукі і абмачыць свае пальцы ў свежасць вясновай раніцы… *(Б.)* 9. Калі мудрыя рукі ў цябе – пад рукамі згубіць цвёрдасць сваю, памякчэе і камень. *(П. М.)* 10. Нішто гэтак многа не пакідае бруду, як хараство, наведзенае штучна. *(Скр.)* 11. Юнацтва наша з крыніц маленства і ў акіян небыцця ўпадае. *(А. К.)* 12. А вечар хуткі, гутарлівы разносіць гоман, смех шчаслівы і ў сэрцы паліць парыванні і тчэ красёначкі кахання. *(К-с)*

***Практыкаванне 3.*** *Назавіце ў сказах адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі. Вызначце лексічныя і граматычныя прыметы адушаўлёнасці/неадушаўлёнасці.*

1. Сіратлівыя бабкі гэтыя выглядам сваім як бы казалі: вось усё, чым магла адплаціць за працу няшчодрая на аддарункі тутэйшая зямля. *(І. М.)* 2. У Белавежы – цэдзяць водар сосны, на барavінах млее рэдкі цень. *(Л.)* 3. Рослы, светлы, чарнабровы люд, неспакойны, малады, смяяўся сінімі вачамі, гарэў вясёлым макам шчок. *(М. К.)* 4. У нас адну малую птушку чамусьці кнігаўкай завуць. *(Бр.)* 5. Пахнуць па-хатняму грады, сакочуць конікі, стаіць вялікі жнівеньскі месяц, яшчэ не яркі, бо ранні вечар. *(Б.)* 6. Чорны плюшавы мішка сядзеў побач з ложкам на тумбачцы. *(Б.)* 7. Шахцёры і будаўнікі, калгасныя жнеі і агародніцы, настаўнікі і студэнты, сівабародыя вучоныя і маладыя загарэлыя салдаты, дзеці, якія ўжо чытаюць Талстога, і дзеці, якіх яшчэ чакае гэта шчасце, – усе па-святочнаму апранутыя і настроеныя, ідуць сюды [у Ясную Паляну], пакінуўшы за белымі вежамі варот свае «Пабеды» і аўтобусы, «Масквічы» і грузавікі з лаўкамі ў кузаве, свой бясклапотны смех і клопаты працоўных будняў. *(Б.)*

***Практыкаванне 4.*** *Утварыце словазлучэнні і запішыце іх. Падкрэсліце адушаўлёныя назоўнікі, назавіце іх граматычныя прыметы.*

Бачыць (хлопцы, дрэвы, зубры, баравікі), даглядаць (дзеці, сады, цяляты), сустракаць (дзядуля, атрад, настаўнік), злавіць (конь, яблык, матыль), любіць (кветкі, людзі, моладзь, кнігі), вартаваць (стагі, кураняты, вішні, статак), разводзіць (карпы, парэчкі), есці (гарох, лешч, брусніцы).

***Практыкаванне 5.*** *Прачытайце тэксты, вызначце зборныя назоўнікі.*

1. Есць у паняцці «чалавецтва» нешта вельмі «абстрактнае» і ў той жа час абавязковае, неабходнае. Чалавецтва – гэта паняцце, пачуццё высокагуманістычнае. Чалавецтва паявілася, узнікла не проста таму, што былі «адкрыты» Кітай, Індыя, Амерыка, што ваенныя і гандлёвыя караблі адкрылі людзям, адзін аднаму, не толькі блізкіх, але і самых далёкіх зямлян. Толькі ўсвядоміўшы, паверыўшы, што чалавек – усюды чалавек і «ўсе мы людзі», толькі адчуўшы і зразумеўшы, што побач з тым, што раздзяляе народы, існуе і тое, што аб'ядноўвае іх у адзінае «племя людзей», «зямлян», – толькі ў выніку гэтага механічная сума народаў і краін станавілася (і становіцца) паступова і ўсё больш чалавецтвам. *(А. Адамовіч)*

2. Мабыць, мы ўсё ж мала ведаем і кепска вывучаем, чым было наша настаўніцтва для народа на працягу ягонай гісторыі. Духавенства – гэта вядома, тут яшчэ ёсць нейкі малюнак… А вось што зрабіла настаўніцтва ў нашых школах, што яно значыла для нашай некалі цёмнай сялянскай краіны ў царскія часы, пры Рэчы Паспалітай, у вайну, нарэшце, ды і пасля вайны? Гэта цяпер запытай якога падшыванца, кім ён будзе, калі вырасце, і ён скажа табе: інжынерам, урачом, лётчыкам, а то і касманаўтам. Цяпер ёсць такая магчымасць. І сапраўды, так і бывае, аж да касманаўта… А раней? Калі рос, бывала, харошы хлопчык, добра вучыўся, што пра яго казалі дарослыя? Вырасце – настаўнікам будзе. І гэта была найлепшая пахвала. Не ўсім вартым, вядома, удавалася дабіцца настаўніцкага лёсу, але да гэтага імкнуліся. Гэта была мяжа жыццёвае мары. І правільна. І не таму, што легка… Ці заробкі харошыя… Не было нічога больш важнага і карыснага, як тая штодзённая, ціхая, непрыкметная праца тысяч бязвесных сейбітаў на гэтай духоўнай ніве. Я так думаю: у тым, што мы ёсць цяпер як нацыя і грамадзяне, – найпершая заслуга сельскіх настаўнікаў. *(В. Быкаў)*

***Практыкаванне 6.*** *Прачытайце сказы і назавіце зборныя назоўнікі. Вызначце асаблівасці назоўнікаў гэтай лексіка-граматычнай катэгорыі (адсутнасць формаў множнага ліку, наяўнасць спецыфічных словаўтваральных суфіксаў, адметнасць канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку).*

1. Мяне заўсёды здзіўляла, якія ў нас разнастайныя, непаўторныя лясы: магутныя пушчы, заўсёды ўсхваляваныя асіннікі, звонкія высокія бары, прасторныя дубровы, вясёлыя бярозавыя гаі, застыўшыя ў непрыступных калонах ельнікі, калінавыя і чарэмхавыя зараснікі. *(Панч.)* 2. Яблыні выпростваюць замлелае пад яблыкамі голле, а яблыкі, надзіва сёлета ўрадлівыя, ружовымі, духмя-

нымі сонцамі кладуцца ў скрыні са свежай дранкі, на свежую жытнюю салому. *(Б.)* 3. Я ўпарты, не кіну пачатае справы, каменне крышу, разграбаю пяскі, пад кпіны аматараў лёгкае славы капаю рэчышча ўласнай ракі. *(А. К.)* 4. Лясы каля Мінска вялікія і вельмі багатыя на ягады, грыбы і дзічыну. *(Сач.)* 5. Гулі пчолы ў густым вецці прысад і ў пышных кветніках. *(Грах.)* 6. На дубе маім, заслоненыя лістотай, дарослыя буслы ці бусляняты стаялі нябачныя, моўчкі – я толькі здагадваўся, што яны там ёсць. *(Б.)* 7. Гарацъ навагоднія ёлкі ў сузор'і святочных агнёў. *(М. Т.)* 8. У нас харошая пісьменніцкая моладзь. Многа шчырых, добрасумленных, адукаваных, працавітых, натхнёных работнікаў літаратуры. *(Б.)* 9. Сам не паклоннік даўніны, сучаснасці равеснік, паміж радні і сябрыны я рады слуцкай песні – і той, што з полымя вайны і што бацькі спявалі, што нашы дочкі і сыны вязуць на фестывалі. *(Віт.)* 10. Мы слухаем маўклівае міжзор'е, а блізкіх нам не хочам зразумець. *(Бур.)*

***Практыкаванне 7.*** *Вызначце род выдзеленых назоўнікаў (па марфалагічных адзнаках – аснове і канчатку, семантыцы слоў, сінтаксічных сувязях).*

1. І хоць свая зямля ласкава, далёкі свет мне не чужы. *(Бр.)* 2. Вы на смерць ішлі без страху, беларускія жанчыны, у імя Радзімы светлай, міру, шчасця і любві! Чырванець умелі ружай. Рассыпаць добра алмазы. Карчаваць карэнне зла. *(Зв.)* 3. Людзей кранае кожны раз да слёз і радуе іх позірк чалавечы бязвоблачная чысціня нябёс сваей ад сонца выцвілай сінечай. *(Аўр.)* 4. Усе вакол знаёмае да болю: збягаюць незабудкі да вады, сядае важна бусел на тополю, ад ластавак абвіслі правады. *(Бур.)* 5. Да нас выходзіць старшыня калгаса, дэпутат абласнога Савета, ардэнаносец Алена Мінаўна Рунец. *(Грах.)* 6. Зачараваны, бадзяюся я па вуліцах душных Сухумі *(Панч.)* 7. Быў ён [Андрэй] сення ў старым чорным суконным галіфэ, у сівой суконнай доўгай рубашцы… *(Пташн.)* 8. Жэня была цяпер у Маскве. *(К. Ч.)* 9. Цуды нейкіх авеню і сады ружовыя Сарэнта ў памяці пераганю, быццам бы старую кіналенту. *(Панч.)*

***Практыкаванне 8.*** *Растлумачце, як вызначаецца род назоўнікаў.*

1. Тарас Шаўчэнка стаяў, бронзавы, на беразе возера Антарыо, каля горада Палермо. *(Панч.)* 2. Праехалі краіну ад Тбілісі да горнага гарадка Вардзія, бліжэй пазнаёміліся з надзвычай працавітымі і шчырымі людзьмі… *(Панч.)* 3. Гэта і наш боль – Сангмі. Гэта і нашы праблемы, трагедыі – Блізкі Усход. *(Адам.)* 4. У свеце зна-юць смутак Лідзіцэ і Арадур у чорнай скрусе, а партызанкай пер-шай лічыцца зямля бясстрашнай Беларусі. *(Гіл.)* 5. Замець, нібы кан-феці, закружылася ў голлі. *(А. К.)* 6. Сёння мы будзем на Ай-Пет-ры – у поўдзень, у спеку, аўтобусным гуртам… *(В.)* 7. Мы славім вас, хто ноч развеяў, у неўміручасці імён, хто ля Дуная паў, ля Шпрэе, хто дома нёс фашыстам скон. *(Бр.)*

***Практыкаванне 9.*** *Да назоўнікаў падбярыце прыметнікі, запішыце, у дужках адзначце род назоўнікаў.*

Алібі, амплуа, канферансье, бра, маэстра, жэле, кальё, марабу, лэдзі, кімано, гну, манпансье, лібрэта, ранцье, клішэ, калібры, кулі, пано, парцье, эсэ, табу, рэзюме.

***Практыкаванне 10.*** *Вызначце род складанаскарочаных слоў.*

АН, ВНУ, ААН, загс, ЛіМ, леспрамгас, гарана, ДАІ, БНТУ, СМІ, ЦУМ.

***Практыкаванне 11.*** *Выпішыце з «Беларуска-рускага слоўніка» або «Белорусско-русского словаря» восемдзесят аднакаранёвых назоўнікаў, род якіх не супадае ў беларускай і рускай мовах. Падбярыце да назоўнікаў прыметнікі. З некалькімі словамі складзіце вусна сказы.*

***Практыкаванне 12.*** *Падбярыце да рускіх словазлучэнняў беларускія адпаведнікі, запішыце іх. У дужках укажыце род назоўнікаў. Параўнайце род назоўнікаў у абедзвюх мовах.*

Золотая медаль, маленький гусенок, гроздь винограда, неправильная дробь, потянуло гарью, недавняя запись, комод для белья, переплетённая рукопись, высокая насыпь, злая собака, высокий тополь, вкусное яблоко, длинная тень, уверенная поступь, полевая ромашка.

***Практыкаванне 13.*** *Выпішыце са сказаў назоўнікі агульнага роду. Раскажыце пра асаблівасці іх ужывання ў літаратурнай мове.*

1. Я маю шчасце быць маленькім, сціплым сведкам шчырай любові да вялікага сына Расіі [Лермантава], той любові, якую жывіць да яго і да яе мой, нязменны ў пачуццях, беларускі народ. *(Б.)* 2. Не сануляй, не пястушкай, не патворай ганарлівай, а ўдалася іх

дачушка працавітай і руплівай. *(М. К.)* 3. Гэта быў няўрымслівы непаседа, трапяткі і мітуслівы весялун. *(Віт.)* 4. Поле ціхае маўчыць сіратой забытай. *(К-с)* 5. А гэты Юзік-шаляніца, малы яшчэ, зусім дурніца, так пад нагамі і таўчэцца. *(К-с)* 6. Не маеш права зараз быць няўмекаю. *(Луж.)* 7. Аднаму Жэньку было не да смеху. *(Б.)* 8. Не будзь, калега, недарэкаю! Паэтам стань! Раней устань! Прайдзіся вуліцаю ціхай, азонам веснавым падыхай. *(Вярц.)*

***Практыкаванне 14.*** *Складзіце па два сказы з наступнымі назоўнікамі, каб яны абазначалі асоб мужчынскага і жаночага полу.*

Інжынер, пераможца, дэпутат, стажор, донар, стараста, дырэктар, канстуктар.

***Практыкаванне 15.*** *Раскажыце пра актыўны працэс утварэння назоўнікаў жаночага роду ад слоў-назваў «мужчынскіх» прафесій і пасад.*

Лабарант – лабарантка, настаўнік – настаўніца, бібліятэкар – бібліятэкарка, доктар – доктарка, дэлегат – дэлегатка, паэт – паэтэса, герой – гераіня, дыпламат – дыпламатка, касір – касірка, машыніст – машыністка, піяніст – піяністка, сакратар – сакратарка, трактарыст – трактарыстка, фельчар – фельчарка, цымбаліст – цымбалістка, кандуктар – кандуктарка, саліст – салістка.

### Вызначэнне роду некаторых назоўнікаў

***Практыкаванне 16.*** *Ахарактарызуйце назоўнікі паводле іх родавай прыналежнасці (мужчынскага, жаночага, ніякага, агульнага роду). Чым вы кіраваліся пры вызначэнні роду? Падбярыце да назоўнікаў прыметнікі (да назоўнікаў агульнага роду па два), словазлучэнні запішыце.*

Раяль, памідор, карусель, бандэроль, юнацтва, гуслі, ААН, сірата, танга, бра, Гродна, вячоркі, мовазнаўства, Малдова, недарэка, дэндзі, поні, запявала, эканаміст, піяніна, аташэ, алібі, ранцье, маэстра, гарэза, Карпаты, Нёман, агранnetwork, МАЗ, ложак, бяздараж, заіка, суддзя, пано, інтэрв'ю, метро, трыо, паліто, таксі, Тбілісі, абаронца, фае, Монтэ-Карла, Вэрдзі.

***Практыкаванне 17.*** *Перакладзіце словазлучэнні на рускую мову. Вызначце род назоўнікаў у абедзвюх мовах.*

Працоўны мазоль, вялізны дзень, салдацкі шынель, бронзавы медаль, матчын жаль, пякучы боль, пясчаны насып, барабанны дроб, старажытны рукапіс, шэрая гусь, бадлівае цяля, вялікі ахапак дроў, прыўзнятае ў здзіўленні брыво, чыстая бялізна, едкі гар, творы італьянскага жывапісу, вялікая зала, гарачая кава, жвавае парася, дубовая камода, конскі капыт, парваная кішэня, горкі палын, пераможца спаборніцтва, чарговы перапіс насельніцтва, неразборлівы подпіс, цвёрды поступ, дарожны пыл, сонечны россып, старажытны летапіс, нізкая столь.

### Лік назоўнікаў

***Практыкаванне 18.*** *Прачытайце словы. Выпішыце спачатку назоўнікі, якія маюць абедзве формы ліку (падбярыце пару), затым – назоўнікі, якія маюць форму толькі адзіночнага ліку, і, нарэшце, словы, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку (укажыце, што яны абазначаюць).*

У з о р: вокны (мн. л.) – акно (адз. л.); алешнік (зборны); прыцемкі (стан прыроды).

Абдымкі, натоўп, абставіны, спакуса, праменне, абцугі, святы, акуляры, ападкі (дождж), бацькі, беганіца, безгалоссе, бэз, гняздо, дровы, крыга, краявід, нажніцы, назоўнік, паветра, паводзіны, ногі, папялішча, руіны, насельніцтва, народ, расліна, рэшткі, спаборніцтва, сонца, зямля, хлеб, каласы, малако, зеляніна.

***Практыкаванне 19.*** *Прачытайце словы, параўнайце лік назоўнікаў у беларускай і рускай мовах. Складзіце і запішыце словазлучэнні на абедзвюх мовах.*

Адвячорак (мн. л. няма) – сумерки (ед. ч. нет); адносіны (адз. л. няма) – отношение и отношения; агародніна (мн. л. няма) – овощи и овощ; бялілы (адз. л. няма) – белила (мн. ч. нет); веснічкі (адз. л. няма) – калитка и калитки; дзверы (адз. л. няма) – дверь и двери; збажына (мн. л. няма) – хлеба (ед. ч. нет); карункі (адз. л. няма) – кружево и кружева; крупы (адз. л. няма) – крупа (мн. ч. нет); дрыжыкі (адз. л. няма) – дрожь (мн. ч. нет); зносіны (адз. л. няма) – общение (мн. ч. нет); могілкі (адз. л. няма) – кладбище и кладбища; прыгаршчы (адз. л. няма) – пригоршня и пригоршни; прысады (адз. л. няма) – аллея и аллеи; смятанка (мн. л. няма) – сливки (ед. ч. нет); лекі (адз. л. няма) – лекарство и лекарства.

***Практыкаванне 20.*** *Вызначце ў тэксце склон назоўнікаў. Адкажыце, што пры гэтым бярэцца пад увагу (марфемная структура слова, сінтаксічная функцыя, роля прыназоўніка, парадак слоў).*

1. З тых людзей, што адстойвалі і ўсталёўвалі Кастрычнік у Беларусі, мне пашчасціла ведаць Зміцера Жылуновіча і Аляксандра Чарвякова. Аляксандр Рыгоравіч вельмі цёпла аднойчы прыняў мяне і Кузьму Чорнага, абяцаў дапамагчы ў нашым пачынанні… Вышэйшага аўтарытэту, асабліва для сялян, тады ў рэспубліцы не было. Імя Чарвякова вымаўлялася поруч з імем М. І. Калініна. Да яго ў Мінск, у невялікі двухпавярховы дамок ЦВК на плошчы Свабоды, плылі хадакі. Яны вярталіся назад, несучы ўжо не надзеі на дапамогу, а самую дапамогу. *(М. Лужанін)*

2. Многа напісана пра вочы, што яны – люстра душы, псіхічнай арганізацыі чалавека… Але, можа, нічога не выяўляе чалавека так, як яго хада.

Вось прайшоў нехта наперадзе, і табе робіцца нядобра ад нейкага адчування, што гэта рушыць цяжкая, упартая, сляпая сіла, якая не знаецца з такімі тонкімі нюансамі душы, як ласка, пяшчота, дабрыня, каханне, чуласць, спагада. І ўся гэтая трывога толькі ад таго, што прайшоў непрыгожа, няўклюдна, як кажуць, па-мядзведжы – наскамі ўсярэдзіну.

На жаль, бывае, гэтак ходзяць і жанкі, і нават маладыя дзяўчаты. Дзе ўжо там думаць пра нейкую жаноцкасць. Хаду таксама трэба выхоўваць. Як інтэлект. А яны звязаны між сабою, я ў гэта веру. Чалавек не мае права быць непрыгожы. І нядобры. *(Паводле Я. Скрыгана)*

***Практыкаванне 21.*** *Прачытайце тэкст. Назавіце члены сказа, якія выражаюцца, могуць выражацца назоўнікамі назоўнага склону. Знайдзіце ў тэксце назоўнікі назоўнага склону, вызначце іх сінтаксічную функцыю ў сказе.*

Спрадвеку ў Беларусі лічылася, што самы надзейны спосаб захавання каштоўнасцяў – закопванне іх у зямлю. Амаль нідзе ў Еўропе няма месцаў, дзе б знаходзілі столькі скарбаў, колькі ў нас. Таму археолагі жартуюць, што зямля Беларусі – сапраўдны сейф, з якога дасталі яшчэ не ўсё.

Паводле павер'я быў спосаб легка і бяспечна адкапаць скарб. Для гэтага трэба было знайсці папараць-кветку. Той, хто яе знойдзе, будзе валодаць здольнасцю бачыць скрозь зямлю, даведвацца



пра таямніцы закляццяў. Але шукальніка скарбу, які вырашыў ісці такім шляхам, падпільноўвалі іншыя цяжкасці і небяспечныя моманты.

Папараць-кветка з'яўлялася ў цёмным лесе толькі раз на год, уноч на Купалу. Цвіла яна адно імгненне, ярка ззяючы ўначы, а пасля згасала. Гэтым часам папараць пільнавала нячыстая сіла. Таго, хто асмельваўся наблізіцца да чароўнай кветкі, яна імкнулася пазбавіць розуму або напалохаць да смерці. Таму не кожны адважваўся на такі ўчынак. *(Э. Ляўкоў)*

***Практыкаванне 22.*** *Утварыце і запішыце словазлучэнні з назоўнікамі, што ў дужках. Растлумачце правапіс канчаткаў гэтых назоўнікаў.*

Выйсці з (дом, інстытут, парк, лес), выступіць на (мітынг, сход), няма (гадзіннік, густ, кантакт, твор), ганарыцца (край, горад), схавацца ад (дождж, мароз, брат), вецер з (усход, акно, бераг, поўдзень), холадна на (двор, перон, дах), непакой на (твар, сэрца), гаварыць па (тэлефон, селектар), адпачываць на (Неман, возера, узлесак, ганак), купіць (вінаград, часопіс, чай, хлеб), размаўляць пасля (дыспут, канцэрт, выступленне).

***Практыкаванне 23.*** *Пастаўце назоўнікі ў родным склоне адзіночнага ліку, словазлучэнні запішыце. Растлумачце, як сэнс слоў вызначае іх граматычную форму.*

Загад па школе, бацькаў загад; курс партыі, трэці курс; з'езд настаўнікаў, з'езд з гары; ясень на мэблю, высокі ясень; пасеяць загон жыта, загон для зуброў.

***Практыкаванне 24.*** *Запішыце настуныя назоўнікі ў месным склоне. Растлумачце правапіс канчаткаў.*

Інстытут, сакавік, поле, вецер, Васіль Дзяцел, трактар, трактарыст, гай, Віцебск, мір, возера, Мазыр, падарожжа, дырэктар, малако, Неман, хлеб, Мікалай Барысюк, стог, двор, Алесь Дрозд, Валожын, гаспадар, жыта, калектыў, ліпень.

***Практыкаванне 25.*** *Выявіце ў сказах назоўнікі 3-га скланення. Вызначце іх склон, растлумачце правапіс канчаткаў.*

1. Гані мяне, доля, ад перакатных радасцей капрызнай славы да зямнога, ціхага шчасця вялікай, патрэбнай працы! *(Б.)* 2. Чытаючы добрую кнігу, падумаў: апроч усіх падтэкстаў, тут ёсць яшчэ і

такі – гэта напісана ў дождж, гэта ў радасці, гэта ў горы… *(Б.)* 3. Лёўка ішоў і ўдыхаў гэтую бясконцую веснавую радасць. *(Скр.)* 4. А на зямлі, дзе вокам кінь, цвіце, рунее рунь багата. *(Куп.)* 5. Дарога вяла цераз самую рунь. *(Пташн.)* 6. Над палосамі свежай раллі, над жытняй рунню і травой цэлы дзень не змаўкаюць цудоўныя песні – званочкі жаўранкаў і грукатанне трактара. *(Б.)* 7. Як добрая дзедава казка, адзываецца ноччу таямнічасцю гукаў і слоў. *(Віт.)* 8. Спі, чалавеча, спі, засні. Ты спіш заўсёды ноччу цёмнай, пасля штодзённай мітусні, пасля сваёй турботы дзённай. *(Вярц.)* 9. Без маладосці не было б хараства, а без хараства жыццё змарнела б… *(А. М.)* 10. Над дзённікам Льва Мікалаевіча, наткнуўшыся на яго думкі пра малалецтва, прыемна адчуў успамін пра сваю вясковую, даваенную маладосць. *(В.)*

***Практыкаванне 26.*** *Прачытайце тэксты. Знайдзіце рознасклянільныя назоўнікі. Акрэсліце асаблівасці іх скланення.*

1. Пра дзяцей ёсць вельмі добрая легенда. Жанчына некалі наскардзілася чараўніку, што рукі адвальваюцца: дзеці да году не ходзяць, цыляты, ягняты, жарабяты. Усіх на руках насі. Той узяўся памагчы. Кінуў цераз высокі плот жарабя – пабегла, цяля – таксама, ягня – і яно пабегла. «Ну, кажа, давай дзіця». Матка абурылася: «Эге, так я табе і дам дзіця цераз высокі плот кідаць». – «Ну то тады і насі…» *(У. Караткевіч)*

2. Сціплая фельчарка, не сказаць каб магутнага складу жанчына, Цётка рабіла цяжкую мужчынскую працу паэта і рэвалюцыянера. Дададзім яшчэ – асветніка. Малады Колас не без яе ўплыву складаў «Другое чытанне» – кнігу для дзяцей. Гонар стварэння «Першага чытання для дзетак беларусаў» належыць Цётцы.

І прозвішча ж выбрала сабе ўдалае! Каб легка вымавілася, запомнілася адразу, усім рыпала да сэрца, як скажам, Купала і Колас.

Вось хто табе яна, дружа-сучаснік, – Цётка! Родная сястра твайго бацькі або маці. *(М. Лужанін)*

***Практыкаванне 27.*** *Прачытайце сказы. Акрэсліце асаблівасці скланення назоўнікаў.*

1. Тут азёры, як неба, сінія, у чаротах чароды гусіныя, а на дне Млечным Шляхам свецяцца трапяткія гурты язіныя. *(Бур.)* 2. Ля чорнай кладкі плавала гусінае пяро. *(А. П.)* 3. Чую крык жураўліны над полем. *(А. П.)* 4. Плыве над намі жураўліны клін. *(Грах.)* 5. У сівой вышыні жураўлінай аж да зор даляцеў беларус. *(Бур.)* 6. Паўтараецца вечна, а гучыць не завучана кожнай новай вясной кукаванне зязюльчына. *(Панч.)* 7. У акенца тваё я пастукаў зязюльчыным ранкам пасля салаўінага вечара і перапёлчынай ночы. *(Панч.)* 8. І знямела, як арліны клёкат, слова набалелае ў грудзях. *(А. П.)* 9. З высокага замчышча – арліны пагляд на зялёна-залацістыя надрэчныя далі, на вялікае сяло з драўлянымі домікамі. *(Б.)* 10. Сыны зямлі арліным зрокам у цьме спрадвечнае смугі знайшлі другія берагі, каб волю даць людскім патокам. *(К-с)* 11. Гукае нас зялёная вясна таемным шэптам і птушыным звонам. *(Грах.)* 12. Птушыныя гнёзды пад снегам паснулі, дрымотную пражу завеі прадуць. *(А. П.)* 13. Бяроза там – сама краса: царыца над узлессем! І ўся ў птушыных галасах, у ліразвонах песень! *(Л.)* 14. Над Проняй – не вузкай, не мелкай – чмяліны малінавы бас. *(А. П.)* 15. Маня і потым, калі гаварыць ужо не было чаго, стаяла, маўчала, лыпала цялячымі вачыма, пакуль Хадоська не падалася першая ў бакоўку. *(І. М.)* 16. Я лісічак набраў каля сцежкі-вяртухі, што да хаты лісінай лагчынай вяла, падбярозавікаў – пад бярозай-шаптухай, дзе капэла чмяліная пела, гула. *(М. Т.)* 17. Чутка пра баброў пайшла пасля таго, як яны запрудзілі канаву, замасцілі так моцна, што прарваць бабрыную плаціну не змагла нават паводка. *(Ж.)* 18. Хлопец у лісінай шапцы быў Марынін браценік. *(Кудр.)*

### Скланенне назоўнікаў. Асновы назоўнікаў. Правапіс некаторых канчаткаў назоўнікаў 1-га скланення

***Практыкаванне 28.*** *Прачытайце словы. Вызначце, да якога тыпу скланення належаць назоўнікі, а таксама характар асновы гэтых назоўнікаў.*

Каменьчык, слуп, грыб, возера, сузор'е, зямля, воблака, соль, насенне, месяц, поле, вырай, россып, гарох, дарога, шкло, надзея, ноч, полымя, клён, старшыня, акуляры, бацька.

***Практыкаванне 29.*** *Спішыце словазлучэнні, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў.*

Глядзелі ў бок (жняя), быў на (дрывотня), у глыбокай (нара), па (дуга) вясёлкі, на ўскраіне (вёска), ехаць на (машына), аб сваёй (сястра і сястрычка), на старасвецкай (пушча), ісці з (песня), перад доўгаю (дарога), ісці па (сцежка), у бок ад (сцежка), барабаніць па (страха), купацца ў (рака і рэчка), сядзець каля (рэчка), мыцца ў (лазня), працаваць на (фабрыка), даць (Маша), быць удзячным (Ян-

ка Купала), у (песня) спявалася, страх перад (будучыня), стаялі ў (банка), на прамой (дарога), сказаць майму (бацька), агорнуты лёгкай (смуга), на ўзбочыне (дарога), глядзець з (надзея), сустрэцца на (вуліца), расказаць аб (дачка і дачушка), на высокай (гара), на (вяршыня) хвоі, скаціцца па (шчака), у вялікай (сям'я), сядзець на (дзяжа і дзежка), на каманднай (вышыня), быць на судзе (абвінаваўца), аб (сястра Маруся), на старонках (кніга), прачытаць у (кніга), даць параду (Каця), па новай (падлога), у роднай (краіна), побач са старой (хвоя), адпачываць на (дача), марыць аб (перамога), стаяць каля (дошка), запісаць на (дошка), на (зямля) бацькоў, працаваць у (брыгада), расказаць (дзядзька Вася), сказаць (Таня і Таццяна), палец на (рука), рамонт з (гарантыя), на (лінія) фронту, гаварыць аб (дзяўчынка і дзяўчына), на хворай (нага), у гарачай (пустыня), магутнай (хваля), аб (старшыня) журы, перадаць (старшына Карпенка, мужч. род), у поўнай (цішыня), бавіць час у (гутарка), стаяць ля (печка), ляжаць на (печка), схавацца за (печка), ганарыцца сваей (дачка), на лясной (паляна), ля дзіцячай (пляцоўка), на будаўнічай (пляцоўка), у старой (легенда), сказаць гэтаму (мужчына), гаварыць аб (Жэня Пятрова і Жэня Пятроў), побач з (Акадэмія) навук, пакрыта цёплай (хустка), хлопец без (шапка), у (шапка-вушанка), галава ў (папаха), застацца (калека).

### Правапіс канчаткаў назоўнікаў 2-га скланення

***Практыкаванне 30.*** *Выпішыце спачатку словазлучэнні са словамі, у якіх на месцы кропак трэба дапісаць канчатак* ***-а (-я)****, потым* ***-у (-ю)****. Што абазначаюць назоўнікі, якія ўваходзяць у склад гэтых словазлучэнняў?*

Колеры арнамент..., дзень арышт..., з навакольнага асяродк..., укладка асфальт..., сукенка з атлас..., на старонках атлас..., у гушчары алешнік..., члены аэраклуб..., тэатр оперы і балет..., глыток бальзам..., камандзір батальён..., каля беражк..., пліты з бетон..., прыклад гераізм..., вуліцы роднага горад..., шапачка грыб..., эпоха гуманізм..., сімвал дабрабыт..., зараслі дзядоўнік..., лісты календар..., укус камар..., дэфіцыт кальцы..., нябеснага блакіт..., з правага борт..., лыжка гарачага булён..., россып васільк..., падкладка з вацін..., песня жаваранк..., ад нечаканага выгук..., апошнія дні жніўн..., штаны з вельвет..., павевы ветр..., стрэлкі гадзіннік..., вузел гальштук..., час заняпад..., няма запас..., на старонках каталог..., схавацца ў зараснік..., чакаць змрок..., прыступіць да збор..., вада з калодзеж..., напіцца кампот..., не відаць агеньчык..., адсутнасць камфорт..., на беразе канал..., прыхільнікі кансерватызм.., умовы кантракт..., не чуў канцэрт..., дліна катэт..., выбрацца з лазняк..., з пагонамі лейтэнант..., каля лесапарк..., сукенка з ільн..., прыхільнік лібералізм..., на старонках летапіс..., поўныя лірызм... творы, вышыня кедр..., сарваць з кветнік..., пазбавіцца ад кашл..., саліст квартэт..., пакаштаваць квас..., асновы класіцызм..., роднага кра..., прыгажосць краявід..., лыжка крахмал..., на краі луг..., прадстаўнікі пралетарыят..., у званні маёр..., вырабы з малахіт..., кусты маліннік..., прыхільнікі дарвінізм..., злезці з матацыкл..., агні маяк..., лыжкі з мельхіёр...

***Практыкаванне 31.*** *Пастаўце назоўнікі ў форме роднага склону адзіночнага ліку, з назоўнікамі складзіце словазлучэнні і запішыце іх. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў.*

Ганак, снег, нос, плот, канал, паварот, народ, захад, уваход, твар, бой, мора, туман, лес, агонь, дом, пакой, палец, май, кут, мароз, камень, лоб, хмызняк, вецер, білет, гоман, класіцызм, узгорак, сшытак, дзень, грам, тыдзень, горад, каэфіцыент, здымак, бераг, алюміній, чай, час, поплаў, гнеў, вулей, торф, зерне, агарод, цукар, даход, праспект, скарб, гушчар, авёс, смутак, шоўк, жаль, грамадзянін, Віцебск, дацэнт, боль.

***Практыкаванне 32.*** *Спішыце словазлучэнні, ставячы назоўнікі, запісаныя ў дужках, у форме меснага склону адзіночнага ліку. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў.*

Прыехаць у (верасень), працаваць на (двор), сядзець на (бераг), боль па ўсім (цела), хадзіць па (лес), у родным (край), знаходзіцца ў (адпачынак), хадзіць па (пакой), крочыць па (праспект), спяваць у (гай), на пісьмовым (стол), гаварыць па (тэлефон), мазоль на (палец), сядзець на самым (верх), быць у (гушчар), ехаць на (алень), расказваць аб (здарэнне), выступаць на (кангрэс), расці ў (сад), убачыць на (здымак), жыць у (Мінск), сустрэцца на тым (тыдзень), змерзнуць на (мароз), прынесці ў (вядро), знаходзіцца ў (выгнанне), убачыць па (тэлевізар), працаваць на (поле), у блакітным (неба), быць на (сонца), па балотным (абшар), паранены ў (бой), стаяць на (акно), схавацца ў (туман), бегчы па (калідор), ехаць па (асфальт), адпачываць на (мора).

***Практыкаванне 33.*** *Спішыце словазлучэнні, раскрываючы дужкі.*

Пацягнула (вільгаць), з вялікай (радасць), звісалі над (столь), пабег за (мыш), слухаць з (цікавасць), загінуць (смерць) героя, ганарыцца таленавітай (моладзь), захапляцца неабдымнай (шыр), бегчы (рысь), прыкрыць сваёй (далонь), заліты (кроў), кіраваць (верф), схавацца за вялікай (печ), запэцканы (гразь), акружаны (загарадзь), пад (засень) ліп, над усёй (сенажаць), цудоўнай (трэль) салаўя, паглынуты (цемень).

***Практыкаванне 34.*** *Пастаўце назоўнікі ў творным склоне адзіночнага ліку. Запішыце, растлумачце правапіс канчаткаў.*

Беларусь, веліч, прыгажосць, Нарач, гладзь, Свіцязь, сінь, безліч, далеч, сенажаць, Прыпяць, Свіслач, Убарць, Пціч, электрычнасць, ноч, шыр, радасць, сувязь, глыб, творчасць, косць, ветлівасць, воблачнасць, гасціннасць, горыч, завязь, запаведзь, роспач, ростань, клецць, кішэнь, медзь, мыш, памяць.

## Правапіс канчаткаў назоўнікаў множнага ліку

***Практыкаванне 35.*** *Утварыце словазлучэнні, паставіўшы назоўнікі ў патрэбным склоне. Запішыце, выдзеліце канчаткі назоўнікаў, абазначце склон.*

Сустрэць (сябры), успаміны (удзельнікі) вайны, спевы (птушкі), звезці ўраджай з (палі), бачыць (браты), група (партызаны), восем (людзі), дзяўчына з (блакітныя вочы), гасцяваць у (сестры), стаяць за (дзверы), край (азёры), многа (яблыні), кроны (сосны), асушэнне (балоты), многа (дарогі), стукат (колы), расплюшчанымі (вочы), аб нядаўніх (падзеі), бляшанка (кансервы), гімнасцёрка з вялікімі (кішэні) на (грудзі), праз некалькі (дні), паміж (ствалы) шурпатых (сосны), каля тысячы (мінчане), выліць з (вёдры), схавацца за чужымі (плечы), у выніку трагічных (здарэнні), некалькі (салдаты), залівацца (слёзы), сход (сяляне), не хапала (рукі), каля васьмі (кілаграмы), галіны (вішні), без адметных (асаблівасці).

## Правапіс некаторых суфіксаў назоўнікаў

***Практыкаванне 36.*** *Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары. Абазначце суфіксы назоўнікаў, растлумачце іх напі-санне.*

Кніж...чка, нож...чка, руч...чка, матылёч...к, бабул...чка, Ван...чка, дубоч...к, стажоч...к, рукав...чка, Валодз...чка, званоч...к, вяргін...чка, Саш...чка, стуж...чка, зайч...к, Наташ...чка, трав...чка, вожыч...к, гузіч...к, узгорач...к, Тон...чка, вайсков...ц, мяшоч..к, баязлів...ц, унуч...к, садоч...к, акра...ц, ветр...к, пясоч...к, кош...к, праменьч...к, беражоч...к, хлоп...ц, аўстралі...ц, месяч...к, ноч...чка, стол...к, плужоч...к, Сон...чка, Грыш...чка, арэш...к, твар...к, скарбн...ца, клун...чка (клуня), душ...чка, Віц...чка, каласоч...к, мыльн...чка, соц...нька, сшытач...к, Ан...чка, вяноч...к, гасцін...ц, віш...нька, гвардзе...ц, абцас...к, агародч...к, гармон...к, шчаслів...ц, бярэзніч...к, Клав...чка, Гал...чка, камян...ца, бо...зь, крав...ц, прасн...цы, куп...ц, ран...ца, роўн...дзь.

Аб'езд...ык, пераклад...ык, паднос...ык, бетон...ык, груз...ык, картатэт...ык, верталёт...ык, вугаль...ык, перапіс...ык, ракет...ык, бакен...ык, замаз...ык, выбар...ык, перадат...ык, закрой...ык, электразвар...ык.

## Правапіс складаных назоўнікаў

***Практыкаванне 37.*** *Выпішыце ў адзін слупок складаныя назоўнікі, якія пішуцца разам, у другі – праз злучок. Растлумачце правапіс гэтых назоўнікаў.*

(Авія) матор, (вода) лячэбніца, (акцёр) аматар, (літаратура) знаўства, (арт) снарад, (жыцце) апісанне, (электра)зварка, (узаема) павага, (земле) карыстанне, (кіна) камедыя, (журналіст) міжнароднік, (мед) персанал, (контр) адмірал, (контр) удар, (сама) павага, (шасці) бор'е, (нацыянал) ліберал, (паў) боцікі, (нова) увядзенне, (піяніст) лаўрэат, (развед) група, (васьмі) томнік, (школа) студыя, (чарна) лессе, (рай) цэнтр, (стапяцідзесяці) годдзе, (разна) квецце, (кам) бат, (жыцця) дзейнасць, (лён) даўгунец, (шаўка) водства, (фота) рэпартаж, (метала) прадукцыя, (сацыял) імперыялізм, (нож) складанчык, (мікра) клімат, (метэа) служба, (обер) яфрэйтар, (контр) ігра, (узаема) разумение, (паў) дня, (паў) Украіны, (поў) дзень, (кіна) плёнка, (ахвяра) прынашэнне, (контр) разведка, (мангола) татары, (экс) прэзідэнт, (сама) суцяшэнне, (пісьменнік) прапаведнік, (фота) атэлье, (сацыял) рэвалюцыянер, (трох) кутнік, (процi) пастаўленне, (даля) гляды, (мікра) раён, (узаема) павага, (добра) ахвотнік, (чырвона) армеец, (ваенна) палонны, (паў) краіны, (унтэр) афіцэр, (паў) Францыі, (сама) упраўства, (сацыял) рэфармізм, (плашч) палатка, (вода) сховішча, (пяці) граннік, (сама) упэўненасць, (узаема) ветлівасць.

## Прыметнік

***Практыкаванне 1.*** *Да наступных прыметнікаў падбярыце адпаведныя назоўнікі. Растлумачце, што абазначаюць прыметнікі, якая розніца ў іх значэнні. Вызначце разрады прыметнікаў, складзіце шэсць-сем сказаў з гэтымі прыметнікамі (на выбар).*

Лясны, лясісты (дарога, гушчар, сцежка, кветкі, бераг, мясціна, раён, масіў); балотны, балоцісты (прастор, трава, яліна, бераг, птушка, асака, край, мясцовасць); вадзяны, водны, вадзяністы (снег, прастор, шлях, гладзь, паверхня); гліністы, гліняны (посуд, зямля, глеба, падлога); цікавы, цікаўны (артыкул, апавяданне, пытанне, хлопчык); ганарысты, ганаровы (госць, месца, званне, чалавек, абавязак, прэзідыум, грамата, вахта); чалавечы, чалавечны (род, учынак, жыццё, адносіны, голас, жыллё); эфектны, эфектыўны (вынікі, праца, слова, поза).

***Практыкаванне 2.*** *Спішыце сказы, вызначце форму прыметнікаў (поўная, сцягнутая (злітая), кароткая), іх сінтаксічную ролю.*

1. Чытаць – гэта і праца, і свята. Хвалююць, радуюць сустрэчы з новымі праўдзівымі, глыбокімі, сэрцам напісанымі кнігамі. *(Б.)* 2. Ніколі не страціць для нас цікавасці чалавек, бо праяўленне яго розуму бязмежна, бо дарогі яго не вызначаны, бо формы яго жыцця і адносін да другіх людзей бясконца разнастайныя… *(К-с)* 3. Чорны, родны небу, дораг надзённы хлеб у кмене зорак. *(Р. Б.)* 4. Зранку неба было і чыстае, і яснае, і яснасць стаяла доўга ўдзень, але за полуднем проста ўвачавідкі пачыналі пухнуць белыя, потым сіняватыя хмары. *(І. М.)* 5. Таксама вечар свае забавы нясе з сабой не менш цікавы. *(К-с)* 6. Канчаецца халодны, доўгі студзень, патроху набліжаецца вясна. *(Бур.)* 7. Свет быў поўны гукаў, поўны свайго, нябачнага раней жыцця. Ён быў увесь час, дзівосна багаты і розны, з няўціхнай песняй, празрыстай, звонкай – ранкам, гарачай, прытомленай – днём, ціхай, думнай – увечары. *(І. М.)* 8. Цемень ночы паблякла, паліняла, зрабілася шэрай, празрыстай. *(Лыньк.)* 9. Далёкія агні палескіх вёсак, настылыя блакітныя сады, дзявочай песні звонкі падгалосак мяне ізноў паклікалі сюды. *(Грах.)* 10. Гэта спадчына мне засталася ад прадзедаў – матчыных песень дзівоснае радзіва – і вясёлых, і сумных, і слёзных, і грозных… *(Л.)* 11. Наш народ – працавіты, душою багаты. *(К. Б.)* 12. Ноч стаяла светлая, сухая і ветраная. *(Пташ.)* 13. Лістападу радуйся, і снежню, і вятрам асеннім і снягам, і малая крыўда здасца смешнай, і як слаўна жыць – адчуеш сам. *(Панч.)*

***Практыкаванне 3.*** *Запішыце сказы, падкрэсліце канчаткі прыналежных прыметнікаў. Вызначце, у якіх склонах яны маюць кароткую форму, а ў якіх – поўную.*



1. Хтосьці, выпадкова праходзячы, убачыў, што на тым месцы, дзе расла калісьці Скуратовічава рагатая дзічка, зямля былаараскопвана і паразварочана рыдлёўкай. *(К. Ч.)* 2. Няма нічога лепшага за раніцу ў матчынай хаце. *(Кудр.)* 3. У маленькім Антосевым садку ў гэтую пару вясны было надзвычай хораша – белапенная квецень аздобіла кожнае дрэўца. *(Хадк.)* 4. Ужо як з хвойніку з'язджалі ў мокрыя, з лужынкамі, каляіны між гушчэчы алешніку, Ганна пачула, што ззаду хтосьці даганяе. Потым убачыла паблізу Васілёвага каня, самога яго. *(І. М.)* 5. Васіль адарваў вочы, зірнуў на ўзлесак: конь мірна скуб траву, Валодзька гаманіў пра нешта з Чарнушкавым Хведзькам. *(І. М.)* 6. У Алесевай памяці, нібы хваля на хвалю, то нагрувашчваецца, то зноў раскочваецца былое. *(Б.)*. 7. Пад звон-песню жывую гуслярavых струн для ўсіх папараць-кветка ўзыходзіць. *(Куп.)* 8. З нецярплівасцю, з дзелавітай заклапочанасцю выглядвала Хадоська ў акно бацькавы сані, узрадавалася, замітусілася, калі ўбачыла знаёмага рудога коніка. *(І. М.)* 9. Знайсці сваю радню аказалася куды лягчэй, чым я ўяўляў. Не прайшло і паўгадзіны, як я стаяў на ганку дзядзькавай хаты. *(Сач.)* 10. Калі Сцёпка бяжыць па вуліцы, яму кожны раз пападзецца на вочы гэтая Аленка, дачка Андрэева. *(К-с)* 11. Шолах бароў напрадвесні, гоман крынічкі лясной, і перапёлчыну песню, і абеліск пад сасной, – усё я радзімай лічу, лепшага не хачу. *(Е. Л.)* 12. Падзелены век чалавечы з маленства на часткі: да школы, у школе, пасля… *(Е. Л.)*

***Практыкаванне 4.*** *Замест назоўнікаў, што ў дужках, запішыце адпаведныя прыналежныя прыметнікі, падкрэсліце іх канчаткі. Вызначце, з дапамогай якіх суфіксаў утварыліся прыналежныя прыметнікі, адзначце іх склон і асаблівасці скланення.*

1. Не было нічога дзіўнага ў тым, што надвячоркам, калі стала спадаць дзённая ліхаманка, людзей зноў пацягнула да (Міканор) агеньчыка. *(І. М.)* 2. Уплыў на развіццё (Купала) таленту зрабіла, побач з літаратурамі рускай і ўкраінскай, літаратура польская. *(Б.)* 3. Мы жылі як адна сям'я: (Патап) дзеці бавілі час у нас, мы – у Патапавых. *(Сач.)* 4. Краўца і Сцепуржынскага здзівіў тон (Несцяровіч) слоў. *(К. Ч.)* 5. Такая і асталася Аксеня ў (бацька) памяці station назаўсёды – вясёлая, прыбраная, гаварлівая і з густымі валасамі, якім, здаецца, цесна было пад улюбёнай яе стракатай хусцінкай. *(К. Ч.)* 6. (Марылька) рэчы ляжалі на возе, а сама дзяўчына перад дарогай

поўная была непакою. *(Чыгр.)* 7. Як ён і прадчуваў, у той неспадзяванай белі начштаба была і яго, (Ляўчук), віна. *(В. Б.)* 8. Аленка ведае такую мясцінку на сваім двары, адкуль можна добра пабачыць (Сцепка) двор. *(К-с)* 9. Васіль прыслухаўся, што чуваць з (Чарнушка) двара, ці не пачуе (Ганна) голасу, але там было ціха. *(І. М.)* 10. Задыхаючыся ад радасці, Алесь расказаў свой верш. І нават забыўся прызнацца, што склаў яго з (Марыля) Грышам удвух. *(В.)* 11. Далёкая родная музыка слоў – яна сама прыйшла наверх з глыбіняў (Алесь) памяці. *(В.)* 12. Хто б ведаў, што такі боль ляжа на (Алеся) сустрэчу з Рыгорам? *(Скр.)*

***Практыкаванне 5.*** *Замяніце ў словазлучэннях назоўнікі роднага склону прыметнікамі. Вызначце суфіксы прыметнікаў, растлумачце напісанне з вялікай літары.*

Паэма Купалы, стыль Мележа, трылогія Коласа, дзеннік Толі, хустка сястры, падарунак дзядулі, кніжка Валі, хата старшыні, лодка Сяргея, вочы Аленкі.

### Ступені параўнання якасных прыметнікаў

***Практыкаванне 6.*** *Утварыце ўсе магчымыя формы параўнання якасных прыметнікаў. Растлумачце, чаму ад некаторых слоў нельга ўтварыць ступені параўнання. Пракаменціруйце чаргаванні зычных і галосных гукаў, якія ўзніклі пры ўтварэнні форм слоў.*

Халодны, вясёлы, чысты, дарагі, светлы, бацькаў, стары, прыгожы, гарадскі, імклівы, глыбокі, рухавы, новы, рассыпчаты, мудры, шчодры, малады, беларускі, пяшчотны, васьмітомны, просты, цяжкі, добры, радасны, шэра-папяловы, стальны, высокі, сляпы.

### Правапіс склонавых канчаткаў прыметнікаў

***Практыкаванне 7.*** *Спішыце словазлучэнні, дапісваючы канчаткі прыметнікаў. Укажыце, дзе магчыма варыянтнасць канчаткаў.*

У асен... лесе, бесклапотн... сініцы, па бясхмарн... небе, леташн... лісце, чырвон... сыраежкі, гнутк... лісічкі, ісці па цёмн... лесе, сін... хусткай, трапятк... ластаўкі, асен... прырода, па вялік... пакоі, сярэдн... росту чалавек, вясёл... агеньчыкі, стройн... сосны, па шыферн... даху, вячэрн... пары, шум зялён... прыбою, доўг... ноччу, у бяжмежн... небе, шчыр... душой, крытычн... розум, па пясчан... беразе, ясн... надвор'е, позн... кветка, ля цёпл... матчын... шчакі, па бетонн... падмурку, маленьк... аблачынкі, спакойн... і разважлів... чалавек, па драўлян... мосце, аперацыі па безнаяўн... разліку.



### Правапіс складаных прыметнікаў

***Практыкаванне 8.*** *Спішыце словазлучэнні, раскрываючы дужкі.*

(Дзесяці) павярховы дом, (глыбока) даследаванае пытанне, (цёмна) шэры колер, (грунтоўна) прадуманае выступленне, (паўночна) заходні напрамак, (маркотна) журботны настрой, (мала) вядомы спосаб, (часова) прызначаны начальнік, (бела) грывы конь, (цёмна) русыя валасы, (адмыслова) зробленыя рэчы, (чыста) вымытая падлога, (паўднёва) усходні вецер, (шмат) лікія птушкі, (штучна) утвораны, (літаратурна) мастацкі часопіс, (бледна) жоўтая сукенка, (руса) валосы хлопец, (смугла) твары чалавек, (прыгожа) аформлены кабінет, (фізіка) матэматычны факультэт, (глыбока) паважаны настаўнік, (асабліва) прыгожы краявід, (ружавата) чырвоны месяц, (многа) дзённы паход, (прынцыпова) новы падыход, (урачыста) узнёслы тон, (шмат) баковы дагавор, (рана) узаранае поле, (спрадвечна) беларускія словы, (адкрыта) здзеклівая ўсмешка, (паўднёва) славянскія народы, (глуха) нямы чалавек, (агульна) народная задача, (сардэчна) сасудзістыя захворванні, (горка) салёная вада, (цёмна) бэзавы колер, (празрыста) сіняе неба, (века) помныя дні, (ярка) рыжы хвост, (заходне) еўрапейскія краіны, (усходне) славянскія народы.

## ЛІЧЭБНІК

***Практыкаванне 1.*** *Назавіце спецыфічныя рысы лічэбніка як часціны мовы (семантычныя, марфалачныя, сінтаксічныя). Падбярыце аднакаранёвыя словы да тэрміна «лічэбнік». Параўнайце беларускую назву «лічэбнік» з рускай «имя числительное».*

***Практыкаванне 2.*** *Спішыце сказы. Вызначце семантычныя разрады лічэбнікаў, пакажыце іх сінтаксічную ролю ў сказе.*

1. Два снегіры, дзве кропелькі зары – на мокрую галінку вольхі ўпалі. *(Н. М.)* 2. Нарэшце пісьмо прыйшло: як выявілася, нейкія сто кіламетраў яно ішло пяць дзён. *(Шам.)* 3. Колькі гадоў мінула з таго часу, як ён бачыў яе [маці] апошні раз? Два, тры або цэлая вечнасць? Але якім жывым і яркім паўстае яе вобраз!.. Улетку сорак першага года ён зноў наведаўся б дамоў, але грымнула вай-

на, і ў першы ж дзень яе Аляксей пайшоў на фронт. *(Хадк.)* 4. Гарадок чысты з прахалоднай, утульнай гасцініцай, з аброслай плюшчом і мальвамі чайной, з трыма азёрамі, якія ўсе відаць навокал гарадка з высокай замкавай гары. *(Б.)* 5. Яна [Васіліна] чуе, як шасцяць вялізныя каласы жыта, у якіх, напэўна, не восемдзесят і не дзевяноста зярнят, як яна ўчора налічвала, а, можа быць, сотні, ды такіх буйных, што яна не можа надзівіцца на іх. *(Хадк.)* 6. Дваццаць чацвёрты год я чытаю Панчанку, упарта лічу, што ён усе яшчэ як след не ацэнены і ў нас, і за межамі Беларусі. *(Б.)* 7. Два высокія клёны каля гумна здаваліся сінімі і мокрымі. *(К. Ч.)* 8. Хутка на двор уз'ехала трое саней. *(Лыньк.)*

***Практыкаванне 3.*** *Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца аднакаранёвыя словы? Выпішыце лічэбнікі, вызначце іх разрад паводле значэння, семантычныя і граматычныя прыметы.*

Тры, трое, тройчы, тройка, трайны, трэці, тройня, па-трэцяе, траіцца; пяцёрка, пяцёра, пяцярня, пяты, пятак, пяцьсот, упяцярых; чатыры, чацвёрка, чвэрць, чвэртка, чацвёра, учатырох, учацвярых; восем, увасьмёх, восемдзесят, восемсот, увасьмярых, васьмёрка, васьмёра, восьмы.

***Практыкаванне 4.*** *Складзіце і запішыце з наступнымі словамі сказы. Назавіце семантычныя і граматычныя параметры гэтых слоў.*

Пара, дзесятак, сотня, раз, мільён, мільярд, тысяча.

***Практыкаванне 5.*** *Да якога структурнага разраду адносяцца лічэбнікі? Растлумачце ўтварэнне лічэбнікаў.*

Адзінаццаць, дванаццаць, пятнаццаць, дзевятнаццаць; пяцьдзесят, восемдзесят, шэсцьдзесят; дзвесце, трыста, пяцьсот, шэсцьсот, дзевяцьсот.

***Практыкаванне 6.*** *Пры спісванні лічбы замяняйце словамі. Запішыце лічэбнікі ў наступным парадку: а) уласна колькасныя; б) дробавыя; в) зборныя; г) парадкавыя.*

Другі; дзесяты; васьмёра; сёмы; дзесяцера; васьмідзесяты; двое; дзевяцера; трое; пяцёра; шасцёра; 2/5; 8; 890; 39; 90; 40; 900-ты; 0,1; 1,5; 600; 96; 152-гі; 17/25; 999; 3/4; 8/9; 1979-ты; 1980-ты; 48; 4/5; 876-ты; 14; 18; 11; 28,3; 667; 27,2; 128-мы.



***Практыкаванне 7.*** *Спішыце сказы. Падкрэсліце зборныя лічэбнікі. З назоўнікамі якіх семантычных груп яны спалучаюцца? Вызначце сінтаксічную функцыю колькасна-іменных спалучэнняў.*

1. Двое ці трое сяброў, шчырасць павольнай размовы, вецер з лугоў і бароў, сіні дымок сасновы. *(Панч.)* 2. Пераезд сціх. За лініяй чыгункі ў траншэі стаілася яго чацвёра абаронцаў. *(В. Б.)* 3. Двое сутак, як хлопцы ў паходзе. *(К-с)* 4. На другой фурманцы сядзела двое мужчын, адзін з іх быў за фурмана. *(Хадк.)* 5. У яе [Ганны] двое дзяцей, а муж у арміі. *(Шам.)* 6. Атрымалі мы васьмёра коней з воінскай часці. *(Кр.)* 7. За купамі аголеных кустоў мітусіліся хлапчукі школьнага ўзросту. Было іх пяцёра. *(К-с)* 8. На возе сядзела чацвёра маладых хлопцаў. *(Хадк.)* 9. Праз хвіліну яму ўжо добра было відаць, што ідуць двое людзей. *(К. Ч.)* 10. Абодва хлопцы, убачыўшы Аляксея і азірнуўшыся па баках, прыветліваківалі яму. *(Хадк.)*

***Практыкаванне 8.*** *Якія з наступных назоўнікаў могуць спалучацца з лічэбнікамі* ***тры*** *і* ***трое****, якія – толькі з адным з іх? Запішыце колькасна-іменныя спалучэнпі з гэтымі лічэбнікамі.*

Суткі, брат, сястра, хлопчык, боты, сын, сані, акно, рабочы, коні, дзверы, школьнікі, куры, гусі, рэчы, стол, кніга, ручка, студэнт, верабей, птушка, веска, дзеці, студэнтка, настаўніца, дзяўчынка.

***Практыкаванне 9.*** *Раскажыце пра асаблівасць сінтаксічнай сувязі лічэбнікаў* ***два (дзве)***, ***абодва (абедзве)*** *з назоўнікамі. Складзіце і запішыце сказы, праскланяйце (пісьмова) колькасна-іменныя спалучэнні з гэтымі лічэбнікамі. Як выражаецца ва ўскосных склонах родавае адрозненне лічэбнікаў* ***два (дзве)***, ***абодва (абедзве)*** *у беларускай мове?*

***Практыкаванне 10.*** *Раскажыце пра лічэбнікі* ***паўтара***, ***паўтары***. *Праскланяйце (пісьмова) спалучэнні* ***паўтара кіламетра***, ***паўтары гадзіны***. *У сучасных беларускіх гаворках і ў творах мастацкай літаратуры ўжываюцца лічэбнікі* ***паўтраця***, ***паўчварта***, ***паўпята***. *Якое значэнне гэтых лічэбнікаў? Раскажыце пра іх утварэнне.*

***Практыкаванне 11.*** *Лічэбнікі* ***сорак***, ***сто*** *прыкметна адрозніваюцца ад іншых лічэбнікаў. У чым такое адрозненне?*

***Практыкаванне 12.*** *Праскланяйце (пісьмова) колькасна-іменныя спалучэнні. Растлумачце асаблівасці скланення састаўных колькасных і парадкавых лічэбнікаў.*

651 чалавек, 273 студэнта, 559 школьнікаў, 895 кіламетраў, 1979 год, 53 дні.

***Практыкаванне 13.*** *З назоўнікам* ***кніга*** *ў назоўным, родным, творным склонах утварыце і запішыце колькасна-іменныя спалучэнні наступных лічэбнікаў. Вызначце тып сінтаксічнай сувязі.*

Тры, пяць, дзесяць, дваццаць, сорак два, дваццаць пяць, пяцьсот пяцьдзесят пяць.

***Практыкаванне 14.*** *Спішыце словазлучэнні, замяніце лічбы словамі, назоўнікі пастаўце ў адпаведнай форме. Раскажыце пра сінтаксічную сувязь лічэбнікаў з назоўнікамі.*

5 (студэнт); 2 (тыдзень); 3 (чалавек); 233 (вучань); 32 (сані); 44 (дзверы); 64 (кілаграм); 3 (цяля); 14 (ягня); 18 (курыца); 181 (тона); 3 (літр); 32,3 (цэнтнер); абедзве (родная сястра); 4 (зімовы дзень); 45,5 (гектар); 1/3 (кілаграм); 1/2 (літр); 38,7 (цэнтнер); 2/4 (кіламетр).

***Практыкаванне 15.*** *Спішыце сказы. Словы, што ў дужках, пастаўце ў патрэбнай склонавай форме. Падкрэсліце колькасна-іменныя спалучэнні, вызначце склон лічэбніка і назоўніка. Раскажыце пра асаблівасці дапасавання прыметнікаў да назоўнікаў у колькасна-іменных спалучэннях з лічэбнікамі* ***два***, ***тры***, ***чатыры***.

1. Дзве (рыбацкі) вёскі, у якіх жывуць дзед Вячэра і ўнучак яго Міхась, разлучаны вялікай вадою. *(В.)* 2. Дзве (дзявочы) постаці мільганулі на фоне лугавой зеляніны. *(Хадк.)* 3. Там, дзе сыходзіліся дзве (лясны) сцяжынкі, дзе згрудзіліся махнатыя елкі, было ціха, утульна. *(Лыньк.)* 4. Тры (высокі) кучы жыта, пшаніцы і ячменю выраслі пад павеццю. *(Хадк.)* 5. Паабапал ракі дзве (чыгуначны) будкі. *(Луж.)* 6. Ужо, відаць, пад поўнач выгнутая дугой траншэя сяк-так злучыла пяць (стралковы) ячэек. *(В. Б.)* 7. Дваццаць (гарачы) дзён мы смаглі ў паходзе ад спёкі. *(Хвед.)* 8. Зося моўчкі пачала аглядаць: кухня і тры (невялікі) пакоі. *(К. Ч.)* 9. Машыны спыніліся, і далей уніз пайшлі танкі – тры (грукатлівы, сталёвы) аграмадзіны. *(В. Б.)* 10. Нечакана наляцеўшы, сем (невядомы) коннікаў згрудзіліся, спыніліся. *(Лыньк.)* 11. Нават у сне бачыліся тыя расцяробы і печышчы, дзе правёў не адну, а (цэлы) дзве (доў) зімы… *(Чыгр.)* 12. Сонца пазалаціла тры (вялізны) дубы, што стаялі тут жа, на ўскрайку поля. *(Лыньк.)*

***Практыкаванне 16.*** *Спішыце сказы, растлумачце, як перадаецца прыблізная колькасць.*

1. Гады са два таму назад мы пазнаёміліся з ім [Максімам] бліжэй, у Мінску, на вечары ў нашага агульнага друга. *(Б.)* 2. Малады чалавек, які, аднак, быў гадоў на пяць старэйшы за Пятра, сур'ёзна і паважна, з усведамленнем уласнай годнасці, працягнуў руку… *(Шам.)* 3. Дуб пражыў у лесе гадоў трыста, не меней. *(Чыгр.)* 4. Да горада было кіламетры тры-чатыры. *(Лыньк.)* 5. Падышло чалавек з восем. *(Хадк.)* 6. Хат за дзесяць ад калгаснай канторы бялеў свежы зруб з незакончанай страхой. *(Хадк.)* 7. Дзядзька ішоў не адзін, – чалавек іх ішло з пятнаццаць. *(Б.)* 8. Яны яшчэ прайшлі далей, Фішар ужо трымаўся побач, і Карпенка скоса разы два зірнуў на яго. *(В. Б.)* 9. У пярэдні пакой выйшаў малады яшчэ чалавек, гадоў, можа, за дваццаць. *(Чыгр.)* 10. Янукевічу было гадоў над пяцьдзесят. *(Хадк.)* 11. Непадалёку, крокаў за пяць ад дарогі, паміж дзвюх бяроз, якія вылучаліся сваей бяростай сярод хвойных дрэў, стаялі чырвонаармейцы з вінтоўкамі. *(Чыгр.)* 12. Пячора была досыць вялікая: метры тры на тры і вышынёю каля двух метраў. *(Каратк.)* 13. За паўкіламетра адсюль была веска. А збоку, крокаў якіх за дзвесце, зноў былі відаць кусты. *(Чыгр.)*

## Ужыванне, складанне і правапіс лічэбнікаў

***Практыкаванне 17.*** *Спішыце сказы, раскрываючы дужкі і ўжываючы патрэбную форму лічэбнікаў. Лічбы запішыце словамі.*

1. На двары, каля паветкі, стаяла (два, двое, абодва) саней, а над паветкай – амаль (адзін, адна, адно) пры адным – (чатыры, чацвёра) коней: (два, дзве, двое, абодва, абедзве) з іх, відаць, грузавыя, а (два, дзве, двое, абодва) верхавыя. 2. З (трох, траіх) дзяцей старэйшаму хлопчыку 10-ты год. 3. Усе (чатыры, чацвёра) хлопцаў скончылі школу сёлета. 4. (Абодва, два, двое) рабочых зноў сталі на рыштаванні. 5. З 9-га класа пайшло на фронт (шаснаццаць, шаснаццера), прыйшло толькі (чатыры, чацвёра). 6. Дзяўчаты – іх было (тры, трое) – сядзелі за столікам. 7. Падводы ехалі па (двух, дзвюх, абодвух, абедзвюх) баках рэчкі. 8. Сёння (першае, першага) верасня. 9. Да вёскі трэба прайсці кіламетры з (паўтара, паўтары).

***Практыкаванне 18.*** *Запішыце лічбы словамі. Дробныя лічэбнікі праскланяйце.*

4, 6, 8, 12, 17, 44, 79, 414, 800, 1997, 100 001, 2/3, 8/9, 3/5.

3-ці, 7-мы, 18-ты, 79-га, 411-му, 800-м, у 2001-м, 32-тысячны, 214-мільённы.

***Практыкаванне 19.*** *Спішыце сказы, запісваючы лічэбнік словамі. Вызначце іх разрады і віды па структуры (простыя, складаныя, састаўныя).*

1. Яр быў метры на 4 шырынёю, метраў 15–20 глыбінёю, а ў даўжыню цягнуўся метраў на 60. 2. У многіх баабабаў ствалы дасягаюць у дыяметры ад 4 да 8 метраў, у той час як вышыня гэтых дрэў – да 25 метраў. Кажуць, век баабаба дасягае 500 гадоў. 3. Лес пачынаецца 5 вялічэзнымі дубамі. 4. Стаяць 4 рослыя сасны. 5. У канцы ліпеня 1941 года я трапіў у 307-мы канцлагер, які знаходзіўся за 30–50 кіламетраў ад Брэста. 6. Я знайшоў у архіве дакументы 12-га знішчальнага палка. 7. Цяпер на заводзе налічваецца каля 2300 рабочых. 8. У час апошняга палявання ў жніўні 1900 года ў Белавежскай пушчы на працягу 12 дзён было забіта 40 зуброў, 36 ласёў, 530 аленяў, 138 дзікоў, 325 казуль. 9. Каля Старобіна на глыбіні ад 349 да 723 метраў выяўлены вялікія саляныя залежы. 10. 2 ніжнія галіны значна патаўсцелі. 11. 1/3 поля засеяна ячменем. 12. Працягласць тэрыторыі Беларусі з поўдня на поўнач 560 кіламетраў, з захаду на ўсход 650. Плошча 207,6 тысяч квадратных кіламетраў. Насельніцтва 10,3 млн. чалавек (на 1996 год), гарадскога 7,1 млн. чалавек, сельскага 3,2 млн. чалавек. 13. У Беларусі 6 абласцей, 118 раёнаў, 102 гарады, 109 пасёлкаў гарадскога тыпу, 24 583 сельскія населеныя пункты. 14. Рэкі замярзаюць звычайна ў студзені, лёд трымаецца ад 80 да 140 сутак.

## ЗАЙМЕННІК

***Практыкаванне 1.*** *Прачытайце тэкст. Адзначце асаблівасці ўжывання займеннікаў 2-й асобы.*

Ішлі ўчатырох – бабуля з унучкамі і я – у адзін вагон. Бабуля везла ўнучак да себе, пад Мінск. Яны то пытаюцца ў бабулі, то нешта кажуць ей:

– Вы, бабуля, будзеце спаць у вагоне?

– Дайце, бабуля…

– Вазьміце, бабуля…

– У вас, бабуля…

– А мы будзем, бабуля, вашу хату месці?

– Ці глыбокая ваша, бабуля, рэчка?..

Гэтак – як і на Бабруйшчыне, на Жлобіншчыне, Случчыне, Любаншчыне, Глушчыне… да бабулі – толькі Вы. Толькі «вазьміце Вы», толькі «дайце Вы», «паспіце Вы», «Вы нас пусціце?». Як і ў Якуба Коласа, як і ў Антона Лявіцкага, як і ў Канстанцыі Буйло, у Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, як і – пазней чытаў, вычытаў, – у Максіма Танка, у Янкі Брыля, Івана Мележа… *(Ф. Янкоўскі)*



***Практыкаванне 2.*** *Запішыце сказы. Вызначце значэнні займеннікаў* ***сам*** *і* ***самы*** *ў сказах. Падкрэсліце канчаткі гэтых займеннікаў і растлумачце іх правапіс. Адзначце асаблівасці націску ў іх.*

1. І які харошы, шырокі, прывабны і поўны хвалявання быў свет ад тых кніжак – простых, напісаных моваю, самаю блізкаю сэрцу! *(Скр.)* 2. Людзі хочуць, каб званні і славу не давалі нікому дарма… Людзі маюць на гэта права, ім дала яго праўда сама. *(Бур.)* 3. Патрабавальны майстар жыў у сваім творы, спрачаўся сам з сабою, папраўляў і ўдакладняў сам сябе, не даруючы найменшае прамашкі і паспешнасці. *(Луж.)* 4. Было лета, самая зялёная пара. Зелянелі гароды, палі, балоты. *(І. М.)* 5. Ад самага красавіка надвор'е спрыяла людзям. Было багата цяпла, і ў час паілі зямлю спорныя дажджы. *(І. М.)* 6. Лабановічу стала шкада гэтага няскладнага, сарамлівага і, відаць, здольнага хлопца. У самым тоне яго просьбы гучаў боль чалавечай душы. *(К-с)* 7. Таратайка пракацілася па дарозе ўскрай балота, паўз самы лес і стала каля Міканоравага надзелу. *(І. М.)* 8. Сярожа ідзе без шапкі, у сінім камбінезоне – такі самы, якім яна бачыла яго праз акно. *(Б.)* 9. Маці ўспомніла Лявона, які ён быў у тыя ваенныя гады і які астаўся назаўсёды, бачыла сябе самую побач з ім – таксама маладую і здаровую. *(Кудр.)* 10. На Палессі, на самым поўдні Беларусі ёсць куточак зямлі, асабліва мілы, дарагі майму сэрцу. *(Сач.)* 11. Самае лепшае, што Сцяпан ведаў і любіў у жыцці, гэта было поле, якое спелым коласам хілілася, гайдалася, быццам лашчылася да чалавека. *(Ж.)*

***Практыкаванне 3.*** *Прачытайце сказы, пастаўце зваротны займеннік* ***сябе*** *ў адпаведным склоне.*

1. Што ні кажы, а жыццё, ужо само па … ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар. *(К-с)* 2. Марына працавала не адрываючыся, каб не перашкаджаць ні …, ні Собічу. *(Скр.)* 3. Лабановіч пачуў, што на душы ў яго неспакойна. То тое, то другое пачынала забіваць душу, адцягваць і раскідваць яго ўвагу, і ён як бы падзяляўся на асобныя часткі, якія не мелі цеснай сувязі між … *(К-с)* 4. Спачатку любіла Галя адна, баючыся сама … прызнацца ў тым. *(Б.)* 5. І раптам убачыш … на лужку. Лужок гэты невялікі, але роўны-роўны, як стол. *(Сач.)* 6. Адно вазьмі яго з …, усюды пойдзе за табою, і ўсё забудзе, усе даруе, на дзядзьку больш не засярдуе. *(К-с)* 7. Антось глядзеў і пацяшаўся, і ціха сам … смяяўся. *(К-с)* 8. Патрабавальны да …, І. Мележ і ў другіх цаніў перш за ўсё талент, працавітасць, сумленнасць, прынцыповасць. *(Панч.)*

***Практыкаванне 4.*** *Спішыце сказы, падкрэсліце няпэўныя займен-*

*нікі, вызначце іх склон. Растлумачце, ад якіх займеннікаў і з дапамогай якіх прыставак або постфіксаў яны ўтварыліся.*

1. Можа, свет і любім мы за тое, што ў стрыечнай блізкасці жывём. Штосьці свойскае і штось людское ў гэтых дрэў, камення і жывёл. *(А. П.)* 2. Мучыць і трывожыць сумленне, і баліць душа мая, бо спадзяваўся – нехта дапаможа, і не падумаў: «А чаму не я?» *(Грах.)* 3. Усё ж яшчэ штось засталося ўнукам з прадзедаў жыцця… *(Куп.)* 4. І раптам нешта цёплае нахлынула на сэрца, агарнула яго ціхаю радасцю з нейкім невыразным смуткам. *(Лыньк.)* 5. Уражаны, захоплены бачаным, я ні пра што не думаў, толькі глядзеў, баючыся чаго-небудзь не заўважыць… *(Сач.)* 6. І ўсе, што ён бачыў, было дзіўна сагрэта Ганнінай блізкасцю, яе стомленым дыханнем, нечым цёплым, незразумелым, што паявілася ў гэты вечар. *(І. М.)* 7. Цяпер трэба было як-небудзь павініцца перад людзьмі, паказаць, што яна [Ганна] не абы-хто, што яна шануе сваю славу, людзей і людскія звычаі. *(І. М.)* 8. На гэтай палянцы, за паўвярсты ад дарогі, раскінулася чыясь пасада. *(К-с)* 9. Сцепка доўга стаяў, любуючыся горадам, і нейкае новае адчуванне калыхала яго, прыцягвала да гэтага горада і ў той жа час палохала і непакоіла. *(К-с)* 10. Я так хацела б, каб і мне здагадліва агеньчык нечае душы спагадліва, выратавальна ў вочы зазірнуў. *(Н. М.)* 11. Не дзіва было, што і яшчэ адзін нечы сын назваў яе святым для ўсіх і ўсюды словам. *(Б.)*

***Практыкаванне 5.*** *Запішыце сказы. Вызначце, да якога разраду (адносны, пытальны, няпэўны) належаць займеннікі, адзначце іх склон. Абазначце каранёвыя элементы займеннікаў* ***хто, што*** *ў назоўным і ўскосным склонах.*

1. Я глядзеў на ўсіх тых, з кім рос, на вачах у каго прайшло мае маленства, і ледзь-ледзь пазнаваў, хто перада мною. *(Сач.)* 2. Сапраўдны друг прыходзіць і тады, калі ад грому трэскаецца неба, калі няма каму падаць вады ці падзяліцца чэрствай лустай хлеба. *(Грах.)* 3. Ганна папрасіла Васіля ласкава: «Я хутка паснедаць чаго зраблю. Прыходзь. Добра?» *(І. М.)* 4. Праз колькі дзён Зося трымала Славу на руках пры выездзе з горада: яна чакала грузавой машыны з будаўніцтва. *(К. Ч.)* 5. І дзень, і два верамейкаўцы ўсёй вёскай стаялі на скрыжаванні дарог, пільнавалі чырвоных коннікаў – можа, раптам хто і свой трапіцца. *(Чыгр.)* 6. Хто сказаў – вада без паху, хто сказаў – вада без смаку? Той, відаць, не смаг у спёку і ад смагі ў суш не млеў. *(Я. С.)* 7. Толькі таму, хто любіць свой народ, народ раскрывае свае векавыя таямніцы. *(В.)* 8. Што гэта звініць, Хатынь? Што значаць яны, твае званы? *(Вярц.)* 9. Хіба што зраўняецца з сэрцам людскім і ў гневе, у ласцы, у шчырасці? *(Гіл.)* 10. Словы поўныя той высокай пяшчотнасці, на якую здольныя толькі сапраўдная сіла і мужнасць. *(В.)* 11. Праз якую хвіліну і каня, і конніка паглынула цемра. *(Каратк.)* 12. Быў абмен кнігамі, ціхі роздум над імі ў хатняй адзіноце, была перапіска, а потым зноў сустрэчы – тое, без чаго было б сумна і цяжка жыць. *(В.)* 13. А цяпер у яго такое пачуццё, нібы не хапае каго ля цябе, з кім можна, як з самым найбліжэйшым, самым дарам таварышам, падзяліцца і горам, і радасцю… *(Лыньк.)* 14. У дарогах знаёмяцца лёгка, найбольш за ўсё тыя, хто любіць зазірнуць у незнаёмы свет чужой душы. *(Скр.)*

### Скланенне і правапіс некаторых займеннікаў

***Практыкаванне 6.*** *Запішыце словазлучэнні, паставіўшы займеннікі, запісаныя ў дужках, у патрэбным ліку і склоне.*

Зразумеў (ты), напісаў (ты), ля (свой) двара, сам ад (сам) не ўцячэш, несці на (сам), побач са (свая) хатай, узяць (свой) кнігі, павіншаваць (ты), не сустрэць (ніхто), удзячны (ты), убачыць (твой) сябра, зразумець (яны) словы, успомніў (ты), адказаў (ты), недалёка ад (мая) вёскі, рад сустрэцца з (яна), пагаварыць з (хто-небудзь), убачыў (усе) нас.

## ДЗЕЯСЛОЎ

### Правапіс асабовых канчаткаў дзеясловаў

***Практыкаванне 1.*** *Вызначце спражэнне наступных дзеясловаў. Праспрагайце пяць першых.*

Чытаць, прасіць, мыць, бегчы, залежаць, віць, гаварыць, ляжаць, абганяць, вазіць, адносіць, прыцягнуць, любіць, ненавідзець, есці, напісаць, пячы, адпаўзці, біць, спаць, слаць, друкаваць, прайсці, адпрасіцца, выскачыць, ліквідаваць, арганізаваць, слацца, даглядаць, рабіць, апынуцца, купіць, паіць, бяліць, супакоіць, выганяць, вучыць, даіць, садзіць, спяваць, калоць, дзьмуць, палоць, рваць.

***Практыкаванне 2.*** *Спішыце сказы, дзеясловы, запісаныя ў дужках, стаўце ў патрэбнай форме. Растлумачце напісанне асабовых канчаткаў дзеясловаў.*

1. Што ж вы надумалі? Цэлаю вайною на нас хочаце (ісці)… Мы ж па закону, сілаю не (браць). 2. Дзядзечкі, можа, вы мяне (падвезці)? 3. Мы (ісці) па лесе. 4. Гэта здарэнне мы (абмяркоўваць) заўтра. 5. «Ты (спяваць)?» – ціха (пытацца) Ася. 6. (Устаць) ты ранень-ка, (паснедаць) і (пабегчы) на рэчку. 7. Вы (хацець) схадзіць у лес? 8. Вось так мы і (жыць). 9. Мы не (хацець) кранаць вашага смутку, хоць мы і (перажываць) гора разам з вамі. 10. Ды гэта ж нашы добрыя знаёмыя! Вы (пазнаць)? 11. Не на сваім месцы слова ў сказе – і ад усяго сказа (патыхаць) фальшам. 12. Ад Коласа, а ў роўнай меры і ад Купалы (пачынацца) мова, якая амаль цалкам увайшла ў склад сённяшняй, той, што (карыстацца) мы. 13. Нічога мы цяпер не (знайсці). 14. Дзе ж вы цяпер (жыць)? 15. Калі нельга будзе працаваць, калі вы (адабраць) гэтую машыну, дык пайду на пенсію… 16. Ты (ісці) восенню садам, (убачыць) забыты яблык, (адкусіць) ад яго, халоднага, укрытага сцюдзёнай расою, – нібы дзесяць год (скінуць) з плячэй.

***Практыкаванне 3.*** *Ад неазначальнай формы дзеясловаў утварыце формы 2-й асобы множнага ліку простага будучага часу абвеснага і загаднага ладу. Запішыце словазлучэнні. Вылзеліце канчаткі ўтвораных дзеясловаў, растлумачце іх правапіс.*

Узор: Напісаць пісьмо – напішаце пісьмо, напішыце пісьмо.

Памыць падлогу, адказаць на пытанне, намаляваць ілюстрацыі, перагарнуць старонку, паглядзець спектакль, прынесці рэчы, пайсці па сцежцы, забраць кнігі, пачаць канцэрт, зберагчы спадчыну, пакласці на месца, знайсці памылку, сказаць праўду.

### Правапіс некаторых суфіксаў дзеясловаў

***Практыкаванне 4.*** *Прачытайце словазлучэнні, растлумачце правапіс суфіксаў дзеясловаў.*

Пачынаць адрозніваць, звязаць аднародныя члены, стрымліваць ад непатрэбнай рызыкі, спазнаваць радасць, кантраляваць усю акругу, праігрывалі з ганебным лікам, пачалі вырошчваць лён, супакойваць маці, выпроствацца ўгару, радавацца дажджу, загадваць жаданне, абнадзейваць дзяцей, танцаваць у пары, перачытваць шмат разоў, хваліцца ўсім, запальваць агонь, папярэджваць людзей, галасаваць за кандыдата, кляваць носам, замаруджваць ход, урачыста святкаваць, крытыкаваць без разбору, затойвацца ў хмызняку, паліваць кветкі, заваяваць перамогу, разыгрываць у латарэю, друкаваць кнігі, паспяваць усюды.



***Практыкаванне 5.*** *Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову. Запішыце іх, растлумачце правапіс суфіксаў дзеясловаў.*

Выписывать газеты, задаривать приятелей, признать себя виновным, оклеивать обоями, выплывать наверх, развивать память, засевать рожью, стягивать одеяло, показывать пример, записывать в тетрадь, доказывать правоту, что-то комбинировать, засаливать огурцы, овладевать знаниями, подкармливать растение, отговаривать товарища, надаивать много молока, надламывать веточку, накалывать ягоды, нанизывать рыбу, обессилеть совсем, отмахиваться от комаров, подписывать протокол, выслушивать советы, показывать альбом, разглядывать вблизи, удваивать счет, вспыхивать огнем, предупреждать об опасности, обмениваться марками, пересказывать текст, поддерживать в беде, возглавлять отряд, задерживать преступников.

***Практыкаванне 6.*** *Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. На месцы пытальнікаў напішыце, дзе трэба, мяккі знак. Растлумачце правапіс суфіксаў і канчаткаў дзеясловаў.*

1. У цемры ўспыхва... раптам мелодыя самай прыгожай і самай любімай пес?ні. 2. Шапоч... ліс?це, бул?коч... вада пад вярбою. 3. І печанай рэдзькі з'ясі, калі выгалада...шся. 4. Дз?ме вецер і халодз...ць зямлю. 5. Заедз?це вы да нас, калі ласка. 6. Як жа вы ўсё гэта данес...ц...? 7. Не, далей па Прыпяці мы не паплыв...м. 8. Ціха сцел...цца ліст у гаі. 9. Дрэмл...ць сінія прасторы. 10. Не будз?ц... такая строгая, Мар'я Васіл?еўна. 11. Прыгледз?ц...ся больш уважліва, і вы ўбач...це ўсё самі. 12. Што вы, даражэн?кія, скаж...це на гэта? 13. Вось зірніц... ў акно, палюбуйц...ся, якая прыгажос?ць. 14. Вы не тапчыц... траву, беражыц..., хадзіц... сцежкаю. 15. Не наеўшыся, не наліж...шся, а даганяючы, не нацалу...шся.

## ДЗЕЕПРЫМЕТНІК

***Практыкаванне 1.*** *Раскажыце пра ўжыванне поўных і кароткіх дзеепрыметнікаў у беларускай літаратурнай мове. Спішыце сказы, поўныя дзеепрыметнікі падкрэсліце адной лініяй, кароткія – дзвюма, вызначце сінтаксічную ролю ў сказе поўных і кароткіх дзеепрыметнікаў.*

1. А пры сцяжыне – сімвалам вечнага абнаўлення – стаяла юнае, нікім не кранутае дрэўца. *(Б.)* 2. Журботна-ласкавая ўсмешка восені разліта на знямелых, як бы заснуўшых далях. *(К-с)* 3. Абрысы хат, з заснежанымі стрэхамі зводдалі ў цемры нельга было

разабраць, і агеньчыкі нагадвалі буйныя зоркі, што ўпалі з неба на снегавое раздолле. *(Хадк.)* 4. Хвалююць, радуюць сустрэчы з новымі талентамі, новымі праўдзівымі, глыбокімі, сэрцам напісанымі кнігамі. *(Б.)* 5. Растросшы на ветры тонкае голле, жалобна шумеў ён зрудзелым лісцем бярозы. *(В. Б.)* 6. А ўначы, калі выпадала хвіліна заснуць, яму [Дземідзёнку] снілася ўнучка і прыцярушаная снегам сцежка да партызанскіх зямлянак. *(Чыгр.)* 7. Зарослая травою алея, паабапал якой стаяў змрочны, як лес, парк, давяла мяне да агароджы. *(Каратк)* 8. Ілюстрацыйныя прыклады, запісаныя руплівым даследчыкам у розных кутках рэспублікі і часткова запазычаныя ім у папярэднікаў, разгортвалі перада мной жывую, паэтычную карту роднай мовы, хвалявалі душу яе фарбамі, крынічным звонам яе несмяротнасці. *(Б.)* 9. Кожны мае дружбака такога, захавана ў сэрцы да якога прыязні даўнейшай цеплыня. *(А. К.)*

***Практыкаванне 2.*** *Спішыце сказы, падкрэсліце дзеепрыметнікі. Назавіце асновы, ад якіх утварыліся дзеепрыметнікі, растлумачце ўжыванне формаўтваральных суфіксаў.*

1. Даўно, даўно, вясной зялёнай, зачараваны цішынёй, хацеў я быць ля хаты клёнам. *(Кір.)* 2. Літасцівы мой лесе, падары мне вясну і даспелую восень. *(Грах.)* 3. Крыху спозненая, але дружная вясна набірала ўсё болей і болей жыватворных сіл. *(К-с)* 4. З поля дыхнула на пахаладнелы і зацэнены луг цёплым паветрам *(Чыгр.)* 5. Лес, амаль не крануты рукою чалавека, з двух бакоў падступае да самага насыпу. *(Шам.)* 6. Белыя валокны сонейкам заліты, вольны ім дарогі, сцежкі ім раскрыты. *(К-с)* 7. Дрэмле абсаджана лесам адвечным, цінай засланае возера ў лесе. *(Куп.)* 8. Нейкі смутак лажыўся на гэтыя пацямнелыя далі. *(К-с)* 9. Непатрывожаная жнівеньская ноч усё кружыла над саламянымі стрэхамі стоенай вёскі, як зацяты птах. *(Чыгр.)* 10. А лес, як добры той знаёмы, стаіць збялелы, нерухомы. *(К-с)* 11. На доўгіх століках, уроссып, як карапузы-хлапчукі, нядаўна вымытыя ў росах, на сонцы спяць баравікі. *(Гіл.)* 12. Замятае і двор, і балкон парудзелае мокрае лісце. *(Грах.)*

***Практыкаванне 3.*** *Спішыце сказы, утварыце ад дзеясловаў, што ў дужках, дзеепрыметнікі, уласцівыя беларускай мове. Падкрэсліце дзеепрыметныя словазлучэнні, растлумачце знакі прыпынку пры іх.*

1. Эх, шляхі, родныя шляхі! Хто перакажа нам вашы казкі, разгадае думкі, (назбіраць) і (напісаць) часамі на камлях вашых прысад? *(К-с)* 2. Ціхім сумам ахіналіся думкі, калі перачытваў (паліняць), (выцвісці) радкі. *(Лыньк.)* 3. Першы выезд у лес на санях. Хораша



ўсё гэта выглядае, калі на шэрую зямлю, на лёд ракі і выбоі (разбіць) за восень дарогі пасцелецца вялізнае палотнішча іскрыстай снежнай белі! *(Б.)* 4. Люблю цесны дворык брыгадзіра са студняю пасярэдзіне двара, (пасівець) агароджу з дубовымі слупамі, (парасці) белым мохам. *(К-с)* 5. Дольцы! Дольцы! Хай цяжка, хай горка жылося, кут мой родны, (забыць) калісьці на свеце, прыгадаць не магу, каб не білася сэрца. *(Бр.)* 6. На тым беразе загарэлася іскра, мусіць, неасцярожны вартавы запаліў папяросу, (закалыхаць) цішынёю ночы… *(Лыньк.)* 7. (Настынь), струнка (выцягнуць) сосны нібыта ўслухоўваюцца ў высокае неба: (насцярожыць) нечаканаю сонечнаю ласкаю, баяцца падману. *(А. Ж.)* 8. Адчуванне дакладнасці слова, уменне карыстацца ім, культура мовы і пісьменнасць – усё гэта залежыць ад таго, як загучала слова, (пачуць) у маленстве. *(Віт.)* 9. Шамацяць (пабялець) макаўкамі мак; тужэюць, аж рыпяць, ядраныя качаны капусты; згінаецца, апускае (стаміцца), (пацяжэць) галаву сланечнік. *(Сач.)*

***Практыкаванне 4.*** *Спішыце сказы, дапішыце прапушчаныя суфіксы, растлумачце правапіс галосных у суфіксах дзеепрыметнікаў.*

1. Напэўна, нашым песням лес падараваў вітальную, сваю няўрымслівую сілу, насто...ую на цяністым шуме траў, на водары малін, крушын і жывасілу. *(М. Т.)* 2. Пахла зямля, багата акропл...ая расою. *(К-с)* 3. Дзяўчына з вачамі гарачага поўдня праменнымі пальцамі песціць старанна смычок свой разгнева...ы, усхвалява...ы, галубіць яго, як раўнівага маўра, а ён усе стогне пад рогат літаўраў. *(М. Т.)* 4. Каля вежы старое павольна ідзём, ні трывога, ні клопат настрою не засцяць. Вось малая рачулка, а зараз і дом, дзе нам дзверы адчын...ы насцеж. *(Луж.)* 5. Падпалкоўнік, пазіраючы ў цемру, за якой хаваўся нябачны правы бераг, хвіліну з прагнасцю ўбіраў насыча...ы вільгаццю дняпроўскі вецер. *(І. М.)* 6. Узнімаю я коўш вінаграду, напоўн...ы цераз край. *(Бр.)* 7. Лясы, лясы, і пералескі, ды непралазныя кусты: лістом завея...ыя сцежкі, і сініх зораў дождж густы. *(М. Т.).* 8. Кожны з нас прыпасае Радзімы куток, каб да старасці чэрпаць адтуль успаміны – дым над хатай, снапамі прыцісну...ы ток, матчын спеў і гароды, прапах..ыя кмінам. *(Панч)* 9. Над ціхай стомл...най вёскай – шчодра зорнае неба і самотны, сарамлівы маладзік. *(В.)* 10. Мяцеліца сцелецца, кружыць, звонам сцюдзёным налі...ы прастор. *(Ал.)* 11. У цвеце нівы, цвітуць асмуг...ыя сады. *(Тр.)*

***Практыкаванне 5.*** *Раскажыце пра ўжыванне дзеепрыметнікаў у беларускай літаратурнай мове. Утварыце ад дзеясловаў уласцівыя беларускай мове дзеепрыметнікі, запішыце, падкрэсліце суфіксы, растлумачце іх правапіс. Вызначце, ад якіх асноў утварыліся дзеепрыметнікі.*

Прыцiхнуць, рассыпаць, развеяць, акрыліць, засеяць, парыжэць, пасівець, зарасці, выцвісці, усвядоміць, застыць, нацямнець, вывучыць, упрыгожыць, расклеіць, падзяліць, накарміць, аднавіць, расплавіць, скасіць, падвоіць, замкнуць, прапалоць, пасінець, раскалоць, разбіць, вымыць, злавіць, пачырванець, паражыць, счарсцвець, адчыніць, адрадзіць, спарахнець, змалоць, абгарнуць, заткнуць, падцягнуць, звіць, стрымаць.

***Практыкаванне 6.*** *Выпішыце дзеепрыметныя словазлучэнні. Зрабіце разбор дзеепрыметнікаў у наступным парадку: а) пачатковая форма (назоўны склон адзіночнага ліку мужчынскага роду); б) трыванне (незакончанае, закончанае); в) стан (незалежны, залежны); г) час (цяперашні, прошлы); д) род (для дзеепрыметнікаў адзіночнага ліку); е) лік; ж) склон (для поўных дзеепрыметнікаў).*

1. Сасонкі танкаствольныя абуджаны ў бары. *(Ал.).* 2. Спадчына – адзіны запавет, спадчына – усіх асноў аснова, і нясе цераз вякі паэт матчына няскоранае слова. *(Грах.)* 3. Асабліва прыгожай бывае палеская пушча ў ціхія марозныя дні, калі па-святочнаму ўбраны ў белае лес стаіць застылы ў нерухомасці і на кожным дрэве, на кожнай галінцы дыяментамі іскрацца, пераліваюцца асветленыя сонцам блёсткі снегу. *(Краўч.)* 4. Асірацелыя старыя дубы ў чорных шапках буслiных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістам, і купалі ў сонцы свае адвечныя лапы. На скошаным лузе, недалёка ад дубоў, пасвіліся статкі. *(К-с)* 5. Як зярняты з угрэтай раллі, слязамі і кроўю палітыя, ізноў прарасталі, буялі, цвілі бяссмертныя родныя літары. *(Л.)* 6. Заснуў пасёлак анямелы, даўно патушаны агні. *(К-с).* 7. Вось і май прыйшоў неўпрыкметкі, зноў мароссыпаны ля берагоў адуванчыкі – рыжыя кветкі, залатыя вяснушкі лугоў. *(Панч.)* 8. Антон сядзеў, прыхіліўшыся спіною да бярэзіны, глядзеў на дрыготкія языкі і быццам не спяваў, а некаму гаварыў пра шырокае, зялёнае поле, залітае сонцам, поўнае радаснага вясновага шуму. *(А. С.)* 9. Сярод папераў пастарэўшых, сярод запыленых лістоў радкі даўно забытых вершаў неспадзявана я знайшоў. *(М. Т.)*



***Практыкаванне 7.*** *Раскажыце пра пераход дзеепрыметнікаў у прыметнікі і назоўнікі. Спішыце сказы, падкрэсліце дзеепрыметнікі, што перайшлі ў прыметнікі ці назоўнікі.*

1. Мурог! Ды што за травіца! І шоўк у ёй мяккі і лён, і вечная наша крыніца з гаючай жывіцай-вадзіцай ад бацькаўскіх, дзедаўскіх дзён! *(К-с)* 2. Цуд не бывае нечаканы, не спраўдзіцца яму раптоўна: жаданы пасля ночы ранак, з карэньчыка ідуць бутоны. *(І. М.)* 3. Ах, чаму я, калі нарадзіўся, чараўніцтву ў бабулі не ўчыўся! Не падгледзеў, якою вадою акрапляла яна ўсё ліхое; скуль прыносіла траваў дрымучых, каб вярнуць сон спакойны, гаючы! *(М. Т.)* 4. Незнаемых залётных гусей прытуліла ракіта густая. *(Ал.)* 5. Вось і цёмны той бор з векавечнымі соснамі, з модным пахам шалы і лясной цішынёй, дзе з каханым хадзіла шчаслівымі вёснамі. *(Бач.)* 6. Спяшайся, вясна, і маўчанне зімы вятрамі, дажджамі грымучымі змый. *(М. Т.)* 7. Восень зроду такой не была: залатая, пахучая, цёплая. *(Гіл.)* 8. З цяністых груш і яблынь маладых сарваў лісты гаручыя віхор. *(М. Т.)* 9. Поле без берага, шыр, невысокі зялёны курган пад плакучых бярозак завесай. *(К. Б.)* 11. З роўных, як панацягватыя струны, берагоў глядзяцца ў чыстае вадзяное люстэрка ракі рослыя стройныя алешыны. *(Р. М.)* 12. Радзіма, Радзіма! Зямля маіх продкаў, пявучая песня-душа! Сціскалася сэрца ад болю салодкага, ад горнай любові, пазнанай спярша. *(Зв.)* 13. Ліпеньскае сонца падымаецца ў поўдзень. Пякучае, расплаўленае – разлівае ліпкую стому і смагу. *(Скр.)* 14. Навечна будзь благаслаўлёны, запрацаваны ў поце хлеб, не квашаны і не салены, для важных спечаны патрэб. *(Гіл.)*

***Практыкаванне 8.*** *Спішыце сказы. Падкрэсліце дзеепрыметнікі з аслабленым значэннем дзеяння і ўзмоцненым значэннем прыметы. Ахарактарызуйце стылістычнае ўжыванне гэтых дзеепрыметнікаў у сказах.*

1. Жыццесцвярджальным, радасным смехам іскрыліся радкі Пімена Панчанкі, які па-салдацку ахвотна і шчодра дзяліўся з чытачом сваім тады ўжо шырока-далёка праслаўленым словам. 2. Маладзенькі наборшчык нашай друкарні – цяпер салідны дырэктар вясковай дзесяцігодкі, а тады цыбаты, смяшлівы падлетак – крадком узлазіў ноччу на хрыбет зямлянкі і доўга стаяў там – ці то заслуханы ў даўно і горка чаканы гул, ці то выглядаючы, калі ж яны, таварышы, прыйдуць: цяпер ці пад раніцу? 3. Шчымлівае адчуванне блізкасці, сваяцтва з бедным украінскім хлопчыкам, які нікога не ўмее, не можа, не хоча пакрыўдзіць, які ідзе ў наш вялізны,

загадкавы свет, заслухаўшыся ў яго расспяваную, зіхатліва шматфарбную ашаламляльную красу. Вобраз як быццам і не новы, напамінае нечым і Сянкевіча. і Караленку, і Коласа, і іншых, аднак вобраз жыццёвы, блізкі. 4. За апошнія два з палавінай гады з'явіліся ў выдатных і добрых перакладах паэмы і вершы ўспомненага ўжо Лангфела, Лермантава, Сыракомлі, Зульфіі… 5. З густой імглы, празрыста падрумяненай усходам сонца, на мяне пазірала казуля. 6. Руіны Мінска ўспамінаюцца яшчэ ўсё настылымі ад пажараў ды выбухаў. 7. Апроч падарожжаў успомненых па Югаславіі і Украіне, былі ў нас Карэлія з Кіжамі, Салаўкі, Енісей і Таймыр, Магнітагорск з невялікімі ўзмежкамі горнай Башкірыі. 8. Чаму – падумалася цяпер – за сімвал міру ўзяты голуб, а не дзіця? Замурзанае, рассмяянае дзіця!..*(Янка Брыль)*

***Практыкаванне 9.*** *Прачытайце сказы на рускай і беларускай мовах. Прааналізуйце пераклад рускіх дзеепрыметнікаў на беларускую мову і назавіце беларускія адпаведнікі рускім дзеепрыметнікам.*

[Лермонтов] был счастлив своими мыслями, их силой, широтой, своими замыслами, всепроникающим присутствием поэзии. *(К. Паустовский)*

Ён [Лермантаў] быў шчаслівы сваімі думкамі, іх сілай, шырынёй, сваімі задумамі, усёпранікальнай прысутнасцю паэзіі. *(Пераклад А. Марціновіча)*

Щербатова рассказывала о своем детстве, о Днепре, о том, как у них в усадьбе оживали весной высохшие, старые ивы и выпускали из коры мягкие острые листочки. *(К. Паустовский)*

Шчарбатава расказвала пра сваё дзяцінства, пра Днепр, пра тое, як у іх маёнтку ажывалі ўвесну высахлыя, старыя вербы і выпускалі з кары мяккія вострыя лісточкі. *(Пераклад А. Марціновіча)*

Над деревней стояла прозрачная тишь, крошечная мошкара, роившаяся в воздухе, рождала слышимый гул. *(Ю. Нагибин)*

Над вёскай стаяла празрыстая цішыня, драбнюткая машкара роем таўклася ў паветры і ледзь чутна звінела. *(Пераклад Ф. Янкоўскага)*

Дымные тени от недавно распустившихся берез шевелились под ногами. *(К. Паустовский)*

Дымныя цені ад бяроз, якія нядаўна распусціліся, варушыліся пад нагамі. *(Пераклад А. Марціновіча)*

Гроза волокла над землей грохочущий дым и ликовала, захлестывая поля потоком серой воды. *(К. Паустовский)*



Навальніца з грукатам цягнула над зямлёй дым і смяялася, захлістваючы палі ручаямі шэрай вады. *(Пераклад А. Марціновіча)*

…Издали уже веяло прохладою, которая казалась ощутительней после томительного, разрушающего жара. *(Н. Гоголь)*

…Ужо здалёк павявала прахалодаю, якая здавалася адчувальней пасля зняможлівай, разбуральнай спёкі. *(Пераклад М. Лужаніна)*

Николай бегло оглядел знакомые, осунувшиеся и почерневшие лица. *(М. Шолохов)*

Мікалай бегла агледзеў знаёмыя, знябытыя і пачарнелыя твары. *(Пераклад М. Лужаніна)*

Разбежавшийся пароход с мягким стуком ударился в тускло освещенную пристань… *(И. Бунин)*

З разгону параход з мяккім стукам ударыўся ў цьмяна асветленую прыстань… *(Пераклад Я. Скрыгана)*

Вспыхивают спички, сверкают красные огоньки папирос, освещая задумавшихся людей, прищуренные или широко открытые глаза. *(М. Горький)*

Успыхваюць запалкі, пабліскваюць чырвоныя агеньчыкі папярос, асвятляючы задуманых людзей, прыжмураныя ці шырока адплюшчаныя вочы. *(Пераклад Я. Брыля)*

Но вскоре южный ветер прошелся низом, влажным прахом рассыпался отживший свое кленовый лист, дрогнув, скатилась на землю капля, и тотчас, вся затрепетав, выпрямилась, поднялась травинка – одинокая, жалкая, неприметная на огромной земле, но упорно и жадно тянущаяся к вечному источнику жизни, к солнцу. *(М. Шолохов)*

Але неўзабаве паўднёвы вецер прайшоўся нізам, вільготнай парахнёй рассыпаўся, аджыўшы свае, кляновы ліст, здрыгануўшыся, скацілася на зямлю кропля, і адразу ж, уся затрапятаўшы, выпрасталася, паднялася травінка, яна была адзінокая, мізэрная, непрыкметная на вялізнай зямлі, але ўпарта і прагна цягнулася да вечнай крыніцы жыцця, да сонца. *(Пераклад М. Лужаніна)*

***Практыкаванне 10.*** *Перакладзіце тэксы на беларускую мову. Звярніце ўвагу на ўжыванне дзеепрыметнікаў у рускай і беларускай мовах.*

1. Многие русские слова сами по себе излучают поэзию, подобно тому, как драгоценные камни излучают таинственный блеск.

…Трудно примириться с мыслью, что внутри камня, откуда льются сияющие лучи, нет собственного источника света. Это отно-

сится ко многим камням, даже к такому скромному, как аквамарин. Цвет его нельзя точно определить. Для него еще не нашли подходящего слова. Аквамарин считается по своему имени камнем, передающим цвет морской волны. Кажется, если вглядеться в аквамарин, то увидишь тихое светящееся море с водой цвета звезд.

Очевидно, эти цветовые и световые особенности аквамарина и других драгоценных камней и вызывают у нас чувство таинственности. Их красота все же кажется нам необъяснимой.

Сравнительно легко объяснить «поэтические излучения» многих наших слов. Очевидно, слово кажется нам поэтическим в том числе, когда оно передает понятие, наполненное для нас поэтическим содержанием. *(К. Паустовский)*

2. И вся эта ночь слилась в какую-то волшебную чарующую сказку. Взошел месяц, и его сияние причудливо, пестро и таинственно расцветило лес, легло среди мрака неровными, иссиня-бледными пятнами на корявые стволы, на изогнутые сучья, на мягкий, как плюшевый ковер, мох. Тонкие стволы берез белели резко и отчетливо, а на их редкую листву, казалось, были наброшены серебристые, прозрачные, газовые покровы. Местами свет вовсе не проникал под густой навес сосновых ветвей. Там стоял полный, непроницаемый мрак, и только в самой середине его скользнувший неведомо откуда луч вдруг ярко озарял длинный ряд деревьев и бросал на землю узкую правильную дорожку – такую светлую, нарядную и прелестную, точно аллея, убранная эльфами для торжественного шествия Оберона и Титании. И мы брели, обнявшись, среди этой улыбающейся живой легенды, без единого слова, подавленные своим счастьем и жутким безмолвием леса. *(А. Куприн)*

3. В легком веселом свете погожего утра близко тянулась высокая стена темно-зеленых могучих елей… В вагоне опять потемнело от огромных елей, обремененных косматыми ветвями, тяжко повисшими над откосом полотна. Порой лес отступал – и тогда открывалось либо небольшое поле, уставленное обломками скал, и низкая бревенчатая избушка, либо ровная пышная лужайка с пятью-шестью равнодушно жующими коровами, раскрашенный домик на фундаменте из камней, слепленных белыми швами цемента… Совсем рядом с окном потянулись серо-голубые скалы в трещинах, откуда рвался к небу жадный до жизни кустик, растущий куда-то вбок.

Вдруг лес сменился гладью залива. Сияющая утренним серебряным блеском, она распахнулась и вдаль, и вширь. *(Л. Соболев)*



## Утварэнне і правапіс дзеепрыметнікаў

***Практыкаванне 11.*** *Спішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс дзеепрыметнікаў, адкрэсліце дзеепрыметныя звароты.*

1. Засе...ныя шчыраю рукою палі вакол вёскі роўна зазелянелі маладымі ўсходамі. 2. Жоўтая, акуратна пасыпа...ая пяском дарожка вяла да невялікага дома, што стаяў у глыбіні саду за квітне...ымі дрэвамі. 3. Дрыжкай рукой націскае Андрэй на рэгулятар. 4. У лагчыне, парос...ай дробным беразняком, віднеліся шыферныя дахі вясковых хат. 5. Мост нядаўна ўзведзены новы – бетонны, гулкі, з забрукава...ымі з'ездамі. 6. Паветра было насычана ап'яня...ым водарам жытнёвага поля. 7. Замест звез...ых стагоў сена чарнелі не зацяруш...ыя снегам мясціны. 8. Ранняе расістае сонца асвяціла раўніннае, ніколі намі не бач...ае поле, акаймава...ае пустым цёмным колам лесу. 9. Мінск жа разбур...ны зусім. У цэнтры – суцэльныя руіны, высмал...ыя каробкі. Горад як з зямлі раскапа...ы. 10. З елкі, старой, высокай, з выгну...ымі аж да зямлі лапкамі, парос...ымі сівым мохам, скацілася цераз галаву маленькая (схаваеш у жмені) рудая вавёрка, крутанулася цераз сябе ў ссеч...ым багульніку, рвучы з зямлі нагамі дробненькі мох, і чмякнулася ў густую зялёную траву, як адкіну...ая прэч з гэтага свету.

## Ужыванне дзеепрыметнікаў

***Практыкаванне 12.*** *Знайдзіце памылкі ва ўжыванні дзеепрыметнікаў, растлумачце іх сутнасць і выпраўце.*

1. Антось ніколі не бачыў чыста апранутых і сыта наетых сялян. 2. Вы можаце атрымаць спіс рэкамендуючай літаратуры. 3. Міхалка хацеў сказаць ёй што-небудзь вострае і зневажаемае. 4. У старой хаце на вокны былі папрыбіваты крыж-накрыж дошкі. 5. Нязцвёрдым, істаючым крокам Марыся пасунулася ў бакоўку. 6. Вучань, устаўшы з-за парты, чакаў настаўніцкага прысуду. 7. Манастыр мае выгляд непадкупнага вартаўніка аджытых рэлійных традыцый старасветчыны. 8. Ногі ў яго папрабіваты ржышчам, раны залеплены зямлёю, і ён з плачам пабяжыць, кульгаючы, па полі. 9. Хрысця, цяжка ўздыхнуўшы ад нахлынутай злосці, пачынае распранацца. 10. Прыгожа і чыста апрануўшыеся лётчыкі не глядзяць на мяне і абыякава праходзяць ля маіх, высыпаных на газету пару якіх шклянак малін ці аж сініх чарніц. 11. Хлопчык, збянтэжыўшыйся

ад нечаканасці, не ведаў, што рабіць і што казаць. 12. Вёска была яшчэ больш заснежатая і заінетая, з блакітнымі пацёкамі лёду ля студняў. 13. Адлегласць між слядамі гаварыла пра тое, што чалавек, пакінуўшы гэтыя сляды на снезе, хутка бег. 14. У паветры адчувалася ўзбадзёрваючая прахалода. 15. Грукат перакатваемага бярвення даходзіць здалёк і зблізку.

***Практыкаванне 13.*** *Спішыце, утварыўшы дзеепрыметнікі ад дзеясловаў, што запісаны ў дужках.*

(Дагледзець) сад, (загаіць) рана, (зберагчы) скарб, (вызваліць) зямля, (схіліць) галіны, (сказаць) словы, (збудаваць) дом, (запрэгчы) конь, (асвятліць) горад, (пачарнець) пні, (пажаўцець) лісце, (зжаць) жыта, (збялець) твар, (пашыць) адзенне, (пасівець) валасы, (выцерці) падлога, (стаміцца) чалавек, (сагнуць) цвік, (раскрыць) вокны, (заслаць) ложак, (зарасці) сцежка, (паваліць) дрэва, (абудзіць) прасторы, (звезці) сена.

***Практыкаванне 14.*** *Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову. Пракаменціруйце ўжыванне і раскажыце пра асаблівасці іх перакладу з рускай мовы на беларускую.*

Невидимый луч, трепещущие крылья, угрожающее положение, протопленная печь, плачущий голос, шумящий лес, осознанная ошибка, поклеванная шишка, выжатый лимон, странствующий музыкант, невыносимая боль, трудящийся человек, почитаемый коллега, выдающийся писатель, соответствующие выводы, разлезшийся мешок.

## ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

***Практыкаванне 1.*** *Назавіце прыметы дзеяслова і прыслоўя, уласцівыя дзеепрыслоўям. Растлумачце, чаму ў некаторых лінгвістычных працах дзеепрыслоўе разглядаецца не як форма дзеяслова, а як асобная часціна мовы. Спішыце сказы, падкрэсліце дзеепрыслоўі, вызначце іх ролю ў тэксце.*

Мікалай і Алімпіяда рассунулі верхняе жэрдзе ў плоце і, пералезшы праз яго, ішлі мяжой адно за адным. Ззаду над лугам, дзе яны сёння пасля палудня ўсёй вёскай зграбалі і стаўлялі ў копы сена, вісела чорная, з чырвонымі градавымі падпалінамі хмара, сплываючы да моста на той канец вёскі.

Парыла з раніцы. Зграбалі сена ўсім калгасам, абліваючыся потам, падганяючы адзін аднаго і азіраючыся на Кур'янаўскія сады, дзе млела ад гарачыні неба. Пасля адтуль раптам пайшла хмара,



павісла над грэбляй, схаваўшы сонца. На лугу зрабілася цёмна, як позна вечарам, і добра былі відаць белыя гусі – лёталі з прарэзлівым крыкам ля моста, чуючы буру. Воркатаў гром недзе над Ячным, і ў тым баку чыркалі кароценькія дробныя маланкі. Хмара зачапіла вёску толькі краем, пасыпаўся густы дождж, цёплы, ціхі, без ветру. Ад яго адразу абмякла не складзенае ў копы сена і заблішчэла расой. *(І. Пташнікаў)*

***Практыкаванне 2.*** *Замест дзеясловаў, што ў дужках, запішыце адпаведныя дзеепрыслоўі, вызначце іх трыванне, падкрэсліце суфіксы.*

1. Падрыхтавалі пазіцыю, размеркавалі на ёй байцоў, (заняць) два бакі дарогі і (пераняць) яе трохі далей, у лесе. *(К-с)* 2. (Дачакацца) раніцы, я пайшоў адведаць сяброў. *(Луж.)* 3. Дзедава вёска, Падвалока, стаіць на паўднёвым схіле нешырокай паўвыспы, якая, (урэзвацца) у возера доўгай касой, падзяляе яго на дзве затокі. *(Б.)* 4. Максім зусім аціх і, (заплюшчыць) вочы, без пілоткі на чорным чубе высока ляжаў галавой на белай падушцы, ужо не (глядзець) у неба. *(Б.)* 5. І са сцягам былым да сяла, франтавыя прысады (абудзіць), брыгада ішла. *(А. К)* 6. Ляўчук, (прыслухоўвацца) да наваколля, доўга нёс камандзіра праз маўклівы насцярожаны лес. *(В. Б.)* 7. А краскі ніжай гнуць галовы, (пачуць) косак звон сталёвы. *(К-с)* 8. А як жа добра бывае, калі, (прачытаць) чужое, можна сказаць зусім па шчырасці, што нешта ёсць, што нешта будзе!.. *(Б.)* 9. І (углыбіць) ў свае думкі, Базыль нічога не заўважаў і сядзеў усё на тым жа дубовым корані. *(К-с)* 10. Лес, нерухліва (звесіць) свае галіны, маўкліва слухаў гэты гімн вясне і маладому жыццю. *(К-с)*

***Практыкаванне 3.*** *Ад наступных дзеясловаў утварыце дзеепрыслоўі незакончанага трывання, запішыце іх, падбярыце адпаведныя дзеепрыслоўі рускай мовы. Ці ад усіх дзеясловаў утвараюцца дзеепрыслоўі незакончанага трывання ў рускай мове?*

Казаць, ісці, пастукваць, рабіць, сустракаць, асвятляць, браць, шыць, жаць, ліць, біць, віць, піць, несці, чытаць, пісаць, рэзаць, мазаць, касіць, хадзіць, бегчы, званіць, адцвітаць, замярзаць, прыносіць, радавацца, заглядваць, дараваць, вывешваць, перавозіць.

***Практыкаванне 4.*** *Перакладзіце сказы на беларускую мову, параўнайце суфіксы дзеепрыслоўяў у беларускай і рускай мовах.*

1. Падая и вставая, проваливаясь в воронки, Кузнецов пробежал метров пятьдесят в сторону низины. 2. Он несколько раз с ходу па-

дал на колени, выпуская короткие очереди по бугру, а сердце, задохнувшись, звонкими молоточками барабанило в ушах, заглушая внешние звуки… 3. Первый, кого увидел Кузнецов, добежав до пологого ската в низину перед подбитыми немецкими танками, был Уханов. 4. Бессонов резко опустил бинокль, подумав, как выстояла с начала боя эта 76-миллиметровая батарея, которой командовал тот синеглазый, весь собранный, будто на парад, мальчик, готовый, не задумываясь, умереть, и представил на миг, что выдержали люди там, на главном направлении танкового удара. 5. В тоне, во взгляде сумрачная, немальчишеская серьезность, без тени робости перед генералом, будто мальчик этот, командир взвода, ценой своей жизни перешел через что-то, и теперь это понятное что-то сухо стояло в его глазах, застыв, не проливаясь. *(Ю. Бондарев)*

***Практыкаванне 5.*** *Вусна вызначце, ці правільна ўжыты дзеепрыслоўі ў сказах. Выпраўце памылкі ва ўжыванні дзеепрыслоўяў.*

1. Ён думаў: мала што зямля ў гэтым куточку кепская, але, угнаіўшы яе, урабіўшы, дагледзеўшы, будзе нейк жа расці на ёй. 2. Пасля гэтага Сурвіла пацягнуўся дадому, мармычучы сабе пад нос: «Урабіўшы гэтую камяніцу і гэты лажок, дык тады і паплавец тут можна будзе запусціць. А тым часам, значыцца, перабраўшыся на хутар, тут паша можа быць добрая…» 3. І часам, ідучы дадому са станцыі, утаміўшыся выгрузкай дроў з вагонаў, у яго з'яўлялася жаданне як бы хутчэй зноў вярнуцца сюды. 4. Конь ідзе паволі, не спяшаючыся. І, лежачы на мяшках, з заплюшчанымі вачыма, уяўляецца дом. 5. Гледзячы на вясёлыя твары сяброў, сэрца напаўняецца радасцю. 6. Восенню пад вечар, ідучы дахаты, на мне не было сухой ніткі. 7. Вяртаючыся назад, і здарылася гэта бяда.

***Практыкаванне 6.*** *Паводле прыкладнага парадку разбору дзеепрыслоўяў складзіце табліцу: 1) зваротнасць/незваротнасць; 2) пераходнасць/непераходнасць; 3) трыванне (незакончанае ці закончанае); 4) дзеяслоўная аснова і суфікс, з дапамогай якога ўтварылася дзеепрыслоўе. Выпішыце са сказаў дзеепрыслоўі, ахарактарызуйце іх згодна гэтай табліцы.*

Адзін край лугу стыкаўся з лесам, уразаўся ў яго, адхопліваючы дугаватыя лукі і павялічваючы свае травяністыя прасторы. Срэбнаю стужкаю вывіваўся Нёман, то падыходзячы пад самы лес, падразаючы карэнне дрэвам, то бегучы сярэдзінаю лугу, то падступаючы да поля, апяразваючы бліскучым жывым паскам яго пясчаныя схілы.

Прыбярэжныя кусты ўсё больш і больш вырысоўваліся, выплываючы з ранішняга змроку, святлелі, развясельваліся, і шырэй разгортваліся прыгожыя краявіды, поўныя радаснага спакою і маўклівага задумення.

Дарога павярнула ўлева, пайшла грудамі, шчыльней тулячыся да Нёмана, дзе ён апісваў вельмі зграбялую луку, падыходзячы да лесу. Уся гэта лука выглядала пышным старасвецкім садам, дзе замест пладовых дрэў раслі разложыстыя, дуплястыя, з асмаленымі жараламі дубы, убраныя чорнымі шапкамі буслявых гнёздаў. *(Я. Колас)*

## Утварэнне і правапіс дзеепрыслоўяў

***Практыкаванне 7.*** *Выпішыце спачатку сказы з адзіночнымі дзеепрыслоўямі, затым – з дзеепрыслоўнымі зваротамі. Устаўце прапушчаныя літары, растлумачце іх напісанне.*

1. Над ракою, туш...чы маланкі ў вадзе, нізка плывуць хмары. 2. Выгіна...чы шыі, коні струнілі нагамі, ледзь не станов...чыся на дыбы ад нацягнутых лейцаў. 3. Ззаду ўсіх, не спяша...чыся, ішла ў затаёным роздуме старая кабета. 4. Жн...чы, яна стамлялася з кожным днём усё больш. 5. Валя хвалявалася, падыма...чыся па крутых сходах і прыгляда...чыся да нумарацый кватэр. 6. Наўкола, чака...чы, сядзелі хлопцы. 7. Аўсееў неяк панылa маўчаў, сто...чы побач і ўслухоўва...чыся ў адзнакі далёкага бою. 8. Пад нагамі, перамешва...чыся, самотна шорхаў снег. 9. Васіль, не цям...чы больш нічога, не бач...чы больш нічога, як сляпы, выступіў з-за ясакара. 10. Баец выпусціў з рук вінтоўку і, абцярушва...чы рукамі мокрую зямлю, споўз на дно акопа. 11. Жоўтае цьмянае святло трымцела на карцінах, дзіўна ажыўля...чы цёмныя вобразы на іх. 12. Хлопец адказваў леж...чы.

## Ужыванне дзеепрыслоўяў

***Практыкаванне 8.*** *Знайдзіце сказы з няправільна выкарыстанымі дзеепрыслоўямі і выпраўце памылкі. Растлумачце пастаноўку апострафа.*

1. Ад'ехаўшы кіламетраў 10–15 ад Слуцка, можна ўбачыць высозныя гмахі. 2. І вось аднойчы, праехаўшы ўжо Аблучча, заходзіць у наш вагон начальнік поезда. 3. Праязджаючы па вуліцы, яго позірк шукаў некага сярод людзей. 4. Не шукаючы, не знойдзеш. 5. Гледзячы на шырокія ўраджайныя палі, сэрца напаўняецца радасцю. 6. Убачыўшы Віктара, Маю быццам хто падмяніў. 7. Вось і зараз, успамінаючы гэтыя дарагія мясціны, смутак зноў агортвае мяне. 8. Па по-

лі пабеглі палахлівыя цені, змяняючы і блытаючы колеры. 9. П'ючы чай, іх гутарка часта пераходзіла з тэмы на тэму. 10. Выходзячы з пакоя, у вочы кінулася аб'ява. 11. Лемяшэвіч узняў звычку штораніцы хадзіць на рэчку купацца, не зважаючы на надвор'е. 12. Пад'язджаючы да Мінска, у нас сапсаваўся аўтобус. 13. Цешачы Мікіту, на вуліцы стала сонечна і цёпла. 14. Расстаўшыся з сям'ёю, было трохі смутна на сэрцы. 15. Пераначаваўшы ў гэтай вёсцы, раніцай крануліся, падзякаваўшы гаспадароў за гасціннасць.

## Прыслоўе

***Практыкаванне 1.*** *Прачытайце тэкст. Выпішыце прыслоўі. Пералічыце спецыфічныя рысы гэтай часціны мовы (семантычныя, марфалагічныя, сінтаксічныя).*

Сцежкі такія ж розныя, як і людзі, што іх пратоптваюць. Адна сцежка роўная, простая, адкрытая, як шчыры чалавек. Другая віхляе туды-сюды, то грудок аббяжыць, то нізінку, а то схаваецца на момант у кустах ці ў пасевах, каб неўзабаве зноў выглянуць, ну, як чалавек, якога завуць хітранькім. А бывае, найчасцей паўз дарогу, бягуць, нібы дзяўчаткі, дзве сцежкі поруч, яны то сыдуцца ў адну, то зноў разбягуцца, нібы красуючыся адна перад адной. Вось і гэтая сцежка, палявая, яна не ўся навідавоку, бо поле няроўнае, ды і засталіся яшчэ сляды былых аднаасобніцкіх загонаў, з іх разорамі, што аддзялялі адзін загон ад другога. Сцежку штогод заворваюць у час сяўбы, але нават на засеяным полі праглядваюцца яе абрысы, бо зямля там болей зляжалая; дык людзі зноў ідуць тамсама. Вось і цяпер, на нядаўна засеянай азіміне, сцежка была не ўбітая як след, па ёй яшчэ мала прайшло людскіх ног, але яна выразна бачная, асабліва калі глядзіш наўсцяж наперад. Ігнату падумалася, што сцежка як жывая істота і што яна помніць, колькі і ён пахадзіў па ёй босымі нагамі. *(А. Марціновіч)*

### Ступені параўнання прыслоўяў

***Практыкаванне 2.*** *Утварыце ўсе магчымыя формы ступеней параўнання ад наступных прыслоўяў. Калі гэта немагчыма, растлумачце чаму. З прыслоўямі ўтварыце словазлучэнні і запішыце іх, выдзеліце прыстаўкі і суфіксы прыслоўяў.*

Звонка, моцна, прыгожа, па-мойму, рэдка, ціха, даспадобы, чароўна, паціху, маўчком, радасна, пяшчотна, раптам, блізка, высока, побач, заўсёды, добра.



### Правапіс прыслоўяў і спалучэнняў слоў, блізкіх да прыслоўяў

***Практыкаванне 3.*** *Спішыце словазлучэнні, растлумачце напісанне прыслоўяў.*

Дапамагчы па-суседску, ісці паціху, зрабіць па-твойму, глянуць спадылба, разбураны дашчэнту, заклеены крыж-на-крыж, убачыць упершыню, па-дамашняму ўтульна, падзяліць па-роўну, наадрэз адмовіць, дзе-небудзь прысесці, падоўгу не бачыцца, разысціся па-добраму, сустракацца штогод, назаўжды ўдзячны, зрабіць абы-як, прыехаць своечасова, час ад часу паглядаць, адказаць па-польску, штохвілінна азірацца, глянуць направа, падаць уніз, таксама прыгожы, па-святочнаму апрануцца, раз-пораз чуваць, ісці ўсляпую, упоперак дарогі, спаткацца калі-нікалі, ісці паасобку і па парах, прыйсціся даспадобы, павярнуць налева, чорны спаднізу, гаварыць па-нямецку, змяніцца ўвачавідкі, спыняцца штохвілінна, расці паблізу, развіталіся пазалетась.

***Практыкаванне 4.*** *Спішыце словазлучэнні, раскрыйце дужкі. Растлумачце напісанне слоў разам або асобна.*

Стаялі (з) боку, (з) боку вакзала; расце (у) высь, (у) высь блакітную; (у) трох памяшканнях, працавалі (у) трох; (з) большага адрамантаваны, (з) большага пакоя; сядзець (з) верху, (з) верху гары; (з) вечара да раніцы, выехалі (з) вечара; (з) усім класам, (з) усім не разумеў; выставіць (на) паказ, (на) паказ мадэлей; (у) ночы зімовыя, прыехаў (у) ночы; ішоў (на) сустрач, ехаў (на) сустрэчу з братам; ляцеў (у) далячынь, (у) далячынь таямнічую; зрабілі (с, з) пачатку, (с, з) пачатку года; (у) глыбіні пушчы, схавацца (у) глыб; зрабілі (за) тым, (за) тым дрэвам; атрымаў толькі (што), (што) раніцы спазніўся; імкнуцца (да) волі, чакаў (да) волі доўга; павярнуў (у) бок, глядзеў (у) бок станцыі; (у) дзень марозны, (у) дзень пацяплела; напісаў (без) памылак, напісана (без) памылкова; лье (без) упынку, лье (без) упынна; прайшоў (без) поспеху, (без) паспяховыя намаганні; (без) канца падаў, (без) концае падарожжа; раз-(по) раз грукае, раз (за) разам паўтараць.

Бегчы (на) уздагон, выцерці (на) суха, вывучыць (на) памяць, рабіць (па) новаму, ісці (па) ціху, (з) лёгку стаміцца, рабіць (як) след, азірацца (раз) пораз, схапіць (на) ляту, (па) дзіцячы непасрэдна, замяло (на) глуха, запомніць (на) заўсёды, (абы) куды бег, (на) дзіва прыгожы, (па) летняму цёплы, паспець (як) раз на вячэру, бегчы (без)

аглядкі, ліў (без, бес) перапынку, (на) пярэдадні свята, крыкнуў (на) хаду, палюбіў (з) малку, ляжала (у) поперак, павярнуў (у) лева, бачыпь (далёка) далёка, (па) мужчынску стрымана, дзе (небудзь) прысесці, (што) месяц абяцаў, расказваць (на) перабой, (на) супраць акна, прастрэліць (на) скрозь, было не (да) смеху, рынуцца (на) прасткі, (на) жаль, не атрымалася, падсохнуць (з) большага, так (сама) зрабіць, міма (волі) спыніцца, жыць тут (с, з) (прад) веку, зрабіць (па) гаспадарску, стаялі (у) абдымку, ісці (па) старэчы, рухацца (па) волі, ісці след (у) след, зрабіць (па) вашаму, пад'ехаць (да) хаты, вярнуцца (да) дому, кінуцца (у) рассыпную, падпяваць (ціха) ціха, (па) вясковаму проста, выдацца (на) славу, (на) урад (ці) давядзецца, развітацца (на) заўсёды, выглядаць (па) звычайнаму, (па) свойму непаўторны, усяго (у) меру, схапіць (на) бягу, шныраць туды (сюды), сустрэцца (над) вячоркам, выехалі (пад) вечар.

## Прыназоўнік

***Практыкаванне 1.*** *Запішыце беларускія адпаведнікі да наступных рускіх словазлучэнняў. Параўнайце ўжыванне ў іх прыназоўнікаў.*

Идти за грибами, по случаю встречи, вспоминать о друзьях, ехать лошадью, выходить из школы, думать о будущем, ни над кем не смеяться, гулять по лесу, подойти к дубу, ходить по домам, из глубины комнаты, тоска по родине.

***Практыкаванне 2.*** *Прачытайце ўрыўкі з кнігі Я. Скрыгана «Ранішнія росы». Выпішыце з іх словазлучэнні з прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі, сінанімічнымі канструкцыямі з прыназоўнікамі* ***за, для, у бок****.*

Механічна ў творным склоне пачынаем ужываць прыназоўнік *за*: паслаў за доктарам; паехаў за абсталяваннем, калі тут патрэбен прыназоўнік *па* і назоўнік у вінавальным склоне: паслаў па доктара, паехаў па абсталяванне. Не за чым і за кім паслаць, з'ездзіць, схадзіць, а па што і па каго. Прызнаюся, што нядаўна я прачытаў у газеце: «Навошта ездзіць за экзотыкай на край свету» і не адразу зразумеў, пра што сказана. Памятаючы, што за – гэта следам за кім, наўздагон за кім, я так і зразумеў, што следам за ею. І толькі пасля ўжо, дачытаўшы да канца фразу, дзе сказана, што экзотыкі колькі хочаш і дома, пад бокам, здагадаўся, што гэта пра яе. Я не жартую і не прыкідваюся: я прывык за словам бачыць той сэнс, які памятаю з матчынай мовы, з дзяцінства. Гэта яшчэ раз гаворыць толькі пра тое, як небяспечна «падпраўляць» мову…

Прыназоўнік *для*. Яго мы зрабілі надта ўніверсальным. Пішам: ён сумленна жыў для навукі; цяпер вядома, для чаго ён збіраў лекавыя травы; не астаецца часу для заняткаў; яна стала для яго за маці; яна спявае для вас; для свайго часу гэта было прагрэсіўнай з'явай; я купіў для цябе кнігу; купіў бочку для капусты; для таго і стрэльба, каб з яе страляць; для яго гэта пацеха; для чаго гэта патрэбна. Усюды мы абышліся адным толькі для. А давайце паглядзім, ці не лепш было б напісаць так, як таго патрабуе сама мова: цяпер вядома, навошта ён збіраў лекавыя травы; не астаецца часу на заняткі; яна стала мне за маці; яна спявае дзеля вас; на свой час гэта было прагрэсіўнай з'явай; я купіў табе кнігу; купіў бочку пад (або на) капусту; на тое і стрэльба, каб з яе страляць; усё робіцца дзеля карысці справы; яму гэта цяжка; навошта гэта патрэбна; каму гэта патрэбна. Вунь колькі прастору і лёгкасці стала ў гэтых фразах…

Пра слова «бок». Мы развучыліся ім карыстацца. Вось як пішам часамі: «Ён зірнуў у бок бацькі», «Ён пайшоў у бок сяла», «Мы звярнулі ў бок лесу», «Дарога павярнула ў бок поля», «З боку сенажаці пацягнула ветрам». Пры чым тут і да чаго тут бок? І які – правы ці левы? У нармальнай фразе ён жа абсалютна не патрэбны: «Ён зірнуў на бацьку», «Ён пайшоў пад сяло» (або на сяло, або ў сяло), «Мы звярнулі пад лес» (або да лесу), «Дарога павярнула ў поле» (або на поле), «Ад сенажаці пацягнула ветрам» (або з-пад сенажаці).

***Практыкаванне 3.*** *Падбярыце і запішыце прыназоўнікава-іменныя канструкцыі, сінанімічныя выдзеленым, з іншымі прыназоўнікамі або без прыназоўнікаў.*

Дні ідуць **за працай**, вучыцца **на настаўніка**, сустрэліся **праз год**, снег **да пояса**, чырванець **ад марозу**, дарога **праз лес**, вядомы **на ўсю рэспубліку**, песня плыве **з-пад ракі**, сядзеў поруч **з маці**, працаваць **ад раніцы**, прачнуўшыся **а сёмай гадзіне**, часопіс **за жнівень**, не спаць **па начах**, настаўніцы **гадоў пад сорак**, вырас **да столі**, бочка **на капусту**, трава **ў калена**, жыць **бліз рэчкі**, дом **на дваццаць кватэр**.

***Практыкаванне 4.*** *Выпішыце ўсе прыназоўнікава-іменныя канструкцыі, зрабіце пісьмовы марфалачны разбор прыназоўнікаў. Прыкладны парадак разбору: а) разрад паводле марфемнай будовы і па-*

*ходжання (невытворны, вытворны); б) структурны разрад (просты, складаны, састаўны); в) функцыяцыянальнае значэнне ў кантэксце; г) з якім склонам ужываецца ў сказе.*

1. У 1828 годзе паўстала супраць пана мястэчка Крошын ля Баранавіч. Прыйшло войска. У ліку іншых пакаралі каваля. Сына яго, парабка, што скончыў пачатковую школу, здалі ў салдаты. За некалькі сшыткаў патрыятычных антыпрыгонных вершаў, якія і дагэтуль не знойдзены. Звалі прыгоннага паэта Паўлюк Багрым. Лёс быў да яго бязлітасны. Не дзесяць, як Шаўчэнка, а поўныя дваццаць пяць год адмучыўся ён у казармах. Без усякага заступніцтва, бо Шаўчэнку ведалі многія ўплывовыя людзі і рабілі спробы заступацца, а хто ведаў Багрыма, звычайнага мужыка? Вярнуўшыся на вёску, ён працаваў у Крошыне кавалём. Меў залатыя рукі. У Крошынскім касцёле ёсць каваная люстра яго работы: перапляценне кветкавых бутонаў і жаўрукоў у палёце. Ад Багрыма дайшоў да нас адзіны верш «Заграй, заграй, хлопча малы» – верш гнеўнага бунту супраць прыгону, шчымлівай журбы і глыбокай чалавечнасці. І вось загінуў паэт, як тысячы такіх звялося і да яго і пасля. Згінулі і ляжаць, нікім не аплаканыя, акрамя, можа, палявых вятроў. *(Паводле У. Караткевіча)*

2. Ці шмат у Маскве беларускага? Памяркуйце: Беларускі вакзал, станцыя метро «Беларуская», вуліцы Брэсцкая, Мінская, завулак Нясвіжскі, кінатэатр «Брэст», гасцініца «Мінск»… Для аматараў беларускай кнігі – кнігарня № 106 па вуліцы Кірава з даволі багатым беларускім аддзелам. Я нават пазайздросціў, што ў Маскве часам большы выбар беларускай кнігі, чым у маім Маладзечне. У час вучобы ў сталіцы набіраў іх тут цэлыя вязанкі. А колькі матэрыялаў знаходзіцца з Беларусі ў маскоўскіх архівах і музеях. Не злічыць старычных рэліквій у аддзеле Айчыннай вайны 1812 года Дзяржаўнага гістарычнага музея, што на Краснай плошчы. Падзеі на Бярэзіне, пад Маладзечнам і Смаргонню. Тут мне здалася цікавай карта Паўднёвага Урала, якую ў музей даслаў уральскі настаўнік-краязнавец. На ёй назвы населеных пунктаў на Урале, якія далі ў гонар перамогі рускай арміі над французскай. Вось чаму на Урале з'явіліся тапонімы Віцебск, Полацк, Бярэзіна, Студзёнка і іншыя. *(Паводле Г. Каханоўскага)*

## Ужыванне і правапіс прыназоўнікаў



***Практыкаванне 5.*** *Спішыце сказы, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне прыназоўнікаў.*

1. Было ўсё неба (над) мною, а (пад) мною ўся зямля. 2. Па (над) рэчкай мы гулялі не раз. 3. Прыходзілі сяляне (з) навакольных вёсак (з) сваімі справамі. 4. Мы ехалі прасёлкавымі дарогамі з-(пад) Нарачы. 5. Была нават свая паэзія і хараство (у) ўсёй гэтай бязладнай абстаноўцы ваеннага паходнага жыцця. 6. Прыехаў я сюды з (за) свету – з (пад) самых Стоўбцаў. 7. (З) змроку выступіла высокая постаць. 8. І раптам адчуў сябе Ігнась адрэзаным, асобным (ад) усяго, як бы (у) другім свеце, (на) другой зямлі, усё стала як бы па (за) яго істотаю. 9. З (за) плячэй сасонак узнімаецца ранак. 10. Па (за) садкамі, па (за) хвалямі, (па) завуголлі, агародамі краліся адзін (за) адным (па) поцемку (ў) чатырох, як ваўкі. 11. Антось (з) смехам адыходзіць. 12. З (за) шэрай коўдры хмар выглянула ласкавае сонца. 13. Я тады вучыўся (у) універсітэце. 14. Ля магазіна, (не) гледзячы (на) ранні час, было мнагалюдна. 15. Сцяпан ішоў, (не) гледзячы (па) баках. 16. (Не) гледзячы (на) стому, салдаты весела смяяліся. 17. Ногі чалавека, (не) гледзячы (на) цёплы восеньскі дзень, былі ўкрыты махнатым пледам.

## Ужыванне часціц НЕ, НІ. Правапіс часціц НЕ, НІ з рознымі часцінамі мовы

***Практыкаванне 6.*** *Растлумачце ўжыванне часціцы **не** або **ні**.*

1. Васіль не абзываўся ні словам. 2. У сэрцы не было ўжо месца ні любасці, ні захапленню, ні радасці. 3. Я ні разу не быў у Маскве. 4. Як тут не сказаць! 5. Не мог чалавек ні з таго ні з сяго ўсё кінуць і ўцячы! 6. Нельга было не смяяцца, гледзячы на сур'ёзнага Сымона. 7. Егер трымаўся вельмі асцярожна, не дазваляючы сабе ні аднаго лішняга руху. 8. На небе ні хмурынкі. 9. Амаль усё, за што б ні браўся хлопец, давалася яму легка. 10. Я не мог не заехаць да вас. 12. Дзяцел рытмічна і заўзята тукаў па галіне звонкага дрэва, не зважаючы ні на якія людскія трывогі. 13. Ты не сонца, усіх не абагрэеш. 14. Дзе бацька не ездзіў, чым толькі не займаўся. 15. Не раз мне даводзілася быць у гэтых месцах, але я ні разу не бачыў мядзведзя, хоць ён тут і водзіцца.

***Практыкаванне 7.*** *Прачытайце. Растлумачце ўжыванне часціц **не, ні** і напісанне іх разам ці асобна з рознымі часцінамі мовы.*

1. Дамы стаяць не прыціснутыя адзін да аднаго, а на адлегласці.

2. Вінаваты ў няўдачы быў і няўжыўчывы характар хлопца. 3. Не ведаючы ніводнай літары, ніводнай лічбы, Ганка памятала ўсіх сваіх даўжнікоў. 4. Стары ледзь не штодня хадзіў глядзець на гэтае незвычайнае будаўніцтва. 5. Рыжая асака, не кранутая ў свой час касою, стаяла ў вадзе. 6. Спецыфічнай асаблівасцю нарыса з'яўляецца тое, што ў ім апісваюцца не выдуманыя, а рэальныя, канкрэтныя людзі, факты, падзеі. 7. Хаты пабудаваны з неабчасаных дрэў. 8. Не спяшаючыся, старая паставіла на стол чыгунок з нішчымнай бульбай. 9. Недзе паблізу ў няскошанай дзялянцы рыпнуў драч. 10. Дрэмле папараць чароўным, непрабудным сном. 11. Не чутно ні крокаў, ні галасоў. 12. Гэты невялічкі куток ператварыўся ў маёй дзіцячай фантазіі ў казачны лес з незвычайнымі істотамі.

***Практыкаванне 8.*** *Спішыце словазлучэнні. Замест кропак устаўце* ***не (ня)***, ***ні****, пішыце іх са словамі разам або асобна, раскрыйце дужкі.*

Ніколі ... бачаны горад; ... ўсыпаны ружамі шлях; ... ходжаная сцежка; намі ... растрачана; ... вечны кожны з нас; пішуцца ... зменна; апанавала ... смеласць; расказвала пра ... шчасце; ... даючы спакою; ... дагледжаны як след; чакаць з ... цярплівасцю; ... водзін чалавек; ... дамалочанае жыта; пайшоў ... ахвотна; ... дзе ніколі ... быў; яшчэ ... пазнанае шчасце; ... справядлівасці жыцця; ... вясёлае, а сумнае жыццё; ... лёгка пакідаць; далёка ... просты чалавек; асенняя ... пагадзь; ... спакойная рэчка; ... (з) кім ... сустракаўся; ...кранутая бель; яшчэ ... падмеценыя алеі; ... разумеючы ... чога; ... гледзячы ... (на) што; ... гледзячы пад ногі; ... кім ... заўважаны чалавек; ... блізкі шлях; ... пракосы, а палосы; застылі ў ... рухомасці; ... дарагі касцюм; ... днём, а пад вечар; ... ласкавая зямля; ... мог ... сказаць; ... на што ... падобны, ... (к)чэмны чалавек; ... трэба ... чога казаць; ... ведаючы броду; ... колькі ... складаны; ... гледзячы на мароз; ... гледзячы на мяне; знаходзіцца ... падалёк; ... адзін ... дапамог; ... адзін выпадак; ... колі ... забываў; ... разумнейшы за мяне; ... крыўдую ... (на) кога; быў ... чужы і ... лішні; ... бяспечнае падарожжа; ... цурацца работы; ... хавацца ... (за) чые плечы; ... следу ... дзе; ... прытульна ў лесе; ... ходжанае поле; ... пражытае жыццё; ... раз шанцавала; ... разу ... прапусціў; ... вялічкая вёсачка; выглядаў ... прыветна і ... прытульна; ... зжатае поле; яшчэ ... прыбраны луг; ... шкада ... кога; ... пазней чым заўтра; ... хочучы ... чога; ... супраць паездкі.



## ТЭСТ 1

*1. Адзначце словы, вымаўленне якіх не супадае з напісаннем:*

а) зачэпішся;
б) бясшумна;
в) лягчэй;
г) размаляваны;
д) схітрыць.

*2. Адзначце словы, у якіх націск падае на другі склад:*

а) цэмент;
б) мармур;
в) каўчук;
г) азбест;
д) цэхавы.

*3. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару* ***о****:*

а) т...нкастволы;
б) н...вабранец;
в) н...ваўтвораны;
г) заг...рнуты;
д) ж...луд.

*4. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару* ***ў****:*

а) маці-...краінка;
б) ва ...льянаўскай вобласці;
в) аквары...м;
г) быў ...спрыняты;
д) метэа...мовы.

*5. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару* ***ь****:*

а) подз...віг;
б) увас...мярых;
в) кан...кі;
г) хрэс...біны;
д) поз...ні.

*6. Адзначце словы, у якіх напісанне выдзеленых арфаграм заснавана на фанетычным прынцыпе:*

а) кл**я**новы;
б) а**б**сыпаць;
в) сце**ж**ка;
г) с**а**рдэчны;
д) ра**з**даць.

*7. Адзначце назоўнікі, у якіх пры ўтварэнні формы меснага склону адзіночнага ліку адбываецца змена апошняга зычнага асновы:*

а) засуха;
б) хвост;
в) Алёнка;
г) агрэх
д) абутак.

*8. Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць з вялікай літары:*

а) Дом **(А, а)фіцэраў**;
г) горы **(П, п)амір**;

б) **(С, с)тудэнцкі** інтэрнат; д) **(С, с)лавяне**.
в) **(Б, б)ерынгаў** праліў;

*9. Адзначце словы, якія трэба пісаць разам:*
а) (адна) пакаёвы; г) (сацыяльна) эканамічны;
б) (стэрэа) тыпны; д) (мікра) раён.
в) (зямля) карміцелька;

*10. Адзначце абстрактныя назоўнікі:*
а) знявага; г) імкненне;
б) град; д) бярэзнік.
в) розум;

*11. Адзначце прыклады, у якіх дапушчаны памылкі ў напісанні, скланенні ці ўжыванні лічэбнікаў:*
а) мільярд; г) стамі гектарамі;
б) сарака краінамі; д) сто дваццаццю.
в) дзевяцьсоты;

*12. Адзначце сказы, у якіх ёсць памылкі ва ўжыванні займеннікаў:*
а) Кожны ў сваей хаце пан.
б) Праз ніякі час угору паплыў, як туман, пахучы дымок.
в) Праз топкае балота рэчы давялося несці на сябе.
г) Хто дае, той і мае.
д) Жаласць да самога сябе агарнула Пракопа.

*13. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу маюць канчатак **-уць (-юць)**:*
а) рапартаваць; г) разняць;
б) варушыць; д) выказаць.
в) завяршыць;

*14. Адзначце словазлучэнні, у якіх дзеепрыметнікі ўтвораны, ужыты і напісаны правільна:*
а) затоплены поплаў; г) некрануты лес;
б) пасаджанныя кусты; д) аглянуўшаяся жанчына.
в) пачарнелы комін;

*15. Адзначце сказы, у якіх ёсць памылкі ва ўтварэнні і напісанні дзеепрыслоўяў:*
а) Спакойна сплывае рака, не ведаючы суму і гора.
б) Не спыняючысь ні на хвіліну, павольна плывуць па небе дажджавыя хмары.
в) Абмытая дажджом, дыміцца зямля, дыхаячы на поўныя грудзі.



г) На гладкі пясок пачалі кідацца, даганяючы адна адну, шэрыя марскія хвалі.
д) Магутныя сосны, паказвая з зямлі аголенае карэнне, задуменна глядзелі ў люстра вады.

*16. Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць разам:*
а) **(у) дзень** нараджэння;
б) цягнуць **(што) сілы**;
в) знаходзіцца **(пад) бокам**;
г) далучацца **(з) малку**;
д) **(так) сяк** разабраліся.

*17. Адзначце прыклады, у якіх **не** з выдзеленымі словамі трэба пісаць разам:*
а) весці сябе **(не) спакойна**;
б) **(не) сказанае** мною слова;
в) даўно **(не) дачуваць**;
г) **( не) раней** за цябе;
д) **(не) ўладкаванае** жыцце.

*18. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ужываецца **не**:*
а) Няма над возерам ... ластавак, ... чаек.
б) Усё часцей дзяцінства сніцца, дзе б у дарозе я ... быў.
в) Неяк атрымліваецца ў мяне ўсе ... ў пяць ... ў дзесяць.
г) Дрэвы ... ўмеюць працівіцца людзям.
д) Ніхто так дзецям ... спагадае, як родная маці.

## ТЭСТ 2

*1. Адзначце словы (спалучэнні слоў), вымаўленне якіх не супадае з напісаннем:*
а) схіліць; г) салодкі;
б) запозна; д) без зямлі.
в) выязджаць;

*2. Адначце словы, у якіх націск падае на трэці склад:*
а) жыццяпіс; г) выпадак;
б) летапіс; д) грамадзянін.
в) загадка;

*3. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару **о**:*
а) сл...ваформа; г) ч...рнагрывы;

б) пр...сты; д) Н...вагрудак.
в) д...ўгачаканы;

*4. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару **у**:*

а) га...біца; г) гулялі ...траіх;
б) на ...ральскім хрыбце; д) архівары...с.
в) прыбыў ...дзень;

*5. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару **ь**:*

а) яблын...ка; г) восен...скі;
б) с...певы; д) мядз...ведзь.
в) барац...ба;

*6. Адзначце словы, у якіх напісанне выдзеленых арфаграм заснавана на марфалагічным прынцыпе:*

а) выя**з**джаць; г) мно**ств**а;
б) пале**с**кі; д) бе**з**дакорны.
в) ма**т**чын;

*7. Адзначце назоўнікі, у якіх пры ўтварэнні формы меснага склону адзіночнага ліку адбываецца змена апошняга зычнага асновы:*

а) заслуга; г) флот;
б) верх; д) заапарк.
в) размах;

*8. Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць з вялікай літары:*

а) **(К, к)упалаўскія** мясціны;
б) **(Я, я)двісін** дуб;
в) **(Д, д)атчане**;
г) **(Ж, ж) ыровіцкі** Свята-Успенскі манастыр;
д) **(Б, б)аброва** хатка.

*9. Адзначце словы, якія трэба пісаць разам:*

а) (агульна) чалавечы;
б) (раман) пенталогія;
в) (шырока) экранны;
г) (рамантычна) гераічны;
д) (драбна) лессе.

*10. Адзначце назоўнікі, якія у форме роднага склону адзіночнага ліку маюць канчатак **-у (-ю)**:*

а) горад; г) ложак;



б) гай; д) сон.
в) вопыт;

*11. Адзначце прыклады, у якіх дапушчаны памылкі ў напісанні, скланенні ці ўжыванні лічэбнікаў:*

а) семь птушак; г) пяць шостых;
б) дзве пятых; д) пяці-мільярдная сума.
в) дзевяноста рублеў;

*12. Адзначце сказы, ў якіх ёсць памылкі ва ўжыванні займеннікаў:*

а) З другога смяецца, а ў самай блінец не ўдаецца.
б) Нельга самога сябе хваліць.
в) Рэха з таго вяснавага дня застаецца самым мілым маім успамінам.
г) Языком чэша – сябе цешыць.
д) У кустах хаваецца, а сам ваўка палохае.

*13. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 2-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу маюць канчатак **-еш (-эш)**:*

а) пашыць; г) напячы;
б) лавіць; д) гаварыць.
в) дабрацца;

*14. Адзначце словазлучэнні, у якіх дзеепрыметнікі ўтвораны, ужыты і напісаны правільна:*

а) дзелячаяся частка; г) памытая падлога;
б) пастарэлы чалавек; д) заершаны стог.
в) узараннае поле;

*15. Адзначце сказы, у якіх ёсць памылкі ва ўтварэнні і напісанні дзеепрыслоўяў:*

а) Не думая, што Антон гаварыў вельмі катэгарычна.
б) Шчыра кажачы, ён толькі лічыўся брыгадзірам.
в) Яшчэ больш сур'ёзным стаў Сцепка, скончыўшы школу.
г) Пераліваясь золатам, вячэрняя зара рабілася аранжавай.
д) Яўхім ступаў разваліста, засунуўшы рукі ў кішэні паддзёўкі.

*16. Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць разам:*

а) прыйсціся **(да) спадобы**;
б) чытаць **(па) польску**;
в) прамовіць **(на) пышліва**;
г) схапіць **(на) ляту**;
д) сумнявацца **(ў) сапраўднасці**.

*17. Адзначце прыклады, у якіх **не** з выдзеленымі словамі трэба пісаць разам:*

а) **(не) пазнанае** імі шчасце;
б) **(не) звычайная** кніга;
в) **(не) гаворачы** нікому;
г) разносіць **(не) быліцы**;
д) **(не) зачыняць** дзвярэй.

*18. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ужываецца **ні**:*

а) Як ... дзіўна, за дзвярыма пачуліся крокі.
б) Спектаклі апошнім часам ставіліся ледзь ... не ў кожнай весцы.
в) Вочы ў Ясюкевіча не ўмелі хлусіць. Як бы ен ... сваволіў, яны былі простыя і сумленныя, гэтыя вочы.
г) Дзед не глядзеў ... на ўнука, ... на Халімона Кірдуна, што стаяў ля сценкі.
д) Людскія ўчынкі ... бываюць марнымі.

## ТЭСТ 3

*1. Адзначце словы (спалучэнні слоў), вымаўленне якіх не супадае з напісаннем:*

а) без віны;
б) адказаць;
в) наймальнік;
г) схітрыць;
д) схіл.

*2. Адзначце словы, у якіх націск падае на другі склад:*

а) завадзь;
б) жвавець;
в) загнаны;
г) знахар;
д) кухар;

*3. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару **о**:*

а) др...вастой;
б) д...брасуседства;
в) кр...вавы;
г) ч...рнавалосы;
д) т...рфяны.

*4. Адзначце словы, у якіх на мецы пропуску трэба пісаць літару **у**:*

а) да ...эльса;
б) рэ...матолаг;
в) вясна-...ладарка;
г) злавіла ...юна;
д) з ...сходнеславянскіх зямель.



*5. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару **ь**:*

а) ваз...му;
б) ледз...ве;
в) дзядз...ка;
г) голуб...;
д) чэрвен...скі.

*6. Адзначце словы, у якіх напісанне выдзеленых арфаграм заснавана на фанетычным прынцыпе:*

а) адва**ж**ся;
б) **в**узел;
в) кня**ст**ва;
г) узбагаціць;
д) кладка.

*7. Адзначце дзеясловы, у корані якіх пры ўтварэнні формы 1-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу адбываецца чаргаванне зычных:*

а) карміць;
б) ездзіць;
в) драмаць;
г) пусціць;
д) лічыць.

*8. Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць з вялікай літары:*

а) **(М, м)ішкавы** прыгоды;
б) Дзень **(Н, н)астаўніка**;
в) **(Д, д)ом** адпачынку;
г) **(Д, д)рыгавічы**;
д) мыс Добрай **(Н, н)адзеі**.

*9. Адзначце словы, якія трэба пісаць праз злучок:*

а) (вела) спорт;
б) (фізіка) матэматычны;
в) (медна) залаты;
г) (паў) Магілёва;
д) (краса) моўны.

*10. Адзначце неадушаўлёныя назоўнікі:*

а) русалка;
б) глыбіня;
в) вучань;
г) сялянства;
д) даярка.

*11. Адзначце прыклады, у якіх дапушчаны памылкі ў напісанні, скланенні ці ўжыванні лічэбнікаў:*

а) сем восьмых;
б) двух-мільённы народ;
в) тры сёмых;
г) паўтара кубка;
д) абодвума вучнямі.

*12. Адзначце сказы, у якіх ёсць памылкі ва ўжыванні займеннікаў:*

а) Заяц не палахлівец, а сябе беражэ.
б) Работа да самой суботы.
в) Няхай не будзе ні мне, ні цябе.
г) Курыца толькі ад сабе грабе.

д) Не капай ямы нікому, каб не ўпасці самому.

*13. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 1-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу маюць канчатак* ***-ым (-ім)****:*

а) гасціць;
б) вылечыць;
в) віншаваць;
г) купляць;
д) касіць.

*14. Адзначце словазлучэнні, у якіх дзеепрыметнікі ўтвораны, ужыты і напісаны правільна:*

а) ашукаты чалавек;
б) прыпухлая шчака;
в) вывуджаны шчупак;
г) хвалюючыяся вучні;
д) пасярэбранная дэталь.

*15. Адзначце сказы, у якіх ёсць памылкі ва ўтварэнні і напісанні дзеепрыслоўяў:*

а) Праязджая міма школы, Наташа ўбачыла сваю настаўніцу і спынілася.

б) Віктар, падпёршы галаву рукою, ляжаў на тапчане і чытаў.

в) На поплаве, раскінуўшы магутнае вецце, стаялі сям-там дубы.

г) Выбіраячы за плугам бульбу, дзеці весела перагукваліся.

д) Паўнее рака, не знаючы суму і гора.

*16. Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць разам:*

а) **(сяк) так** справіцца;
б) есці **(па) трошку**;
в) **(што)** вечар збірацца;
г) **(у) дадатак** да напісанага;
д) ацэньваць **(па) ўрочна**.

*17. Адзначце прыклады, у якіх* ***не*** *з выдзеленымі словамі трэба пісаць разам:*

а) **(не) надрукаваны** нарыс;
б) **(не) надзейна** схаваны;
в) **(не) парушная** цішыня;
г) кніга **(не) прачытана**;
д) **(не) застаць** дома.

*18. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ужываецца* ***не****:*

а) ... адзін вучань не адмовіўся прыйсці.

б) Хіба ж ... мілы час такі на схіле лецейка пад восень!

в) ... слёз, ... тугі, ... жаданняў няма – ноч у казках мяне закалыша.

г) У атрадзе ён быў ... чужы, а свой чалавек.

д) Максім ... старэйшы за сваіх таварышаў.



## КАНТРОЛЬНАЯ РАБОТА

### I варыянт

*1. Запішыце словы ў алфавітным парадку. Устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары.*

Ч...рнале...е, ла...чына, Прып...ць, дроб...зь, с...лянін, во...гук, ала...ка, гара...кі, Мала...ечна, бі...логія, на...ука, сце...ка, грама...-ства, выма...ленне, ба...ейн, Дн...про, абітур...нт, фу...бол.

*2. Зрабіце фанетычны разбор слоў.*

Мядзведзь, расліна, аб'яднанне.

*3. Падкрэсліце словы, у якіх колькасць літар і гукаў не супадае.*

Выкананне, раздзяліць, кантрасны, папялішча, небяспека, індустрыяльны, выяўленчы, перавозчык, сейбіт, заіскрыцца, беспрацоўе, пераключальнік.

*4. Запішыце ў транскрыпцыі наступныя словы.*

Бясшумна, на рэчцы, дубкі, падносчык, смешна, прыволле, зайграе, пясчынка, вясёлы, айсберг, гарадскі, моладзь, французскі, пасадка.

*5. Пастаўце націск ў словах.*

Дакумент, працэнт, старэнькі, вярба, прынесла, нянавісць, накрыўка, засланка, шэсцьдзесят, квартал, атлас, каменне, калоссе, замак, выпадак.

*6. Устаўце прапушчаныя літары.*

Орд...н, вет...ран, ж...леза, літ...ратура, бухгалт...р, кандыт...р, т...леграф, в...сна, в...лізарны, Васн...цоў, эл...мент, інт...л...генцыя, п...рп...ндыкуляр, н...пэўна, М...ркурый, дыл...тант, імпр...сары..., адр...с, інж...нер, п...рсанаж, канц...лярыя, р...фарматар, майст...р, акад...мічны, Ч...лябінск.

### II варыянт

*1. Запішыце словы ў алфавітным парадку. Устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары.*

На...чадак, адна...ле...е, ад...яле…е, на...хне...е, б...рэт, вя...ерца, выкла...ык, гры...кі, спа...ка...е, прагра...а, д...ктант, д...кламацыя, еднас...ць, Пола...ына, неа...ходнасць, про...кі, інт...лект, ар...шт.

*2. Зрабіце фанетычны разбор слоў.*

Пасяджэнне, маёмасць, асвета, ёлка.

*3. Падкрэсліце словы, у якіх колькасць літар і гукаў не супадае.*

Адзвініш, барацьба, дзераза, дождж, дзянькі, заціхаць, капаюць, люблю, людзі, мерыдыян, павільён, прыярытэт.

*4. Запішыце ў транскрыпцыі наступныя словы.*

Сцярогся, растлумачце, балотца, світанне, песня, касьба, Ільіч, ельнік, лось, зжалішся, здзіўленне, дзверы, ззянне, з'ездзіць.

*5. Пастаўце націск ў словах.*

Гушчар, буйны (горад), веснавы, прысады, ласкавы, валасы, замецъ, правапіс, вабіць. ганьба, навіна, завесці, інструмент, кпіны, магазін, музыка, увачавідкі, сантыметр, грэблівасць.

*6. Устаўце прапушчаныя літары.*

Д...л...гат, ваз...лін, р...ф...рэндум, ц...р...монія, р...жысёр, бал...-рына, аб...ліск, с...зон, м...нзурка, бар...льеф, В...нера, Ч...рнышэўскі, м...тодыка, п...рсп...ктыва, б...сконца, дроб...зь, с...ржант, гл...-дачы, Г...надзь, Шв...йцарыя, ап...рацыя, сн...гавік, м...чэць, з...нітчык, к...фір, м...стачковы**.**

## ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ МОВЫ

***Практыкаванне 1.*** *Прачытайце ўрыўкі з тэкстаў. Вызначце, да якіх стыляў адносіцца кожны з іх, абгрунтуйце сваю думку.*

1. Усё таямнічае, незразумелае і загадкавае першабытны чалавек не толькі адухаўляў, але і абагаўляў. Адно з першых месцаў у пантэоне старажытных людзей належала агню, без якога жыццё было б проста немагчыма. Міфы шматлікіх народаў пераканаўча сведчаць, што агонь быў спрадвеку звязаны не толькі з жытлом і агменем, але і з'яўляўся сімвалам роду, племені і жыцця. Гісторыя не ведае ніводнага народа, які на пэўным этапе свайго развіцця не надзеляў бы агонь звышпрыроднымі ўласцівасцямі. Вытокі абагаўлення агню губляюцца дзесьці ў прадонні каменнага веку. *(Паводле С. Цярохіна)*

2. Не магу без хвалявання глядзець на жнівеньскія лугі. Шмат у іх нейкай неразгаданай і прыціхлай задуменнасці і красы. Буйныя травы скошаны. На месцы шырокіх пракосаў па ўсёй пойме ракі, наколькі можна ахапіць вокам, узняліся стагі духмянага сенца. І кожны па-свойму адметны. Вось гэты высокі, зграбны, быццам тая статуэтка з бронзы на зялёным аксаміце лугу стаіць. А гэты чамусьці нагадвае стройную маладую дзяўчыну з капрызна



падціснутымі вуснамі… *(Паводле Р. Ігнаценкі)*

3. Спяшаемся на аўтобус. Каб не спазніцца. Да сына хочам. Пераведаць надумалі. Адзін наш у Гародні, а другі аж у Мінску. Стары казаў: у нядзельку трэба нядзелькаваць, рукам спачыну знайсці. А я разважыла: не, што там нядзелькаваць! Ехаць – не працаваць. Дацягнемся да аўтобуса, а там у Слонім, а там і ў Мінск. Не на сабе ж цягнуць, не на кані пхнуцца дзень і ноч, дзень і ноч. Ды нагатавалі сяго-таго, ды сабралі таго-сяго, ды склалі, дый на вас во натрапілі, дай божачка вам здароўя, што дапамаглі. А сын наш студэнтаў вучыць. Жыве, як той казаў, дай божа ўсім добрым людзям! То чужыя кніжкі чытаў, а гэта сам свае напісаў, людзі іх чытаюць, студэнты вучаць яго кніжкі. Дык завязём. І жонка ёсць, і двое дзетак гадуе – усё гэта ім. І ягады, і з грады агурочкі, і з галінкі памідоры, і кропу, і паляндвіцу, і часныку, і… Як ні ёсць – свае дзеці. Трэба ж. Трэба дапамагчы дзецям. І без нашага абышлося б, дык хочацца ж дапамагчы. *(Паводле Ф. Янкоўскага)*

4. Дзяржава павінна забяспечыць структурнасць, планамернасць і змест чалавечага жыцця і развіцця канкрэтнай асобы. Дзяржава выступае ў якасці сацыяльнага інстытута, у якім чалавек засвойвае нормы паводзін і дзейнасць, усведамляе свае правы і абавязкі ў адносінах да іншых людзей, уносіць свой уклад у сацыяльнае, эканамічнае, палітычнае, маральнае развіццё грамадства.

Любая дзяржава моцная законамі, агульнымі правіламі, мэтамі, стратэгіяй развіцця, пэўнай ідэалогіяй. Без ідэалогіі дзяржаўнае развіццё ўяўляе сабой спантанны, а падчас і хаатычны працэс. Адсутнасць прапісанай і прадстаўленай пазіцыі краіны не можа не адбіцца на пазіцыі асобы, яе ідэалах, перакананнях, каштоўнасцях, на яе адносінах да ўласнай дзяржавы. *(Канцэптуальныя асновы ідэйна-выхаваўчай работы з дзецьмі, вучнямі і студэнтамі)*

5. Зрабіце для сябе, маладыя людзі, абавязковым правілам: кожны дзень, хоць на некалькі мінут, вазьміце ў рукі зборнік народных песень або казак, прыказак або загадак, пагартайце, пачытайце ўважліва, удумліва, нават даўно знаёмыя вам, нават тое, што нібыта ведаеце на памяць, прачытайце яшчэ раз – вы абавязкова адкрыеце для сябе нешта вельмі істотнае і каштоўнае – як у сэнсе разумення народнага жыцця, душы народа, так і ў сэнсе разумення сакрэтаў мастацкага майстэрства. Вы напэўна знойдзеце слова, якога вам не хапала, вы ўбачыце, як народ шукае адзінае неабходнае слова, як паварочвае яго, каб яно засвяцілася новымі гранямі і адцення-

мі сэнсу. *(Паводле Ф. Янкоўскага)*

***Практыкаванне 2.*** *Прачытайце тэксты. Да якіх стыляў мовы яны адносяцца?*

1. Словазлучэнне – мінімальнае лексіка-граматычнае адзінства, утворанае шляхам злучэння на аснове падпарадкавальнай сувязі не меней як двух знамянальных слоў, якое выражае разнастайныя адносіны паміж прадметамі, дзеяннямі і прыметамі.

У словазлучэнні вылучаюць галоўнае ў граматычных адносінах (галоўны кампанент) і граматычна падпарадкаваныя (залежны кампанент) словы. У залежнасці ад выражэння галоўнага кампанента адрозніваюць тыпы словазлучэння: іменныя (субстантыўныя, лічэбнікавыя, займеннікавыя), дзеяслоўныя, прыслоўныя. Словазлучэнне як спецыфічная сінтаксічная адзінка адрозніваецца ад слова і ад сказа. Сутнасць словазлучэння вызначаецца праз яго адносіны да асноўнай сінтаксічнай адзінкі – сказа, які з'яўляецца сродкам камунікацыі. Асноўная функцыя словазлучэння – выражаць адносіны паміж кампанентамі (словам) сказа: прасторавыя, часавыя, прычынныя, мэтавыя, аб'ектныя, атрыбутыўныя, прыналежныя, спосабу дзеяння і інш. Паводле структуры словазлучэнні бываюць простыя і складаныя, прыназоўнікавыя і беспрыназоўнікавыя.

2. Актыўны ў грамадскай рабоце, сціплы, сярод таварышаў карыстаецца вялікім аўтарытэтам і любоўю: фізічна развіты добра. Вынослівы і працаздольны. Тэарэтычны курс засвоіў добра. У пытаннях матэрыяльнай часткі разбіраецца таксама добра, дапамагае тэхніку. Лятаць вельмі любіць. Да палётаў ставіцца прадумана і сур'ёзна. У паветры ўважлівы. Рашэнні прымае ўпэўнена, хутка, правільна. Тэхніка палёту добрая. Лятае смела і ўпэўнена, без залішняй зухаватасці. Заданні выконвае дакладна. Боязні няма. *(Н. Гастэла)*

3. Быў свой, вялікі, родны партызанскі свет. Для кожнага, хто насіў гордае званне народнага мсціўца, асяродкам гэтага свету была яго група, ці аддзяленне, ці ўзвод. За гэтым цэнтрам, найменшым, былі большыя цэнтры: узводы ў атрадзе, атрады ў брыгадзе, брыгады ў злучэнні. Энская пушча як база злучэння ва ўсе бакі – ляскамі, пералескамі і родным полем – злучалася з іншымі масівамі беларускіх лясоў, дзе таксама былі партызаны. На поўнач, поўдзень і ўсход злучэнні беларускіх партызан дзейнічалі поруч з народнымі мсціўцамі іншых братніх рэспублік. Такім чынам ствараўся ён, магутны партызанскі свет, частка неперарможнага, усенароднага фронту змагання з фашызмам. *(Я. Брыль)*

4. Кніга – гэта вечны незгасальны агонь людскога сэрца і розуму. На працягу вякоў яна была адзіным з самых пэўных сродкаў перадачы вопыту ад пакалення ў пакаленне. Яна адзіны жывы сведка чалавечага прагрэсу. Не зважаючы на новыя тэхнічныя сродкі фіксацыі і перадачы гэтага вопыту ў нашу эпоху, кніга і цяпер служыць і надалей будзе нязменна служыць чалавеку. Асабліва вялікая яе роля ў нашым сацыялістычным грамадстве, калі ўсеагульная пісьменнасць і адукаванасць людзей, шырокі размах выдавецкай і бібліятэчнай справы зрабілі яе даступнай усім і кожнаму. Вось чаму савецкія народы так глыбока шануюць пачынальнікаў кнігадрукавання, якім у нашай краіне поруч з іншымі падзвіжнікамі гэтай справы з'яўляецца і выдатны сын беларускага народа Францыск (Георгій) Скарына. *(П. Глебка)*

***Практыкаванне 3.*** *Перакладзіце на беларускую мову, вызначце стыль, тып мовы, абгрунтуйце сваю думку.*

ОСОБЕННОСТИ РУССКОЙ РЕЧИ

Устное слово – это, прежде всего, слово живое, выразительное. Устная речь отличается от письменной тем, что она обладает значительно большим арсеналом средств для передачи мыслей и чувств. Слово в устной речи почти всегда в той или иной степени сопровождается интонацией, мимикой и жестикуляцией. Эти выразительные средства когда-то, на заре истории человечества, были основными способами общения людей друг с другом, но и потом, когда главную роль в общении отвоевало у них слово, они все же остались неизменными спутниками речи.

СЛОВО ОБ УЧИТЕЛЕ

Хороший учитель! На эту тему говорить и очень трудно, и очень приятно. Трудно потому, что ответственно, а приятно потому, что говоришь об одной из самых человечных, душевных профессий…

Если назвать главное, что должно быть в хорошем учителе, то это главное, пожалуй, можно определить так: человечность в самом высоком смысле слова.

В одном фильме учительница произносит, обращаясь к детям, такую фразу: «Я научу вас читать, писать и – мечтать».

По-моему, в этих словах – суть хорошего учителя.

Мне кажется, что если человеку внушать хорошее и делать это от чистого сердца, то любой, даже самый плохой человек, пе-

ременится, только надо делать это от чистого сердца. *(В. Марецкая)*

ТОЛКОВЫЕ СЛОВАРИ

В толковых словарях раскрываются значения слов, поясняются оттенки значений, дается грамматическая характеристика слова, указываются сфера и границы его употребления (стилистические пометы), произношение, написание слова, а также приводятся примеры употребления данного слова речи…

Слово, помещенное в словаре, вместе с толкованием его значения и пометами различного рода составляют словарную статью. Само слово является заголовком словарной статьи. Принцип построения словарной статьи в разных словарях различен, поэтому, прежде чем пользоваться словарем, необходимо познакомиться с его вводной частью.

ЭВМ

Разрядность числовых кодов ЭВМ определяет минимальное количество разрядов, которые могут содержать числовой и командный коды. Разрядность в основном связана с диапазоном представляемых чисел и точностью вычислений; увеличение числа разрядов повышает точность вычислений и диапазон чисел. Принципиально можно построить ЭВМ с любой наперед заданной точностью. Однако увеличение разрядности обрабатываемой информации приводит к увеличению оборудования ЭВМ, а следовательно, к повышению ее стоимости и уменьшению быстродействия.

Надежность ЭВМ – способность выполнять возложенные на нее функции в течение заданного промежутка времени. Надежность ЭВМ определяется средним временем работы между отказами, возникающими из-за неисправности элементов и соединений, несовершенства конструкции. Микроэлектронные ЭВМ значительно надежнее ЭВМ на дискретных элементах, они работают без отказов сотни и тысячи часов.

Габариты, масса и потребляемая мощность ЭВМ наиболее важны для специализированных ЭВМ. Использование микроэлектронной техники дало возможность значительно снизить габариты, массу, потребляемую мощность современных ЭВМ.

К основным характеристикам ЭВМ относят программное управление, универсальность, точность вычислений и быстродействие.

РЕЖИМЫ РАБОТЫ ЭВМ

В современных ЭВМ можно выделить следующие режимы работы: однопрограммный, мультипрограммный, пакетной обработки, разделения во времени, диалоговый и в реальном масштабе времени.



Однопрограммный режим работы – режим, при котором выполняется не более одной независимой программы. При таком режиме работы ЭВМ решение задачи начинается с загрузки программы в ОП, после чего ЭВМ последовательно выполняет команды программы. При этом в каждый момент времени работает только одно ее устройство, в то время как остальные простаивают в ожидании окончания ранее начатого действия. Значительные потери рабочего времени ЭВМ связаны с медленной работой устройств ввода-вывода по сравнению с работой быстродействующих устройств (АЛУ, ЦУУ, ОЗУ).

Мультипрограммный режим работы – режим, при котором в памяти ЭВМ хранится несколько программ и выполнение одной программы может быть прервано для перехода к выполнению другой с последующим возвратом к прерванной программе. При совместном выполнении нескольких программ простои оборудования уменьшаются, поскольку увеличивается вероятность того, что среди находящихся в ЭВМ программ имеется одна, готовая к использованию освободившегося оборудования. Для уменьшения простоев оборудования ЭВМ широко применяют метод организации параллельной работы устройств ЭВМ за счет совмещения различных операций при работе ЭВМ. В целях более эффективного использования ЭВМ организуют мультипрограммную обработку информации на ЭВМ так, чтобы ею параллельно выполнялись команды, относящиеся к различным и независимым программам.

Введение в ЭВМ мультипрограммного режима повышает ее производительность за счет увеличения числа задач, решаемых ЭВМ в течение некоторого промежутка времени. При этом время решения отдельной задачи увеличивается по сравнению с временем решения ее в однопрограммном режиме.

Режим пакетной обработки. Для обеспечения мультипрограммной обработки информации необходимо наличие нескольких задач, ожидающих обработки. Для эффективной загрузки ЭВМ используется режим пакетной обработки данных. В этом режиме задачи (программы и данные), подготовляемые многими пользователями ЭВМ, собираются в пачки-пакеты. Пакет состоит из заданий (не более 15), относящихся ко многим задачам, обработка

которых занимает не менее часа машинного времени.

Различают два режима пакетной обработки. В первом число заданий (задач), выполняемых одновременно, фиксируется, а во втором не фиксируется, но в процессе обработки пакета ЭВМ оно может изменяться динамически. Пакет, предварительно записанный на том или ином носителе информации, вводится в ОЗУ ЭВМ. Когда пакет загружен, ЭВМ выбирает на обработку несколько задач (заданий) и начинает выполнять их в мультипрограммном режиме. Когда решение одной группы заданий пакета закончено, из него выбирается для обработки следующая группа, и это продолжается до тех пор, пока не будет обработана последняя группа заданий пакета. После этого в ЭВМ вводится новый пакет задач.

Пакетная обработка данных позволяет увеличить производительность ЭВМ и уменьшить стоимость машинной обработки информации.

Режим разделения времени обеспечивает непосредственный и одновременный доступ к ЭВМ некоторому количеству пользователей (абонентов) чаще всего с дистанционно удаленных пунктов (терминалов). Терминал – периферийное устройство, предназначенное для обслуживания одного человека, решающего задачи на ЭВМ.

Пользователи с помощью терминалов вводят в ЭВМ исходные данные и программы и получают результаты вычислений. ЭВМ предоставляет каждому активному терминалу квант времени, равный секундам и долям секунды. По истечении этого времени ЭВМ переходит к обслуживанию следующего пользователя. За некоторый период времени ЭВМ обслуживает всех пользователей.

При достаточно высоком быстродействии ЭВМ у отдельного пользователя создается иллюзия непрерывного контакта с ЭВМ.

Разделение времени позволяет устранить потери машинного времени, связанные с вмешательством оператора в работу ЭВМ из-за сравнительно низкой его скорости реакции, необходимости выполнения им определенных действий вне ЭВМ и медленного ввода информации с пульта оператора. При мультипрограммной работе ЭВМ в промежуточные паузы работы одного оператора к ЭВМ имеют доступ другие, что позволяет обеспечить полную загрузку внутренних устройств ЭВМ и тем самым поднять эффективность ее работы.



Режим разделения времени совместим с режимом пакетной обработки данных, которая предусматривается в ЭВМ для решения задач в отдельные периоды времени, когда пользователи не загружают ЭВМ полностью.

Диалоговый режим работы (режим «запрос-ответ») – режим, при котором все программы пользователей постоянно хранятся в памяти ЭВМ и пользователи имеют непосредственный доступ к ЭВМ. От пользователей в ЭВМ поступают входные данные и запросы с пультовых пишущих машинок или дисплеев. Ответ формируется по программе, соответствующей определенному запросу. Выбор допустимых запросов ограничен емкостью памяти. Каждый запрос имеет соответствующий приоритет и временные ограничения на срок обслуживания.

Режим работы в реальном масштабе времени – режим, при котором ЭВМ управляет работой какого-либо объекта или технологического процесса. Особенностью работы в реальном масштабе времени является то, что, помимо арифметической и логической обработки, выполняется слежение за работой объекта или прохождением некоторого процесса. Реализация этого режима привела к усложнению устройств и программного обеспечения ЭВМ.

## ПОКОЛЕНИЯ ЭВМ

Цифровые ЭВМ – результат развития электронной вычислительной техники (ВТ). Ее создание связано с именем английского математика Ч. Бэббиджа, который в 1833 г. высказал идею программного управления для построения устройства, автоматически выполняющего арифметические действия. Однако его попытки построить механическое вычислительное устройство с программным управлением не увенчались успехом из-за низкого уровня развития техники и технологии того времени.

Фактически эта идея была реализована по проекту Г. Айкена фирмой ИБМ (США) в машине «Марк-1». «Марк-1» была построена на электромагнитных реле и имела программу, набираемую вручную на коммутационных досках и переключателях.

Первая цифровая ЭВМ была создана в 1945 г. под руководством Дж. Моучли и Дж. Эккерта (США). Она была названа ENIAC (аббревиатура слов Electronic Numerical Entegrator And Calculator – электронный численный интегратор и калькулятор). Ма-

шина была построена на 18 000 электронных лампах, выполняла 5000 операций в секунду и имела память емкостью всего 20 десятиразрядных десятичных чисел. Управление работой машины осуществлялось с помощью коммутационной доски, на которой набиралась программа вычислений.

В 1945 г. американский математик Дж. фон Нейман выдвинул идеи, состоящие в управлении вычислениями с помощью программы, хранимой в памяти машины, и в использовании двоичной системы счисления. Первые ЭВМ с программным управлением появились практически одновременно в Англии, США, СССР. В Советском Союзе первой цифровой ЭВМ была МЭСМ (малая электронная счетная машина), созданная в 1951 г. в Институте математики АН УССР под руководством академика С. А. Лебедева… *(К. Нешумова)*



**Умоўныя скарачэнні**

*А. Ж.* – А. Жаўрук
*А. К.* – А. Кудравец
*А. М.* – А. Марціновіч
*А. П.* – А. Пысін
*А. С.* – А. Савіцкі
*Адам.* – А. Адамовіч
*Ал.* – А. Александровіч
*Аўр.* – М. Аўрамчык
*Б.* – Я.Брыль
*Бач.* – А. Бачыла
*Бр.* – П. Броўка
*Бур.* – Г. Бураўкін
*В.* – А. Васілевіч
*В. Б.* – В. Быкаў
*Віт.* – В. Вітка
*Вярц.* – А. Вярцінскі
*Гар.* – М. Гарэцкі
*Гіл.* – Н. Гілевіч
*Грах.* – С. Грахоўскі
*Е.Л.* – Е. Лось
*Ж.* – А. Жук
*Зв.* – А. Звонак
*І. М.* – І. Мележ
*І. Н.* - І. Навуменка
*К. Б.* – К. Буйло
*К. Ч.* – К. Чорны
*К-с* – Я. Колас
*Каратк.* – У. Караткевіч
*Кір.* – К. Кірэенка
*Кр.* – К. Крапіва
*Краўч.* – У. Краўчанка
*Кудр.* – А. Кудравец
*Кул.* – А. Кулакоўскі
*Куп.* – Я. Купала
*Л.* – И. Левіч
*ЛіМ.* – газета «Літаратура і мастацтва»
*Луж.* – М. Лужанін
*Лыньк.* – М. Лынькоў
*М. К.* – М. Калачынскі
*М. Т.* – М. Танк
*Н. М.* – Н. Мацяш
*П. М.* – П. Макаль
*Панч.* – П. Панчанка
*Пташн.* – І. Пташнікаў
*Р. Б.* – Р. Барадулін
*Р. М.* – Р. Мурашка
*Сам.* – Э. Самуйлёнак
*Сач.* – Б. Сачанка
*Скр.* – Я. Скрыган
*Тр.* – П. Трус
*Уладз.* – А. Уладзімірава
*Хадк.* – Т. Хадкевіч
*Хвед.* – М. Хведаровіч
*Чыгр.* – І. Чыгрынаў
*Шам.* – І. Шамякін
*Я. С.* – Я. Сіпакоў

## Рэкамендаваная літаратура

1. *Абабурка, М.* Культура беларускай мовы / М. Абабурка. – Мінск : Выш. шк., 1994.
2. *Адамовіч, Я. М.* Беларуская мова : зборнік практыкаванняў : вуч. дапаможнік / Я. М. Адамовіч, М. І. Касцян, В. У. Ляпёшкін. – 2-е выд., перапрац. – Мінск : Выш. шк., 1993.
3. *Антанюк, Л. А.* Беларуская мова і спеціяльная лексіка / Л. А. Антанюк, Б. А. Плотнікаў. – Мінск, 2002.
4. *Бурак, Л. І.* Сучасная беларуская мова : арфаграфія і пунктуацыя : практыкум / Л. І. Бурак, І. Л. Бурак. – Мінск : Універсітэцкае, 1993.
5. *Введенская, Л. А.* Культура речи. / Л. А. Введенская. – Ростов н/Д : Феникс, 2003.
6. *Каўрус, А. А.* Стылістыка беларускай мовы / А. А. Каўрус. – 3-е выд., дапрац. і дап. – Мінск : Нар. асвета, 1992.
7. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. А. Б. Баханькова. – Мінск : Навуа і тэхніка, 1994.
8. *Плещенко, Т. П.* Стилистика и культура речи : учеб. пособие / Т. П. Плещенко, Н. В, Федотова, Р. Г. Чечет ; под ред. П. П. Шубы. – Минск : Тетра системс, 2001.
9. Сучасная беларуская мова : Лексікалогія, фразеалогія : вучэб. дапам. для філал. фак. ун-таў / В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова. – Мінск, 1984.
10. Сучасная беларуская літаратурная мова : практ. заняткі : для філал. фак. пед. ін-таў / Н. В. Гаўрош [і інш.] ; пад агул. рэд. Ф. М. Янкоўскага. – 2-е выд., перапрац. – Мінск : Выш. шк., 1987.
11. *Сцяцко, П. У.* Культура мовы / П. У. Сцяцко. – Мінск, 2002.
12. *Цікоцкі, М. Я.* Стылістыка беларускай мовы : вучэб. дапам. для фак. журналістыкі / М. Я. Цікоцкі. – 2-е выд., перапрац. і дап. – Мінск : Універсітэцкае, 1995.
13. *Цыбульская, С. І.* Беларуская мова : інтэнсіўны курс падрыхтоўкі да тэсціравання і экзамену / С. І. Цыбульская. – Мінск : Тетра Системс, 2004.
14. *Цыбульская, С. І.* Беларуская мова : для паступаючых у тэхнікумы, каледжы, вучылішчы / С. І. Цыбульская, А. М. Копач. – 5-е выд. – Мінск : Тетра Системс, 2005.



## Змест

Прадмова . . . . . 3

**Фанетыка** . . . . . 4
**Арфаграфія, арфаэпія, правапіс** . . . . . 7

**Марфалогія і правапіс** . . . . . 23
Назоўнік . . . . . 23
Прыметнік . . . . . 37
Лічэбнік . . . . . 41
Займеннік . . . . . 46
Дзеяслоў . . . . . 49
Дзеепрыметнік . . . . . 51
Дзеепрыслоўе . . . . . 60
Прыслоўе . . . . . 64
Прыназоўнік . . . . . 66

**Тэст 1** . . . . . 71

**Тэст 2** . . . . . 73

**Тэст 3** . . . . . 76

**Кантрольная работа** . . . . . 79

**Функцыянальныя стылі мовы** . . . . . 80

Рэкамендаваная літаратура . . . . . 90

Вучэбнае выданне

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

ПРАКТЫКУМ
для навучэнцаў усіх спецыяльнасцей

Складальнік
**Акуліч** Наталля Мікалаеўна

Адказны за выпуск В. П. Казельская
Рэдактар Ю. С. Грышкевіч
Карэктар І. С. Сабалеўская
Камп'ютэрная вёрстка І. С. Сабалеўская

Падпісана да друку 18.01.2012. Фармат $60 \times 84^{1}/_{16}$. Папера пісчая.
Рызаграфія. Ум. др. арк. 5,35. Ул.-выдав. арк. 4,63. Тыраж 100 экз. Заказ 17.

Выдавец і паліграфічнае выкананне: установа адукацыі
«Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж»
ВЛ № 02330/0494033 ад 08.01.2009.
Пр. Незалежнасці, 62, 220005, г. Мінск.